А. І. Бельскі, Л. К. Цітова

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Вучэбны дапаможнік
для **6** класа агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2010

УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)
ББК 83.3(4Беи)я721
Б44

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта (канд. філал. навук, дац., заг. кафедры *П. В. Васючэнка*); настаўнік беларус. мовы і літаратуры выш. катэгорыі гімназіі № 25 г. Мінска *Л. Ф. Кандуховіч*; канд. філал. навук, дац., член секцыі філал. дысцыплін Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы *М. Ф. Шаўлоўская*; метадыст I катэгорыі навучальна-метадычнага аддзела Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў аграпрамысловага комплексу Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта, член секцыі філал. дысцыплін Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы *А. М. Градзецкая*

На вокладцы рэпрадукцыя карціны
І. Рэя «Францыск Скарына»

**Бельскі, А. І.**
Б44 Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 6-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. І. Бельскі, Л. К. Цітова. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2010. — 320 с.
ISBN 978-985-465-730-1.

**УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 83.3(4Беи)я721**

---

**ISBN 978-985-465-730-1**



## КНІГА АДКРЫВАЕ СВЕТ

### *Дарагія шасцікласнікі!*

Вы разгарнулі кнігу, якая на працягу навучальнага года будзе вам дарадцам і спадарожнікам на ўроках роднай літаратуры.

Шчаслівы той чалавек, хто любіць чытаць. Ён заўсёды сярод добрых і надзейных сяброў — кніг. Кніга — найвышэйшы здабытак людской мудрасці, яна захоўвае гісторыю шматлікіх пакаленняў, памяць чалавечага роду, яго спадзяванні і мары.

Вам, напэўна, вядома, што доўгі час кнігі былі рукапіснымі. Вялікім дасягненнем стала для чалавека друкаваная кніга. У Еўропе пачатак кнігадрукаванню паклаў Іаган Гутэнберг. Следам за ім у 1517 годзе славуты сын беларускай зямлі Францыск Скарына надрукаваў першую кнігу на роднай мове. Ён даў прыклад у кнігадрукарскай справе іншым усходнеславянскім народам. Так, першыя кнігі ў Расіі і Украіне былі надрукаваны на пяцьдзясят гадоў пазней.

«Кнігі — сябры...» — так лічыў пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Ён добра ведаў, якім складаным і цяжкім быў лёс тых людзей, што імкнуліся даць свайму народу святло ведаў. У XIX стагоддзі

гэта былі кніганошы, якія, рызыкуючы воляй і жыццём, прыносілі ці прывозілі кнігі з-за мяжы. Кніга адкрывае акно ў вялікі свет, узбагачае ведамі, яе прызначэнне — зрабіць чалавека добрым, духоўна прыгожым, адукаваным.

Прачытаныя ў дзяцінстве кнігі мелі выключнае значэнне і для будучых вялікіх пісьменнікаў. Пра гэта сведчаць іх прызнанні і ўспаміны. Асаблівая роля належыць кнігам на роднай мове. Цікавасць да іх абудзіла да ўласнай творчасці Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча... З кнігамі яны не развітваліся ўсё жыццё. Максім Багдановіч па кнігах з бацькавай бібліятэкі вывучаў родную мову, народныя традыцыі і мінулае Беларусі. Будучы паэт чытаў лепшыя творы пісьменнікаў свету на розных замежных мовах. Ён амаль заўсёды хадзіў з кнігай. Нездарма сябры называлі яго Максімам-кніжнікам. Максім Багдановіч стаў адным з высокакультурных людзей свайго часу. Гэткім жа вялікім кніжнікам быў пісьменнік Янка Брыль. Ён надзвычай шмат чытаў, захапляўся творчасцю беларускіх, рускіх, польскіх і іншых пісьменнікаў. На яго пісьмовым стале заўсёды можна было заўважыць новую кнігу.

Кніга падтрымлівае нас у цяжкую хвіліну, дапамагае разабрацца ў складаных жыццёвых сітуацыях, канфліктах, каб прадухіліць магчымыя памылкі. Прачытаем адну-дзве старонкі — і адбываецца цуд: перад намі выразна паўстаюць малюнкі жыцця, а героі ўспрымаюцца быццам жывыя, рэальныя людзі. Смелыя, высакародныя, гордыя, яны адкрываюць таямніцы прыроды, вандруюць па розных мясцінах, мінулых эпохах, спрабуюць зазірнуць у будучыню.

І мы жывём разам з героямі кніг — хвалюемся, радуемся, сумуем. Мы нібыта бачым іх, чуем іх галасы. Мы ўражаны сілай мастацкага слова, намі авалодваюць пачуцці, яшчэ не зведаныя ў жыцці.

Аднак знаёмства з мастацкім творам — гэта не толькі захапленне, задавальненне сваёй цікаўнасці. Гэта яшчэ і сур'ёзная праца розуму, душы: каб спасцігнуць мастацкую карціну жыцця, неабходна мець багатае ўяўленне, назіральнасць, жаданне зразумець героя. Патрэбна таксама мець уяўленне пра некаторыя асаблівасці пісьменніцкага майстэрства, бо мастацкі твор — вынік глыбокага роздуму і перажыванняў аўтара, плён яго багатага жыццёвага вопыту, творчай фантазіі, працы над кожным словам і вобразам.

Гэты падручнік пазнаёміць вас з асобнымі тэкстамі, створанымі на працягу многіх стагоддзяў. Чытайце іх не спяшаючыся. Думайце і разважайце над кожным творам, старайцеся знайсці адказы на пытанні, выканаць прапанаваныя заданні. І не забывайце наказ нашага славутага продка Францыска Скарыны, першадрукара і асветніка, мастака і пісьменніка, які вучыў нашчадкаў любіць кнігу — крыніцу ведаў і мудрасці чалавечай, шанаваць як святыню родную мову, берагчы зямлю, на якой узгадаваны, не шкадаваць сіл, каб годна служыць свайму народу.

Плёну і поспехаў вам на шляху пазнання свету, на шляху спасціжэння Дабра і Прыгажосці!



**1.** Паразважайце, чаму шчаслівы той чалавек, які сябруе з кнігай, шмат чытае.
**2.** Як прыйшла да нас кніга? Хто паклаў пачатак кнігадрукаванню?

3. Раскажыце пра ролю кнігі ў жыцці славутых беларускіх пісьменнікаў.
4. Якое прызначэнне мастацкай кнігі? У чым вам бачыцца яе каштоўнасць?
5. Чым з'яўляецца для вас чытанне мастацкіх твораў:
   а) крыніцай разнастайных ведаў;
   б) задавальненнем сваёй цікаўнасці;
   в) знаёмствам з захапляльнымі гісторыямі, падзеямі, смелымі і высакароднымі героямі;
   г) сур'ёзнай і ўдумлівай працай;
   д) магчымасцю адпачыць, з карысцю для сябе бавіць вольны час?
   Абгрунтуйце зроблены вамі выбар.
6. Разгледзьце на вокладцы падручніка рэпрадукцыю карціны Івана Рэя «Францыск Скарына». Якое ўражанне зрабіла на вас гэта карціна? Якім паўстае на палатне наш славуты вучоны і першадрукар? Раскажыце, што вы ведаеце пра Скарыну.
7. У адным з твораў паэт Максім Танк зазначае, што сёння мы маем *ад Скарыны-бацькі кнігу*. Як вы думаеце, чаму ён называе Скарыну *бацькам*?
8. Падрыхтуйце вуснае выказванне на адну з наступных тэм: «Мая любімая кніга», «Кніга — сябар і дарадца», «Кніга навучыла, падказала, дапамагла...».



# МОЙ РОД. РОДНАЯ ЗЯМЛЯ. НАРОД

## Уладзімір ЛІПСКІ

### АД РОДУ — ДА НАРОДУ

*(З кнігі «Я»)*

Я, Ты, Ён, Яна — людзі на планеце Зямля.

Што мы робім?

Жывём!

У прызначаны для нас гістарычны міг дыхаем, працуем і харчуемся, пазнаём свет і сябе, весялімся і плачам, спрачаемся і радуемся, кахаем і ненавідзім, ваюем і сябруем...

Вучоныя з Японіі збіралі звесткі пра гены[1] ў людзей розных рас на Зямлі. Вывад адназначны: усе галіны чалавецтва маюць адну прарадзічку, агульную Маму. Яна жыла каля двухсот тысяч гадоў назад недзе ў Афрыцы. А мы, яе дзеці, жывём у розных краінах і ніяк не можам дамовіцца аб міры і згодзе...

---

[1] *Ген* — часцінка спадчыннага рэчыва, з дапамогай якога прыкметы і ўласцівасці бацькоў перадаюцца нашчадкам.

Корань сілкуе дрэва, дае яму моц. Расце дрэва, множыцца і... гіне. Ці па ўзросту падае, ці ад сякеры дрывасека, ці ад хвароб, ці ад нядбайнасці гаспадароў. А на яго месцы вырастае новы ствол. Жыццё прадаўжаецца!

У кожнага сямейнага радаводу — сваё дрэва. У яго свае карані, ствол, галіны, лісце, насенне, плады.

У прыродным лесе растуць дуб, ліпа, граб, клён бяроза, асіна...

У лесе чалавечым жывуць Дубовікі, Ліпскія, Ліпніцкія, Грабаўскія, Клёнскія, Асінаўскія...

Лес прыродны не можа расці без кустоў, парасткаў, зараснікаў. Ёсць дрэвы-волаты і карлікі, засохлыя і крывыя, кучаравыя і абкарнаныя[1]. Гэтак жа і ў лесе чалавечым.

А я веру: у кожнага чалавека сваё Я. Непаўторнае!

Кожны чалавек — Асоба!

Кожнае чалавечае жыццё — Кніга!

І глыбока ўсвядоміў новую ісціну: чалавек — гэта цэлая планета.

Не верыце?

А давайце разам намалюем гэту чалавечую планету. У цэнтры паставім — Я. Гэта толькі ў алфавіце Я — апошняя літара. А ў жыцці кожнае Я — галоўная фігура на Зямлі, стрыжань, вакол якога адбываюцца ўсе падзеі.

Вакол Я правядзём дужку, вясёлку, карону, касмічны скафандр, адным словам, як хто ўяўляе той арэол над сабой. Але прызнаем галоўнае: як бы чалавек ні выстаўляў сваё Я, у якія б высі ні

---

[1] *Абкарна́ны* — няроўна, коратка падрэзаны.

ўзнімаўся, як бы нізка ні падаў, павінен помніць, улічваць бацькоўскае біяполе[1]. Хочам таго ці не, а нам з малаком маці, па спадчынных генах, перадаецца ўсё тое важнае і важкае, што рухае нас па Зямлі і ўтрымлівае ў вобразе чалавека.

І гэта абавязвае нас над Я правесці яшчэ адну дужку. Атрымліваем арбіту з дзвюх раўнацэнных палавін: бацька і маці. Яны далі жыццё нам. Мы ў вечным і неаплатным даўгу перад імі. На іх молімся. Яны сняцца нам, не пакідаюць нас, калі нават адыходзяць у вечнасць.

Над бацькамі — свая арбіта: нашы бабкі і дзяды. Іх у кожнага Я — чатыры. І гэта не залежыць ні ад якіх жыццёвых бедаў: сіратой чалавек гадаваўся ці ў сям'і, з адной маці ці з адным бацькам. Усё роўна на гэтай вышыні яго «нараджалі» чацвёра людзей і перадалі яму свой генны набытак.

А калі далей будаваць арбіты вакол Я, то блізкія, роднасныя сувязі з кожным новым вітком падвойваюцца. У трэцім калене ў кожнага з нас ужо восем прабабак і прадзедаў. У чацвёртым — шаснаццаць, у пятым — трыццаць два. А ў дзясятым — 1024!

Калі ўлічыць, што за сто гадоў мяняецца прыкладна тры пакаленні людзей, то ў дадзеным выпадку наша Я атрымала спадчыну ад дзесяці пакаленняў — 1024 прародзічы! Яны на працягу трохсот гадоў «ляпілі» сённяшняга цябе, мяне, яго, яе...

Ці апраўдваем іх давер?

Ці ўдзячны ўсім тым людзям, якія па генах перадавалі нам жыццё?

---

[1] *Біяпо́ле* — прастора дзеяння жыццёвых сіл.

Ці зрабілі крок да таго, каб нешта даведацца пра іх колішняе існаванне?

Заплюшчы вочы, сённяшняе Я, задумайся, не палянуйся разважыць — і цябе апануе неўтаймоўная цікаўнасць. Давай разам уявім, у якую эпоху жылі нашы 1024 блізкія прародзічы.

А яшчэ ўлічым, што ў кожнага з іх былі браты і сёстры, а нашы — прапрадзядзькі, прапрацёткі.

А ў тых — свае дзеці. Дык вунь які пласт радні меў кожны з нас трыста гадоў назад!

Праз пэўны час Я сустракае Яе. Кахаюцца, жадаюць прадоўжыць род. Яны ідуць у Палац рэгістрацыі шлюбаў альбо ў царкву ці касцёл, сінагогу, мячэць. Узнікае Сям'я! Я і Яна аб'ядноўваюць, злучаюць два свае радаводныя паўкругі, і атрымліваецца планета роднасных людзей. Ядро ў ёй — маладажоны, стваральнікі новых жыццяў.

Гэта планета-ракета здольная вынесці на арбіту новых і новых прадаўжальнікаў роду. Вось і жывуць вакол яе найдаражэйшыя спадарожнікі — Дочкі, Сыны, Унукі, Праўнукі...

Дзеці — спадарожнікі планеты Сям'я. На ёй яны напаўняюцца мудрасцю, сілай, жыццёвым зарадам. І, адчуўшы моц у крылах, з дапамогай бацькоў узлятаюць на сваю арбіту. Ствараюць сваю жыццёвую планету Я.

Так было.

Ёсць!

І будзе!..

Жывуць на Зямлі людзі.

Людзі згуртаваны ў народы.

У кожным чалавеку — сваё Я.

Я ўтрымлівае ядро са спадчыннымі генамі. А ў іх — наша мінулае, сённяшняе, будучае.

Я плюс Я — сям'я.
Сям'я плюс сям'я — род.
Род плюс род — народ.
Народ плюс народ — людзі Зямлі...

Хай гэтая жывая карусель будзе вечнай, каб народ не згубіў повязь часоў, каб мацнелі сем'і, на якіх трымаюцца род і народ, іх слава і моц.

Хай кожнае чалавечае Я стане вобразам Дабрыні, Розуму і Любові. Тады і Зямля наша ператорыцца ў планету Шчасця. Тады і мы станем Людзьмі. І захочацца нам адзін аднаго называць родзічам.

Хай так будзе!



**1.** Ці можам мы назваць людзей, якія жывуць на нашай Зямлі, вялікай сям'ёй?
**2.** Чаму кожны сямейны радавод нагадвае дрэва, а людская супольнасць падобная да лесу?
**3.** Ці згодныя вы з думкай, што кожны чалавек — цэлая планета? Зачытайце разважанні аўтара пра тое, як узбагачаюцца родасныя сувязі чалавека з кожным новым пакаленнем.
**4.** Вызначце корань у слове *народ*. Хто складае народ?
**5.** Разгледзьце фрагмент роспісу Эдуарда Рымаровіча «Дзяцінства». (Гл. уклейку.) Чаму без дзяцей няма будучыні ў нашай планеты Зямля?
**6.** Паразважайце, чаму кожны з нас павінен ведаць свае карані, памятаць продкаў. Чаму трэба шанаваць і берагчы свой радавод?
**7.** Дзе і калі нарадзіліся вашы бацькі? Што вы ведаеце пра жыццё іх братоў і сясцёр?
**8.** Разгледзьце фрагмент радаводу Янкі Купалы (па бацькоўскай лініі):

***Уладзіслава Станкевіч***
25.12.1891 — 25.02.1960
(жонка паэта)

***Янка Купала***
(Іван Дамінікавіч Луцэвіч)
07.07.1882 — 28.06.1942

***Ганна*** 1886—1962
***Марыя*** 1887—1966
***Леакадзія*** 1890—1970
***Казімір*** 1891—1902
***Сабіна*** 1893—1902
***Гэлена*** 1896—1902

сёстры і брат Янкі Купалы

***Бянігна Валасевіч***
1857—1942
(маці Янкі Купалы)

***Дамінік***
1846—1902
(бацька Янкі Купалы)

***Валерыя Зянкевіч***
1823—1913
(бабка Янкі Купалы)

***Ануфры***
1814—1883
(дзед Янкі Купалы)

***Тэрэса***
?—?
(прабабка Янкі Купалы)

***Дамінік***
1788—?
(прадзед Янкі Купалы)

***Іван*** каля 1755—1813
(прапрадзед Янкі Купалы)

**9.** Распытайце бацькоў пра сваіх продкаў (дзеда, бабулю, прадзеда, прабабулю і г. д.) і запішыце асноўныя звесткі пра іх (месца і час нараджэння ці гады жыцця), даведайцеся, дзе яны жылі, колькі мелі дзяцей і як тых звалі. Складзіце (або паспрабуйце намаляваць) радаводнае дрэва — выяву свайго радаводу па бацькоўскай лініі (вазьміце за ўзор радавод Янкі Купалы).

**10.** Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Эдуарда Белагурава «Партрэт бацькоў». (Гл. уклейку.) Якія выразныя дэталі мастацкага палатна сведчаць, што яго героі прайшлі няпросты жыццёвы шлях? Падзяліцеся сваімі думкамі і развагамі.

## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

### ПРОДКІ

Калі марнею ад нягод
І сэрцу цесна,
Я ўспамінаю радавод
І продкаў песні.

Яны ідуць за годам год
З мячом і з плугам.
О, мой нязводны род,
Ён моцны духам!

Імёны памяць берагла,
Вяла праз церні[1],
Каб я не сеяў зла,
А толькі — зерне.

Да іх іду я зноў і зноў,
Ім веру свята.
Таму й вяду сваіх сыноў
Да іх на раду.

?

1. Што гаворыць паэт пра сваіх продкаў?
2. Як вы разумееце выраз *нязводны род*?
3. Якім павінен быць чалавек, каб быць вартым памяці продкаў? Пры адказе на пытанне падмацуйце свае развагі радкамі з верша.
4. Як вы думаеце, чаму ў дні жыццёвых выпрабаванняў і нягод людзі звяртаюцца ў думках да сваіх продкаў? Чаму просяць у іх парады?
5. Вывучыце верш на памяць.

---

[1] *Це́рні* — тут: цяжкасці, пакуты, якія сустракаюцца на жыццёвым шляху чалавека.

## Еўдакія ЛОСЬ

### ПРОДКІ

Мая радзіма —
Жытні колас,
Сінь мурагу, язміну цвет.
Яна —
Пілы гарачай голас,
Калёс цяжкіх глыбокі след...
Мая радзіма —
Дзе з-за бору
Ўзыходзіць месяц уначы,
Дзе ў братнім ладзе, ў дружным зборы
Жылі калісьці крывічы[1]...
Валілі лес, аралі ляды[2],
Сушылі гуртам нераты[3]
І да туманных даляглядаў
Ганялі спраўныя плыты.
Дзяцей бацькі вучылі строга
Любіць саху, пчалу, зямлю
І аднаму маліцца богу —
Нялёгкай працы мазалю.
Таму і праўнуку, і ўнуку
Было няміла нішчыць, біць;
Ён вывучаў адну навуку,
Адно евангелле[4]: рабіць...

---

[1] *Крывічы́* — аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямён у старажытнасці. Крывічы разам з радзімічамі і дрыгавічамі з'яўляюцца продкамі беларусаў.

[2] *Ля́да* — дзялянка высечанага лесу, расчышчанае месца пад пасеў.

[3] *Не́рат* — прыстасаванне для лоўлі рыбы.

[4] *Ева́нгелле* — рэлігійны твор, у якім расказваецца пра жыццё Ісуса Хрыста; тут: жыццёвая навука.

Рабіў ён зрубы залатыя,
Нарогі[1], гонкія чаўны
І сцены белыя Сафіі[2]
Над плынню быстраю Дзвіны.
Умеў мой продак човен ладзіць,
Паліць ікластыя карчы,
Таму, хто ў роспачы, —
дарадзіць,
Таму, хто ў горы, —
памагчы...

?

1. З якімі вобразамі звязана ўяўленне паэтэсы пра радзіму?
2. Якім бачыцца аўтару верша жыццё нашых далёкіх продкаў?
3. Якую навуку перадавалі крывічы сваім нашчадкам? Як пра гэта сказана ў вершы? Зачытайце адпаведныя радкі.
4. Чаму нашы продкі-крывічы больш за ўсё шанавалі працу?
5. У чым, на вашу думку, вытокі моцы і трываласці чалавека?
6. Вызначце вобразна-выяўленчыя сродкі, пры дапамозе якіх аўтар стварае паэтычны вобраз Радзімы.

## Пятрусь БРОЎКА

### ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСІ

*(Урывак з паэмы «Беларусь»)*

Зямля Беларусі! Бары і дубровы,
Жытнёвае поле, шаўковы мурог,

---

[1] *Наро́г* — частка плуга, якая падразае зямлю знізу.
[2] *Сафі́я* — тут: Сафійскі сабор у Полацку.

У промнях рабіны заход вечаровы,
Што клёкат буслоў — ручаёў перамовы
І ў шумных прысадах істужкі дарог.

Зямля Беларусі! Вачамі азёраў
Глядзіш ты ў празрыстыя высі нябёс,
Начамі, што яблыкі, падаюць зоры,
Знікаюць па водах, па чорных разорах,
Па травах, абсыпаных кроплямі рос.

Былога быліны, старога паданні
Плывуць, як аблітыя сонцам чаўны,
Па краю зялёным, прасторах бяскрайніх
Ад Нёмна да Сожа, ад Буга да Гайны,
Па хвалях Дняпра і шырокай Дзвіны.

Бацькоў нашых слава на іх узбярэжжах,
Гамоняць пра гэта бары-байкары[1],
Гамоняць пра гэта і Полацка вежы,
І Турава сцены, і шум Белавежы,
І роднага Мінска сівыя муры...



1. Як паэт ставіцца да беларускай зямлі, з якім пачуццём гаворыць пра яе?
2. Якой паўстае зямля Беларусі ва ўяўленні паэта? Якія малюнкі і вобразы раскрываюць яе адметнасць, непаўторнасць? Пры адказе зачытайце радкі з твора.
3. Якія беларускія рэкі называе паэт? Што нас, сучасных людзей, звязвае з гэтымі рэкамі? Знайдзіце і зачытайце адпаведныя радкі.
4. Пра што нагадвае нам паэт, называючы старажытныя беларускія гарады?

---

[1] *Байка́р* (ад *ба́яць* — распавядаць) — тут: той, хто быў сведкам даўнейшых падзей і цікава пра іх расказвае.

5. Паразважайце, чаму Беларусь называюць краем белых буслоў, краінай лясоў, рэк і азёр. Пры адказе, каб перадаць свае думкі і пачуцці, выкарыстайце паэтычныя вобразы з твора.
6. Зямля Беларусі — што яна значыць для паэта і для ўсіх нас, людзей XXI стагоддзя?
7. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Уладзіміра Масленікава «Зямля дзядоў». (Гл. уклейку.) Якой уяўляе сваю зямлю мастак? Як вы думаеце, чаму карціна мае такую назву? Якія паэтычныя радкі, на вашу думку, сугучныя настрою мастацкага палатна?
8. Падбярыце да паэтычнага твора ілюстрацыі з альбомаў жывапісу або падрыхтуйце ўласны малюнак на тэму «Мая зямля».

## Леанід ЯКУБОВІЧ[1]

* * *

О Беларусь! Старонка дарагая,
Мне без цябе — як дрэву без вады...
Хоць непрыкметнай птушкай твайго гаю, —
Абы з табой... Навекі, назаўжды!

?

1. Якія вобразы згадвае аўтар, каб выказаць свае пачуцці?
2. Як вы лічыце, чаму паэту цяжка, нават немагчыма жыць без роднай старонкі?

---

[1] Паэт Леанід Якубовіч (1948—1970) усім сэрцам любіў сваю Бацькаўшчыну. Жыццё адмерала яму вельмі мала часу: ён трагічна загінуў, спускаючыся ў шахту Салігорскага калійнага камбіната.

3. Вызначце ў вершы зваротак і параўнанні. Растлумачце іх ролю ў раскрыцці аўтарскага перажывання.

## Люба ТАРАСЮК

### ІМЯ АЙЧЫНЫ

Давеку я, напэўна, не збяру
Усю яе ў праявах разнастайных.
Маленькая, як сэрца, Беларусь
Адданаю любоўю вырастае.

За бохан сонца, што з маленства меў,
Ці сплаціш ёй душэўнаю турботай?..
Сваю Айчыну ўбач і зразумей,
І ў ёй сябе ты зразумееш потым.

Сваёй Айчыны яснае імя,
Нібы уласнае —
Не дай запляміць...
І светлы цень буслінага крыла
Над рэкамі, дарогамі, палямі.

?

1. Што, на вашу думку, натхніла аўтара на стварэнне гэтага верша?
2. Як вы думаеце, чаму Беларусь успрымаецца паэтэсай *маленькай, як сэрца*?
3. Якой вам бачыцца наша Айчына — Беларусь? Якія адразу згадваюцца вобразы, карціны, з'явы?
4. Да каго звернуты словы паэтэсы? Пра што хвалюецца яна, думаючы пра стаўленне да Айчыны?
5. Растлумачце сэнс паэтычнага вобраза *І светлы цень буслінага крыла // Над рэкамі, дарогамі, палямі*.

## Юрась СВІРКА

### ВЕРНЫ КРЭЎНАМУ БРАЦТВУ

Ёсць чаму, ёсць чаму
І ў народа майго павучыцца:
Як змагацца з чужынцам
Суровай парой.
Ёсць за што, ёсць за што
І народу майму ганарыцца:
Не хадзіў і не лез ён
На землі чужыя вайной.

І сябе не лічыў ён ніколі выключным.
«Болей дбай пра сябе!» —
Спачувалі народы яму.
І цаніў ён заўсёды
Братэрскую еднасць і лучнасць,
Добра ведаў народ мой:
Не выжыць ніяк аднаму.

Вырываўся ён з цемры,
Прыгнёту, галечы і гора.
Не адстаць ад суседзяў!
Спатыкаўся, наперад ішоў.
І дарма, што ў свой час
(Хоць хацеў) не прабіўся да мора —
Мора лёну ў яго,
І разлівы лугоў,
І бязмежжа лясоў.

Быў адданы спрадвеку
Славянскаму крэўнаму брацтву,
З ім дзяліўся усім,
Што ў стагоддзях займеў.

Яго роднаю мовай
Гаварыла Вялікае Княства[1],
А пасля без яе, незаменнай,
Марнеў і нямеў.

І маўчанню яго, і цярплівасці
Можна здзівіцца.
Кажуць, доля такая:
Пазначана войнамі скрозь.
Ёсць чаму, ёсць чаму
І народу майму павучыцца,
Каб пакутліва крыўду на лёс свой
У вечнасць не нёс.

?

1. Якім паўстае ў вершы наш народ? Чым ён можа ганарыцца?
2. Як складваўся лёс беларусаў сярод іншых народаў?
3. Чаму беларускі народ заўсёды цаніў братэрскую еднасць?
4. Якой долі жадае паэт свайму народу? У чым бачыць ён вытокі моцы беларусаў?
5. Знайдзіце і зачытайце радкі, дзе гаворыцца пра прыродныя багацці беларускай зямлі. Як вы думаеце, чаму немагчыма ўявіць жыццё нашага народа без прыроды, без еднасці з роднай зямлёй?
6. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Віктара Грамыкі «Ільны беларускія». (Гл. уклейку). Паразважайце, ці падыходзіць паэтычны вобраз «мора лёну» для характарыстыкі гэтага твора жывапісу.

---

[1] *Вялі́кае Кня́ства Літо́ўскае* — старажытная шматнацыянальная дзяржава (XIII—XVIII стст.), у якой жылі і продкі беларусаў.

## Генадзь БУРАЎКІН

* * *

Я хачу прайсці па зямлі
Самым верным, любімым сынам.
Каб дарогі мяне вялі
Пад вятрамі прасторам сінім,

Каб нямоўчна ў мяне на плячах
Росным раннем спявалі птушкі,
Каб я кветкамі ўсімі прапах
Ад падэшваў да самай макушкі,

Каб легенды глухой сівізны
Мне з даверам дубы шапталі
І крыніц залатыя званы
Для мяне калыхалі хвалі.

Я хачу прайсці па зямлі,
Каб мне людзі сэрца адкрылі,
Слёзы шчасця і мазалі
Па-братэрску са мной падзялілі,

Каб мне роўную частку далі
Сваёй ношы нялёгкай пранесці
І свае галасы ўплялі
У мае няхітрыя песні...

?

1. Якое запаветнае жаданне выказвае паэт?
2. Як вы думаеце, ці можа быць «я» паэта выяўленнем пачуццяў кожнага з нас? Ці блізкія вам думкі і жаданні аўтара верша? Абгрунтуйце свае меркаванні.
3. Чаму шлях па зямлі не ўяўляецца паэту без пароднenасці з людзьмі?
4. Паспрабуйце растлумачыць сэнс паэтычнага вобраза «крыніц залатыя званы».

## Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

### ЛЕБЯДЗІНЫ СКІТ[1]

*(Скарочана)*

Даўным-даўно дзень аднойчы ўзышоў не ў сонечным святле, а ў зарыве пажараў, і чорная копаць панеслася на захад. Гэта рознапляменныя орды ўладара Батыя пайшлі навалай на рускую зямлю. Наперадзе яны сустракалі зялёныя палі, хаты ў садах і стракатыя гарады, а ззаду пакідалі толькі чорную пустэчу, па якой як жадаў хадзіў вецер, узнімаючы слупы попелу. І болей нічога не заставалася на калісьці зялёнай зямлі.

Хмарамі несліся стрэлы, пыл гарадоў дасягаў неба… і глядзелі на агонь з затоенай ухмылкай касыя вочы іх уладара. І была абдзёртая зямля балотнай Русі ўшчэнт. Тысячы палонных валакліся на валасяных арканах[2] за іх коньмі, і не было каму плакаць над руінамі[3], бо ўся пустая стаяла зямля. І калі яны павярталіся назад — коням іхнім не хапала корму, і шмат якія падалі, і хан разаслаў у розныя бакі сваіх нукераў[4], каб пашукалі яны пашы для жывёл. Трое не знайшлі нічога, а чацвёрты сказаў, што ён бачыў на поўдзень возера і лясы вакол яго і зялёныя лугі. І толькі стаўшы там, пабачылі на беразе возера змётаны з шэрага бярвення скіт, ля якога завіхаўся нейкі старац.

---

[1] *Скіт* — тут: невялікая пабудова ў глухой мясцовасці для манахаў-пустэльнікаў, аддаленая ад чалавечага паселішча.

[2] *Арка́н* — доўгая вяроўка з рухомай пятлёй на канцы для лоўлі коней і іншай жывёлы.

[3] *Руі́ны* — рэшткі разбуранага збудавання, паселішча.

[4] *Ну́кер* — дружыннік, воін уласнай аховы хана.

Хан сам пажадаў паглядзець на рускага пустэльніка. Старац, калі пабачыў яго, не затрымцеў ад жаху, а спакойна сказаў:

— Мусіць, гэта свету канец прыходзіць, што такі твар бачу я.

— Так, — адказаў хан, у якога бровы былі падобны да ляжачага сабакі, а вочы ззялі, быццам іржавая сталь, — я, хан Бату, нясу на зямлю смерць, і хіба вам, лягушатнікам, змагацца са мною. Калі хто паспрабуе — я знішчу яго. Калі хто не гнецца перада мною — я раблю яму хрыбет мяккім, падзяліўшы яго на дзве паловы. Літасціва гэта?

І паэты яго пачалі славіць, толькі паэт Юсуфі сказаў:

— Калі ўспыхнуў — згарыш, калі нарадзіўся — памрэш. Куды падзенуцца тады, хан, твае скарбы? Што ты возьмеш з сабою і што пакінеш на зямлі, акрамя гары чарапоў?

— А што пакінеш ты, слімак? — весела спытаў хан.

— Песню, — адказаў Юсуфі. — Далібог, гэта лепшая спадчына — сумленная песня. Зараз яны пяюць хвалу табе, заўтра — іншаму, а яшчэ праз пяцьсот год, а можа, і раней, люд будзе клясці цябе за тое, што ты вёў яго гэтым шляхам, поўным крыві і стогнаў. Што скажаш тады ты, які завяваў палову зямлі, не пасадзіўшы на сваёй нават рэпы і задаволіўшыся той часткай яе, якая пасыплецца табе ў твой мёртвы рот.

Хан зарагатаў:

— Пакуль што я прымушаю другіх есці зямлю, бо што такое народ. Народ — гэта статак, у якім кожная жывёла думае толькі аб тым, каб есці другіх і не быць з’едзенай. Глядзі, гэтых лю-

дзей мы пабралі ў палон, і яны хутка забудуць мову сваю і сваю зямлю. Яны памерлі ўжо.

— Не, — сказаў Юсуфі, — яны яшчэ не нарадзіліся.

— І не народзяцца ніколі, — сказаў Бату, — бо мы павалачэм іх у свой стэп, як павук муху, і дзеці іх памруць рабамі.

Юсуфі глянуў на яго са смехам:

— Хан, хіба ты забыў старую прыказку: «Дзіцёнак нараджаецца ад мацеры, а памірае за народ». Калі адно толькі калена застанецца ад народа — дык і ад яго пойдзе ён жыць.

І адказаў хан:

— У гэткага люду? Саромся. Іхнія правіцелі цураюцца сваёй мовы, іх папы́ — брахлівыя сабакі, у людзей яго, як у птушкі, адно жаданне — набіць свой валляк.

— Э, ды што гаварыць з вар'ятам, — сказаў Юсуфі, — птушкі любяць волю.

— Паспрабуем? — спытаў хан. — Вось стаіць чалавек, які не прарок і не цудатворац. Спытаемся ў яго, што яму болей даспадобы: загінуць і выратаваць сваіх людзей альбо наадварот.

Юсуфі плюнуў і змоўк, а хан звярнуўся да старога з тым жа пытаннем. Той сказаў панура:

— Калі ты сапраўды пусціш гэтых людзей — я гатовы да смерці.

— Чаму «сапраўды»? Хіба я зусім не маю чэсці?

— А хіба мае яе воўк, які забраўся ў статак? Ты не маеш чэсці, бо не верыш ва ўласную сілу.

— Добра, — сказаў хан, пачарнеўшы ад злосці. — Чаму ты згаджаешся на смерць?

— Я ўсё жыццё рабіў не тое, што трэба, і хачу хоць смерцю саслужыць на карысць сваёй зямлі.

Я моцна жадаю гэтага, а калі моцна жадаеш — усё будзе па-твойму.

Хан усміхнуўся, і ўсім здалося, што дзве чырвоныя змяі пачалі рухацца ў яго пад рэдкімі вусамі:

— Колькі людзей ты жадаеш атрымаць за сваю скуру?

— Адпусці ўсіх.

— Ого, а ці не занадта гэта будзе дорага за дзіравую скураную торбу, якая зморшчылася ад год, як печаны яблык. Я дам табе дванаццаць душ.

Юсуфі разрагатаўся:

— О, вялікая мерка ханскай шчодрасці. Можа, таму і адбываецца выхад хана на нараду ў час мышы[1], што ў яго мозг і душа мышы. Сорам!

А старац стаяў і думаў напружана, а потым адказаў:

— Хіба хто прадае, не патаргаваўшыся нават за шэлег, а тут жа справа ідзе не пра бэркавец[2] мёду і не пра лашт[3] збажыны, а пра жыццё людзей.

І сказаў хан Бату:

— Добра! Але я не гандляр на самаркандскім базары і слова маё — ёсць апошняе слова. Хочаш, я падарую жыццё і волю стольнікім тваім землякам, колькі іх памесціцца ў гэты твой скіт. Гэта апошняе слова... У скіт без прытвора.[4]

— Дваццаць чалавек, — сказаў Юсуфі і спахмурнеў. — Праўду кажуць, што сумленне хана не варта гнілога гарбуза.

---

[1] Тут маецца на ўвазе Усходні гараскоп.

[2] *Бэ́ркавец* — мера вагі (160 кг).

[3] *Лашт* — мера масы (1920 кг).

[4] *Прытво́р* — тут: памяшканне за ганкам; калідор.

— Трыццаць пяць, — сказаў адзін цёмнік[1].

— Пяцьдзясят, — прыбавіў на вока нейкі нукер.

Але болей ніхто не даў, бо ўсе бачылі, што нават паўсотні людзей скіт размясціць не здолее.

Хан загадаў, каб нукеры адвялі старога ў прытвор і паставілі над ім варту, але Юсуфі сказаў, пачырванеўшы:

— Я саромлюся за свой народ, хан, перад гэтымі балотнымі жыхарамі. Той, хто не давярае чэсці людзей, — сам не мае яе.

— Маўчы, — раззлаваўся хан, але адазваў нукераў.

Падняўся стогн і плач: маці выштурхоўвалі наперад дзяцей, жаніхі імкнуліся выратаваць мілых нявест сваіх, дзеці — старых сваіх бацькоў. Гэтак цягнулася да тых пор, пакуль нукеры ўдарамі сваіх бізуноў не сагналі іх усіх у адну чаргу.

Маса людская папаўзла наперад пад ляскание бізуноў адной вялізнай змяёй. Стомленыя людзі спатыкаліся і падалі, іх паднімалі і цягнулі з сабою.

І здарыўся цуд: памыліліся, прыкідваючы на вока, і Юсуфі, і нукер, і цёмнік. Вось ужо паўсотні палонных зайшло ў скіт, вось сто чалавек знікла ў халоднай цемры яго, а людзі ўсё ішлі, а з-пад скіта пачаў выбівацца да возера струменьчык вады. Адзін татарын чарпануў вады шаломам[2] і пачаў пляваца.

— Голая соль, — сказаў ён.

Хан пачынаў гневацца, а паток людскі ўсё плыў ды плыў у расчыненыя дзверы скіта, і не было, здавалася, яму ані канца ані краю.

---

[1] *Цёмнік* — кіраўнік 10-тысячнага войска (*цьма* — вельмі шмат, безліч).

[2] *Шало́м* — шлем.

Вось прабрылі полацкія людзі, людзі з Крычава, аршанскія паланянкі і паланянкі з берагоў Адрова, вось пацягнуліся палонныя з Менеска і Ноўгарадка і з Задзвінскай зямлі, нёманскія рыбары і пінскія лучнікі і ваўкавыскія бортнікі[1]. Юсуфі пасміхаўся блажэннаю ўхмылкаю і мармытаў:

— Так, калі чалавек моцна захоча — ён зробіць нават немагчымае. Так і гэты дзед, хай пашле яму Алах лёгкую смерць.

Калі скрылася ў скіце палова палонных — раз'юшаны хан грымнуў:

— Трымайце, ён ашуквае нас. Астатнія пойдуць з намі!

Але пачалі нешта мармытаць нукеры і пасмейвацца цёмнікі, а паэт Юсуфі рагатаў не тоячыся, бо не баяўся нічога, акрамя знікнення свайго дару.

— Трымай, трымай слова, хан. Самае каштоўнае для мужчыны — чэсць, ці не так?

Рука хана сціснула аброць[2], але ён прамаўчаў, што б ён мог зрабіць? А людзі цягнуліся ў расчыненыя дзверы скіта і знікалі там, а на небе праяснялася, і знікалі хмары, і праз падлогу пачала прабівацца зялёная маладая трава, а дрэвы зашумелі новым лісцем.

— Хан, там унутры амаль пуста, — сказаў нейкі з яго асяроддзя.

— А дзе старац?

— Ён стаіць на каленях і плача.

— Добра, — сказаў упаўшым голасам хан, — хай заходзяць далей.

---

[1] *Бо́ртнік* — пчаляр.

[2] *Абро́ць* — частка збруі, якая надзяваецца каню на галаву.

Здзіўленыя стаялі захопнікі, і зброя выпала з іх рук, а ў сэрцах людзей, няшчасных і закатаваных, нарадзілася надзея. Ляцелі над азёрамі дзікія лебедзі, і сумная загадкавая зямля адказвала іх крыку ціхім звонам сітнягу[1].

Вось і апошнія людзі зніклі, і адна варта асталася знадворку...

— Сабака, — прарычэў Бату-хан, — ты памрэш ганебнай смерцю.

— Дарма, — адказаў з пагардаю[2] старац, — што мне смерць. Большай пакуты і большага шчасця, чым зараз, — не будзе.

— Што ты зрабіў з імі? — спытаў нейкі воін.

— Паглядзіце.

І яны пабачылі апошніх юнака з дзяўчынай, якія глядзелі адно аднаму ў вочы, а потым раптам ператварыліся ў белых лебедзяў і вылецелі ў акно скіта. Белай істужкай цягнуліся лебядзіныя стаі над багнамі, лясамі, сінімі азёрамі, лугамі, над усёй мілай зямлёй сваёй, дзяліліся, ляцелі ў розныя бакі.

Дамоў, дамоў, да разораных гнёздаў!

З трубным гукам паляцела ім услед і апошняя пара, а старац, якога выцягнулі на бераг возера, сачыў за ёй цёплымі вачыма.

— Рыхтуйся да страты[3].

— Яны паляцелі на родныя гняздоўі. Ці спужаюся страты, калі слёзы і гора цэлай зямлі не спудзіўся я прыняць на свой карак. Яны цякуць да родных хат, будзе жыва родная зямля. Карайце.

---

[1] *Сітнёг* — балотная расліна.

[2] *Пага́рда* — тут: без павагі, з гонарам.

[3] *Стра́та* — тут: смерць.

— Як ты зрабіў гэта? — мякка спытаў Юсуфі.

— Верыў і любіў. Калі хоць адзін чалавек астаўся на роднай зямлі — яна не загіне. І зямля паслухалася мяне — яна не дала згінуць дзеткам сваім. На родных гняздоўях зноў у людзей ператорацца яны.

— Разбураны іх гняздоўі, — з сумам сказаў паэт.

Нукеры хана схапілі старога, а ён казаў адлятаючым птушкам, быццам яны маглі чуць яго:

— Ляціце, белыя лебедзі, ляці, птаства. Падымуцца вашы хаты, і кветкі пакрыюць пажар. Не шкадуйце мяне, бо слёзы вашы ў камень абярнулі мяне, у камень, які плача.

Нукер вастрыў меч, а Юсуфі іранізаваў:

— Працуй, працуй, твой твар, як і твар твайго хана, з'яўляецца ступнёю, якая не мае сораму. Імёны вашы хай не апаскудзяць слыху патомкаў, бо на вачах вашых забіваюць багатыра, наваліліся цэлым войскам са зброяй на аднаго.

А старац стаяў на каленях і маліўся.

— Шчасця дай, маці-зямля, дзеткам сваім. Дай ім улетку цёплых дажджоў, увосень — сонца, утульнага снегу зімою і кахання і працы вясной. Літасцівай будзь да яе воінаў, зрабі светлымі хаты і жыццё іх. Скамянеўшаму ад гора, дай мне каменем скончыць свой век.

— Уладар! — крыкнуў нукер хану. — Меч не бярэ яго шыі. Гэта святы.

І тут усе пабачылі, што твар дзеда становіцца шэрым, маршчыны застываюць на ім, камянеюць рукі.

Праз паўгадзіны на месцы старога ўжо стаяў камень, з-пад якога тачыліся слёзы, збягаліся ў

ручаёк, струменьчыкам беглі да возера. Камень плакаў.

— Так, — сказаў узрушаны Юсуфі, — той, хто памірае за свой люд, — заўсёды святы. Памяць маці сваёй і героя ніхто не рашыўся зняважыць.

І раптам хан хвастануў бізуном каня і шалёна паскакаў прэч. Варта і палкі кінуліся за ім. Юсуфі дагнаў хана.

— Едзем з гэтай страшнай зямлі, дзе плачуць нават камяні і змагаюцца нават слабыя, — мармытнуў хан.

Юсуфі дабавіў:

— Едзем з гэтай добрай зямлі, хай светлае сонца ззяе над ёю.

Калі на бугры яны павярнуліся назад — камень ляжаў нерухомы, точачы бясконцыя слёзы, а над каменем, над возерам, над пушчаю безупынку кружлялі белыя лебедзі.

Хан спытаў злосна:

— Чаму гэты старац не баяўся майго гневу?

Мудры Юсуфі адказаў:

— Што там ты! Самы моцны гнеў хана слабейшы за самую ціхую ўдзячнасць народа. Хіба, калі ён узнімаецца — не дрыжыць твая кібітка?

І хан прагаварыў ціха:

— Юсуфі! Калі-небудзь я зламлю табе хрыбет за праўду. І чакаць гэтага засталося нядоўга.

— Ну што ж. Такі, відаць, лёс паэта. А да таго часу я буду гаварыць яе, праўду. Што ты зробіш з ёю? Мо тое, што з тым старцам?

Яны пакідалі балотную зямлю, а за імі быццам вішні асы́палі лугі белым пухам сваіх кветак. Прызыўна трубілі лебедзі, кружлялі, падалі на ваду, і ў крыках іх гучала радасць.

Камень тачыў слёзы.

Кажуць, з таго часу Белая Русь і празываецца «белай». Ад лебядзінага апярэння стала белай вопратка ў яе людзей.

А кажуць і другое: быццам таму яна «белая», што пад татарамі не пабыла. Можа, й так. А калі мне веры не даяце — адшукайце самі ля Галошаўскага возера мясцовасць Лебядзіны Скіт. Мо тады самі ўпэўніцеся, як калісьці мой дзед, са слоў якога я й апавядаю вам гэта. Трубяць лебедзі на балотах.



**1.** Якія падзеі мінулага пакладзены ў аснову твора?

**2.** Як трымаліся на захопленай тэрыторыі орды хана Батыя (Бату)? Як пра гэта гаворыць пісьменнік?

**3.** Якім паўстае ў творы хан Бату? Як паказвае яго аўтар, з кім параўноўвае яго вочы, вусны, бровы? Чаму Юсуфі зазначае, што ў хана *мозг і душа мышы*?

**4.** Перачытайце дыялог паэта Юсуфі з ханам у пачатку твора. Звярніце ўвагу на тое, што гаварыў кожны з іх пра годнасць і свядомасць народа. Як вы зразумелі словы Юсуфі, што людзі, здольныя хутка забыць сваю мову і сваю зямлю, *яшчэ не нарадзіліся*?

**5.** Як ставіцца Юсуфі да хана? Чым можна вытлумачыць яго паводзіны? Чаму, на вашу думку, хан Бату дазваляў паэту такія вольнасці?

**6.** Як вы разумееце словы аўтара, што Юсуфі *не баяўся нічога, акрамя знікнення свайго дару*?

7. Паразважайце, чаму Юсуфі сцвярджаў, што *лепшая спадчына — сумленная песня.* Якую спадчыну, на думку Юсуфі, пакіне пасля сябе хан? Як пра гэта гаворыцца ў творы?
8. Якое жаданне выказаў старац у размове з ханам? Як абгрунтаваў сваю прапанову? Пра што ён маліўся перад смерцю? Адшукайце ў тэксце словы старца, звернутыя да маці-зямлі, і прачытайце іх. Як гэта малітва характарызуе пустэльніка?
9. Чаму старац пагарджаў смерцю? Як трымаўся ён у апошнія хвіліны жыцця? Чаму нават варожы нукер назваў старога *святым*?
10. Што ўбачыў на чужой зямлі хан Бату? Чаму ён назваў яе *страшнай зямлёй, дзе плачуць нават камяні і змагаюцца нават слабыя*? Як назваў гэту зямлю Юсуфі?
11. Што, згодна з легендай, сталася з *балотнымі жыхарамі*, якіх выратаваў пустэльнік? Які далейшы лёс іх чакаў? Як пра гэта сказаў мудры старац?
12. Якая з дзвюх версій пра ўзнікненне назвы «Белая Русь» падалася вам больш паэтычнай і чаму?



# СВЕТ ЗАГАДАК І ЦУДАЎ

## МІФЫ

***Міфы*** — старажытныя народныя аповеды пра паходжанне свету, жыццё прыроды і чалавека.

Міфы ствараліся на працягу многіх стагоддзяў. Нашы продкі былі безабаронныя перад стыхіямі прыроды. Назіраючы за прыродай, яны вытлумачвалі з'явы навакольнага свету паводле сваіх уяўленняў, здагадак. У адным выпадку прыпадабняючы прыроду чалавеку, у другім — насяляючы свет незвычайнымі істотамі, волатамі[1], багамі і духамі, людзі прыдумвалі фантастычныя гісторыі пра з'явы прыроды. Ад дзеда ўнуку пераходзілі гэтыя паданні — вусныя апавяданні пра мінулае.

Адчуваючы сябе часцінкай прыроды, людзі адухаўлялі яе, верылі, што яна можа дапамагаць чалавеку ў яго штодзённых клопатах альбо, наадварот, шкодзіць яго жыццю. Нашы продкі баяліся сваімі размовамі, дзеяннямі, учынкамі ўгнявіць сілы прыроды і таму ўсяляк стараліся ім дага-

---

[1] *Во́лат* — асілак, велікан.

дзіць, улагодзіць. Яны абагаўлялі птушак (зязюлю, бусла, ластаўку, ворана), жывёл, звяроў і іншых істот (каня, казу, ваўка, мядзведзя, вужа, змяю), пакланяліся кветкам (папараць-кветцы, зязюльчыным слёзкам, бра́ткам), дрэвам (дубу, бярозе, рабіне, каліне, явару, грушы). Свяшчэнным дрэвам і камяням-валунам дзе-нідзе людзі пакланяюцца і да нашага часу. Вярба, паводле народных паданняў, — тужлівае і самотнае дрэва, якое заўсёды спрыяе людзям, клапоціцца пра іх; рабіна валодае цудадзейнай здольнасцю лячыць людзей ад хвароб, а асіна і елка, наадварот, лічыліся дрэвамі нядобрымі, іх баяліся разводзіць побач з жытлом. Продкі верылі, што зламанае ці пакрыўджанае дрэва можа жорстка і бязлітасна расправіцца з крыўдзіцелем. Калі, напрыклад, чалавек гінуў ад паваленага дрэва, лічылі, што яно за нешта адпомсціла яму.

Да нашых дзён захавалася павер'е, што вялізныя густыя дрэвы — дуб, ліпа, вяз, бяроза — валодаюць розумам. А ў купальскую ноч дрэвы нібыта пераходзяць з месца на месца, размаўляюць паміж сабой, і чалавек можа падслухаць іх гаворку.

Асаблівай пашанай карысталіся дрэвы, якія раслі ля крыніц, рэчак, азёраў, бо ў такіх мясцінах людзі звярталіся ў сваіх малітвах і да дрэў, і да «жывой» вады.

З народных паданняў можна даведацца, што калісьці даўным-даўно ў дрымучых лясах жылі незвычайныя людзі — асілкі. Асілкі тыя былі высокія, магутныя, а голас мелі, як звон, гучны. Бывала, калі хтосьці з іх крыкне на ўвесь голас ды свісне, дык якое б дрэва ні было вялікае, а зваліцца. Вось якія былі яны, тыя асілкі. І жонкі іхнія

былі вялікага росту, дужыя і нараджалі кожны раз па двое, па трое дзяцей.

Гаспадаркі яны не трымалі, не было ў іх ні скацінкі свойскай, ні прыпасу, ні запасу. Ні хлеба, ні лёну не сеялі. Карміліся тым, што лавілі па лясах звяроў ды ў водах — рыбу. Адзенне сабе яны шылі са звярыных шкур. Вось так і жылі.

Інструменту ў іх амаль ніякага не было. Кажуць, што была на ўсіх адна сякера, ды і тая не жалезная. Але гарадзішчы[1] яны ўсё ж будавалі. Маючы ўсяго адну сякеру, асілкі перакідвалі яе з гарадзішча на гарадзішча, бо не хацелі траціць часу на пераход. Крыкне, бывала, асілак з аднаго гарадзішча ў другое: «Сякеру давай!», — а такі ж волат возьме сякеру дый кіне яму. Незвычайная была ў іх моц, за тое і называліся яны асілкамі. Гэта яшчэ нішто — сякеру перакінуць вярсты за тры, — бывала, трэба на будынак бярвенне, дык пойдзе каторы ў лес, вырве дрэва з карэннем ды так і валачэ на гарадзішча. Або камень спатрэбіцца на будоўлі, дык ён возьме яго дый шпурляне за вярсту ці больш, проста на гарадзішча. Некаторыя кідалі такія вялізныя камяні, што былі велічынёю ў рост чалавека, але не заўсёды гэтакія камяні даляталі да гарадзішча. А то ёсць мясціны, што зусім закіданыя камянямі. Дзяды казалі: тут асілкі адзін супроць аднаго ваявалі... Яны і на звяроў палявалі з камянямі, ад таго камяні і па сёння ляжаць у лясах. Калі пераваяліся ў лясных гушчарах звяры і паменшала ў вадзе рыбы, асілкі пакінулі свае гарадзішчы, якія хутка запусцелі. Праз шмат

---

[1] *Гарадзі́шча* — месца, дзе сяліліся старажытныя людзі.

гадоў прыйшлі ў тыя мясціны нашы дзяды, каб сеяць жыта і разводзіць жывёлу *(Паводле легенды «Асілкі»)*.

## ПРА БАГОЎ

Свет, на думку нашых продкаў, быў населены багамі, добрымі і злымі духамі. У старажытных міфах багі і духі нагадвалі жывых людзей, кожны з іх меў свой характар, адметны выгляд. Людзі ж маглі толькі прасіць у багоў дапамогі ў сваіх справах і клопатах.

Наймагутнейшы і галоўны з багоў, творца жыцця, бог неба і ўсяго свету, меў некалькі імёнаў — Белбог (Бялун), Дыў (Дзіў), Сварог, Стрыбог, Святавіт, часам яго яшчэ называлі Родам (ад яго паходзяць словы «радзіма», «народ», «прырода», «продак», «нараджэнне», «ураджай» і г. д.). Паводле міфаў, Сварог перамог цемру і распачаў жыццё на Зямлі. Пасля Сварога сталі правіць тры яго сыны-Сварожычы — Пярун, Ярыла і Дажбог. Дажбог — бог Сонца, сонечнага цяпла і святла, апекаваўся над сейбітамі, даваў ім моц і здароўе. Ён лічыўся самым міласэрным з багоў, самаахвярным, добрым, шчодрым, спрыяў урадлівасці палёў, дабрабыту людзей. Раней верылі, што кожную раніцу Дажбог выязджаў на калясніцы са свайго палаца, што знаходзіўся на ўсходзе, за дзень аб'язджаў неба і ўвечары вяртаўся, рухаючыся на захад, у свой нябесны дом на адпачынак.

Старэйшы сын Сварога — Пярун (Грамабой) — бог грому і маланак, займаўся зброяй і вайсковымі справамі. Ён быў вельмі падобны да Сварога. Нашы прашчуры ўяўлялі яго магутным волатам з

сівымі, чорнымі або вогненна-рудымі кучаравымі валасамі і доўгай барадой. Калі ён імчаўся на калясніцы па небе, раздаваліся страшэнныя грымоты. Лічылі, калі ўздыхне Пярун — узнімецца вецер, дзьмухне — усходзіцца навальніца. У руках ён быццам трымаў лук-вясёлку і стрэлы-маланкі, якія шпурляў на зямлю. Ударамі маланак грозны бог мог пакараць любога, на ўсіх ён наводзіў жах. Грамабой супрацьпастаўляўся нячыстай сіле — Яшчару, Ягіне, Змею, д'яблу, чорту, якіх ён заўсёды імкнуўся знішчыць сваімі стрэламі-маланкамі. Міфы сцвярджаюць, што на месцах бойкі Перуна з нячыстай сілай з'явіліся валуны, якія і зараз на Беларусі называюць ці Князем-каменем, ці Гаспадаром-каменем, ці проста Перуном. Грамабой паліваў зямлю дажджом, змушаў прыроду абуджацца, каб даць новы ўраджай. Пад канец восені ён засынаў, маразы закоўвалі яго ў хмары, і ён усю зіму спачываў на небе. І толькі з прылётам птушак зноў ажываў.

Ярыла (Яр) — бог урадлівасці і кахання — нібыта кіраваў на Зямлі стварэннем моцнага і здаровага роду. Ярылу лічылі богам веснавога агню, абуджэння прыроды. Ён расчыняў нябесныя вароты і спускаўся на зямлю, пачынаючы вясну. Ярылаў агонь сягаў глыбока ў нетры, саграваў зямлю, якая нараджала дрэвы і расліны, гадавала ўраджай. Ярыла ўсім істотам даваў моц (ярасць): выразы «ярая сіла», «ярая пчолка», «ярына ў полі» паходзяць ад яго імя. Нашы продкі ўяўлялі Ярылу прыгожым маладым вершнікам на белым кані, у белай вопратцы, часам з чырвонай накідкай на плячах, у вянку з веснавых раслін, з зялёнымі га-

лінкамі ў руцэ. Там, дзе ён ступаў басанож, адразу вырастала густое жыта.

Ярылу дапамагалі багіня веснавога абуджэння і кахання Лада (Ляля, Лёля), бог ураджаю і дастатку Купала і багіня лета Цёця — значна старэйшая за Лялю, мажная, прыгожая, прыбраная жытнёвымі каласамі, са спелымі пладамі ў руках. Ладу-Лялю ўяўлялі высокай прывабнай маладзенькай дзяўчынай, у белай сукенцы, упрыгожанай зялёнай лістотай, з вяночкам палявых красак на галаве. Яна вельмі шчодрая. Маладым дзяўчаткам яна штогод давала вяночкі, якія захоўваліся да наступнай вясны (а хто з дзяўчат выходзіў замуж, гэты вяночак зберагаў усё жыццё).

Шанавалі нашы продкі і бога зімы Зюзю — нізенькага дзядка з белымі валасамі і белай як снег барадой, у белай вопратцы. Хадзіў ён басанож, з непакрытай галавой. Зюзя, нібыта, жыў у лесе, толькі часам зазіраў у вёску, каб папярэдзіць пра моцныя маразы, паесці навагодняй куцці — святочнай кашы. Раззлаваўшыся за што-небудзь на людзей, Зюзя пачынаў моцна марозіць, стукаў сваёй булавой, так што часам трашчалі дрэвы ў лесе, трэскаліся хаты. Каб ён зусім не разваліў жытло і не памарозіў азімае збожжа, продкі стараліся яго задобрыць, запрашалі на калядную вячэру.

Нашы прашчуры пакланяліся нябесным свяцілам, і найперш — сонцу, якое было крыніцай жыцця. Людзі радаваліся сонечнаму святлу і цяплу, услаўлялі сонца ў абрадах, песнях, танцах. Маленькім сонейкам на Зямлі лічыўся агонь, што абаграваў людзей, ахоўваў іх ад драпежнікаў, даваў магчымасць прыгатаваць ежу. Бога агню Жы-

жаля (Зніча) высока шанавалі і разам з тым вельмі асцерагаліся. Яго лічылі апекуном падземнага агню і кавальскага рамяства. У сваёй вогненнай кузні пад зямлёй Жыжаль, непакорны і мужны, каваў зброю, каб скінуць Перуна. Калі магутны волат затрымліваўся ў кузні, зямля перагравалася, пачыналася засуха, гарэлі лясы і тарфянікі.

Надзвычай аўтарытэтным у тыя далёкія часы быў у нашых продкаў Вяле́с (Ве́лес) — бог дабрабыту і мудрасці, апякун жывёлагадоўлі. Лічылі, што Вялес — гэта Месяц на небе, а зорны россып — ягоны статак. З нябесных вышынь Вялес пільна сачыў за жывёлай на зямлі, старанна яе ахоўваў ад драпежных звяроў, хвароб, няшчасных выпадкаў. Пастухі ахвотна прыносілі яму ахвяры. Вялес, спускаючыся з неба, нібыта набываў аблічча быка, часам чалавека-асілка з вялізнымі бычынымі рагамі.

Нашы прашчуры імкнуліся спасцігнуць сэнс чалавечага існавання,назіраючы не толькі за зямнымі з'явамі і прадметамі, але і ўглядаючыся ў начное бяздоннае неба. Зоркі былі сімваламі чалавечых душ. Прыходзіць на свет дзіця — і запальвае цудадзейная багіня жыцця і долі Жы́ва новую зорку, якая будзе гарэць, пакуль не скончыцца нітка жыцця. Памёр чалавек — скацілася з неба знічка-слязінка. Гэта багіня смерці Мара́ (Мора, Марэна) наслала на яго пагібель, мор (адсюль і словы «мары́ць», «смерць», «мёртвы»). Паводле міфаў, Мара — жанчына, здольная прымаць самыя розныя абліччы — ваўка, змяі, каня, жудаснай істоты.

Продкі верылі ў неўміручасць душы, былі ўпэўнены, што нябожчык на тым свеце сустрэнецца з

памерлымі сваякамі. Кожнага чакае шчаслівае вечнае жыццё ў Выраі — казачна прыгожым зялёным садзе, напоўненым роўным мяккім святлом, птушынымі мілагучнымі спевамі, цудоўнай музыкай. Пекла ва ўяўленні старажытных людзей увогуле не існавала, таму яны не надта баяліся смерці.

Міфы распавядаюць пра спрадвечную барацьбу светлых і цёмных сіл (дабра і зла) за ўладарства над Сусветам. Штогод адносіны паміж імі асабліва абвастраліся ў «вераб'іную» («рабінавую») ноч у сярэдзіне жніўня. Нібыта ў гэтую страшную ноч усе добрыя багі і духі яднаюцца і даюць смяротны бой сілам цемры. Усю ноч неба разрываюць грымоты (перуны́), несупынна асвятляюць наваколле бліскавіцы, лье праліўны дождж, і толькі пад раніцу цішэе вецер, супакойваецца навальніца, і стомленыя светлыя багі вяртаюцца да сваіх штодзённых клопатаў. Чорныя сілы адступаюць, каб праз год ізноў сысціся з белымі сіламі ў смяротнай бойцы.

## ПРА МІФІЧНЫХ ІСТОТ (ДУХАЎ)

Бліжэй да штодзённага жыцця нашых прашчураў стаялі духі — добрыя і злыя. Гэтымі істотамі быццам была напоўнена ўся навакольная прырода: ад зямных нетраў да недасягальнага Космасу. Людзі лічылі, што фантастычныя істоты насялялі палі, лясы, рэкі, азёры, балоты, яны ўладкоўваліся ў хатах, хлявах, лазнях, абжывалі гарышчы, коміны, туліліся пад печкай.

На полі і на лузе валадарыў Палявік (Жыцень, Аўсень). Ён клапаціўся пра добры ўраджай на палях і сенажацях, выганяў з іх шкоднікаў. Палявік звычайна хаваўся на ўзгорку, ля каменя, куста, у канаўцы. Зрабіўшыся страшным ценем, любіў палохаць людзей, са свістам і рыкам гнаўся за чалавекам, заманьваючы яго на санцапёк, і там закалыхваў да непрытомнасці. Узімку Палявік заносіў снегам канавы, каб падарожнік, збіўшыся са шляху, праваліўся ў іх і замерз. Лічылася, што Палявік баіцца макрэчы і надта няўтульна пачуваецца вясной і восенню. Каб падмануць людзей, Палявік нібыта набываў чалавечае аблічча — выглядаў рослым светлавалосым хлопцам.

У лясах гаспадарыў Лесавік (Лясун, Пушчавік, Баравік) — вялізны, у рост самых высокіх дрэў у лесе, барадаты стары, у звярыных шкурах на пакрытым поўсцю целе, з белым, як бяроста, тварам. Вушы ў Лесавіка надта вялікія, большыя за галаву, адтапыраныя ў бакі, таму ён часта чапляецца за кустоўе і дрэвы, а потым страшэнна злуецца і шыпіць ад болю. Вочы ў ляснога гаспадара невялікія, свецяцца нават удзень. Рукі доўгія, моцныя, імі ён можа ахапіць зара́з значны кавалак лесу, асабліва калі за некім гоніцца. Ногі ў Лесуна тоўстыя, велічэзныя. Абуваецца ён пасвойму: правы лапаць (ці бот) нацягвае на левую нагу, а левы — на правую. Лесавіку прыслужваюць вятры: калі ён куды-небудзь ідзе — наперадзе і ззаду ў яго равуць вятры, якія ўсё змятаюць на шляху гаспадара. Паваленыя дрэвы, высокія гурбы снегу людзі лічылі справай рук Лесавіка. Ён часам спрыяў людзям, выводзіў з лесу тых, хто зблудзіў, паказваў грыбныя і ягадныя мясціны,

наганяў у бок паляўнічага звяроў і птушак, выбіраў бортнікам месца для ўстаноўкі калод з пчоламі. Разам з тым Лесавік часта здзекаваўся з чалавека, прымушаў яго доўга блукаць на адным месцы, мог пакараць за нядбайныя паводзіны ў лесе. Таму людзі стараліся не гнявіць ляснога гаспадара. Яны ведалі, што, каб падмануць Лесуна, варта апрануць вывернутыя світку ці кажух, а каб заблытаць свой шлях, трэба прайсці частку адлегласці задам наперад.

Поўнаўладным гаспадаром чалавечага жытла быў Дамавік (Хатнік, Падпечнік, Гаспадар). Яго ўяўлялі сівенькім дзядком, у белай кашулі, падпяразанай дзягай ці лыкам, з доўгімі валасамі, доўгай сівой барадой. Лічылася, што ён жыў у хаце (пад печкай ці пад падлогаю) або ў хляве, тады яго часам называлі Хлеўнікам. У кожнай хаце нібыта быў свой Дамавік, ён лічыўся заўсёды дбайным гаспадаром, ахоўваў дом, маёмасць, падтрымліваў агонь у печы, клапаціўся пра гаспадарку, карміў і песціў жывёлу, назіраў за хатнімі справамі. Пры апякунстве Дамавіка ў хаце ўсё ішло сваім парадкам. Людзі стараліся задобрыць яго, бо калі ён раззлуецца, то будзе шкодзіць — біць посуд, перастаўляць хатнія рэчы, прынясе разлад у сям'ю, неўраджай на ніву. Дамавік часта дазваляў сабе і пажартаваць: скакаў па лавах у хаце, сенцах, стукаў у сцены, казытаў ці шчыпаў ўночы соннага. Аднак ён заўсёды чула ставіўся да гаспадарскай сялібы, папярэджваў сям'ю аб няшчасцях: пачынаў па начах стагнаць, плакаць, завываць, моцна грукаць у дзверы. Разам з тым Дамавік лічыўся надзвычай патрабавальным: за бес-

карыслівую дапамогу ён вымагаў пашаны і паслухмянасці ад гаспадара і яго сям'і, не любіў, каб у хаце віселі люстэркі, маскі, пратэставаў супраць вясёлых і шумных гульняў, зборышчаў у хаце. Асабліва не падабалася Дамавіку, калі ля парога ляжала кошка ці якая іншая жывая істота, бо яна замінала хадзіць з хаты ў сенцы і назад. Дзейнічаў Дамавік звычайна ўночы: падсушваў збожжа, раздаваў сена жывёле, заплятаў коням грывы, ласкава гладзіў іх. Аднак, каб Дамавіку падабалася жывёла, трэба было выбіраць кароў і коней пэўнай масці, пад колер барады гаспадара. Раніцаю Дамавік палохаў пеўня, штурхаючы яго, каб той своечасова разбудзіў сям'ю. Часам Дамавік, як здавалася нашым продкам, мог нават пераўвасабляцца ў вужа, змяю, жабу, ката ці сабаку.

Духі акружалі чалавека паўсюдна. У рэчках, азёрах або вадаёмах, дзе вада ніколі не прамярзае, гаспадарыў Вадзянік — стары з доўгай барадой, доўгімі валасамі на галаве ў форме кліна, гладкай бліскучай скурай. Усё цела яго пакрывалі ці то валасы, ці то водарасці, паміж пальцаў — перапонкі, рукі і ногі былі надзвычай доўгімі. Вадзянік мог жыць толькі ў вадзе, на сушы ён гінуў, прычым ад яго цела заставаўся толькі шматок ціны ці водарасцей. Калі ж гэты шматок укінуць у ваду, Вадзянік зноў ажыве і будзе назаўсёды ўдзячны выратавальніку. Вадзянік, раз'язджаючы на соме, ірваў рыбацкія сеткі, раскрываў плаціны на млынах, падпільноўваў тых, хто купаўся, каб у любы момант забраць да сябе. Днём Вадзянік звычайна адпачываў на дне, і толькі як сядзе сонца, ён пачынаў сваволіць. Злавіўшы ахвяру, ён

доўга мучыў яе, цешыўся з яе адчайных спроб выплыць, пакуль яна, зрэшты знясіленая, не апускалася на дно. Дзяўчына-тапельніца станавілася русалкаю і мусіла аддана служыць свайму гаспадару. Мужчына рабіўся такім жа вадзянікам.

Напэўна, найбольш пашыраным персанажам у беларускай міфалогіі[1] з'яўляецца Ваўкалак (Пярэварацень) — чалавек, ператвораны кім-небудзь ці па сваім уласным жаданні ў ваўка. Існавалі нібыта два віды ваўкалакаў — ваўкалакі-чараўнікі, якія свядома прынялі аблічча ваўка, і ваўкалакі — няшчасныя ахвяры, ператвораныя ў ваўкоў знахарамі-чарадзеямі ў знак помсты за што-небудзь. Першых ваўкалакаў людзі баяліся і ненавідзелі, бо яны былі страшэнна лютымі і драпежнымі, горшымі, чым сапраўдныя ваўкі, і нападалі пераважна на людзей і асабліва на дзяцей. Зусім інакш ставіліся да знахарскіх ахвяр, бо гэтыя ваўкалакі нібыта былі зусім ручнымі, як хатняя жывёла, яны ніколі не палявалі на жывёлу ці чалавека і харчаваліся травой, каранямі, ягадамі, лістотай. Яны не гублялі чалавечых пачуццяў, не страчвалі памяці і свядомасці, захоўвалі здольнасць думаць і перажываць. Яны звычайна вельмі жаласна вылі і стагналі, як хворыя людзі, у напрамку сваёй вёскі. У такім зачараваным стане ваўкалакі жылі ад нямногіх дзён да некалькіх гадоў, іх ніколі не ператваралі на ўсё жыццё.

Беларускія міфы расказваюць пра духаў, часцей варожа настроеных да людзей. Духі «засявалі» палі камянямі, адбіралі ў кароў малако, на-

---

[1] *Міфало́гія* — сукупнасць старажытных міфаў, паданняў.

сылалі хваробы і мор на людзей і жывёлу. Усім вядомая казачная Баба Яга сустракаецца ў многіх міфах. Гэта злая чараўніца, гаспадыня ўсіх ведзьмаў, страшная, чорная, раскудлачаная, заўсёды вымагала чалавечых ахвяраванняў. Дапамагалі ёй аднавокае Ліха, страхалюдны Карачун, усім вядомы яшчэ з ранняга дзяцінства Кашчэй і заўсёдныя спадарожніцы Ягі — ліхаманкі. Гэтых сясцёр-ліхаманак было дванаццаць, вечна галодных, агідных, кашчавых, злосных. Бязлітасныя ліхаманкі шукалі прытулку і спажывы ў чалавечых хатах, прыносілі хваробу. Няшчасны быў той, хто трапляў у іх кіпцюры. Кожная з сясцёр па-свойму даймала чалавека: Трасея — трэсла, Агнея — паліла жарам, наганяла высокую тэмпературу, Гняцея гняла і адбірала спакой і радасць жыцця, Лядзея марозіла і калаціла ад холаду, Ламея ламала ўсе косці, Грудзея ўскоквала ў грудзі, выклікаючы кашаль, Глухея закладвала вушы. Самая страшная — старэйшая сястра Навея. Калі ўжо яна ўваб'ецца ў чалавека — ён не мог разлічваць ні на які паратунак, мусіў пакідаць гэты свет, развітвацца з жыццём.

Пазнаёміўшыся з персанажамі беларускай міфалогіі, вы, напэўна, пераканаліся, што нашы далёкія продкі былі людзьмі надзвычай уражлівымі, з чулай душой, багатай фантазіяй і паэтычным успрыманнем свету. Міфы з'яўляюцца часткай багатай і самабытнай беларускай культуры. Непасрэдна са старажытных міфаў выраслі казкі, легенды, народныя песні. Міфы і сёння хвалююць пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, якія выкарыстоўваюць міфалагічныя сюжэты і вобразы ў сваіх творах.



1. Калі і як узніклі міфы?
2. Якімі ўяўлялі з'явы прыроды і прадметы навакольнага свету нашы далёкія продкі?
3. Калі і дзе, паводле легенды, жылі асілкі? Раскажыце пра іх лад жыцця, заняткі, звычкі.
4. Адкуль у розных мясцінах, згодна з легендай, да нашых дзён захавалася шмат камянёў?
5. Разгледзьце ілюстрацыю Валерыя Славука «Волат». (Гл. уклейку.) Прыдумайце гісторыю на тэму «Сустрэча з волатам».
6. Апішыце добрых багоў, якіх вы запомнілі. Чым яны спрыялі людзям?
7. Якія духі вас найбольш уразілі? Раскажыце пра іх.
8. Якімі паўстаюць сілы зла ў старажытных міфах? У якіх абліччах яны выступаюць?

## Янка КУПАЛА

### ЯК У КАЗЦЫ...

*(Скарочана)*

Даўно было — мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, — як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы — дрыгавічы, крывічы і палачане.

Важны быў гэта народ, і паміж суседзямі меў ён добрую песню і праўдзівае паважанне. З далёкіх заморскіх старон — з зямлі Варшаўскай, з царства Візантыйскага і з другіх знакамітых дзяржаў і каралеўстваў прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі — шоўкам,

бісерам[1], янтаром ды іншымі каштоўнымі скарбамі. Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багаццем асаблівым адзначаўся... Бо не зачынялі нашы прашчуры весніц[2] і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным; нават калі выходзілі з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнога сачыць, то і тады замкоў не знальі, а яшчэ пакідалі ў хатах пад абрусамі бохан хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных — гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.

Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяпер, бо не аднаго бога мелі, а некалькі, і прозвішчы багі мелі не такія, як цяпер; называліся яны: Сонца, Пярун, Каляда ды і іншыя яшчэ. Алтарнымі слугамі багоў гэтых былі варажбіты-вешчуны — старцы мудрыя і ў справах божых дасведчаныя. Не было, праўда, узнесеных на хвалу божую ні з камення, ні з дрэва святыняў і алтароў, золатам набіваных, — былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры багам прамудрым. Просты быў народ, і крывадушнічаць не ўмеў ён у веры сваёй. Ведаў толькі, што найлепей гаварыць з небам, гледзячы ў неба.

А хто хаваецца ад сонца, у таго на душы цёмна.

А чыстае, відаць, сумленне мелі прадзеды нашы.

Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі; не разумелі, як гэта можна замест аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых

---

[1] *Бі́сер* — дробныя шкляныя або металічныя пацеркі, якімі расшываюць адзенне.

[2] *Ве́сніцы* — вароты.

харомаў, збудаваных у гонар і хвалу Бога свайго. Дзівіліся, бо госці заезджыя былі веры іншае і звычаяў гэткіх у сябе не мелі.

Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць са сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя: прывезлі яны новага Бога, Бога з крыжам. Не хацелі спачатку прымаць новай веры дрыгавічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі, а пасля з дабраты сваёй і рупнасці гасціннай прынялі, падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога; адно толькі варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчаныя, старых толькі багоў трымаліся. Памерлі старцы мудрыя — на іх касцях закрасаваў новы ўсёмагутны Бог, сталі легіёны алтарных служыцеляў праслаўляць яго, тысячы з медзі літых званоў хвалу яму разносіць, ды так далёка, як Зямля наша вялікая, і яшчэ далей, ажно на край свету.

А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памерлі зусім у душах свайго народу. Жывуць, як даўней жылі, — у песнях, казках, былінах...



1. Якімі паўстаюць у творы нашы продкі?
2. Якога светапогляду яны трымаліся, якой веры?
3. Што здзіўляла заезджых гасцей? Як яны паводзілі сябе на зямлі нашых продкаў?
4. Чаму нашы продкі прынялі *да сваіх старых багоў і новага Бога*?
5. Як вы думаеце, чаму варажбіты-вешчуны *старых толькі багоў трымаліся*?
6. Якія новыя парадкі ўсталяваліся на нашай зямлі?
7. Што сталася са старымі багамі? Як пра гэта гаворыць аўтар?

## Ян БАРШЧЭЎСКІ

### ВУЖЫНАЯ КАРОНА

— У маіх паноў быў лоўчы[1], зваўся Сямён; дом яго стаяў недалёка ад маёнтка, паншчыны ён не служыў, а ўвесь яго абавязак быў — вартаваць лес, хадзіць на паляванне з панам ды прыносіць дзічыну, калі, чакаючы гасцей або перад якім святам, накажуць з маёнтка.

Аднаго дня прыходзіць да яго аканом[2] і крычыць, стукаючы ў акно:

— Сямён, пан казаў, каб ты што б там ні было прынёс да нядзелі пару глушцоў, дзве пары цецерукоў і колькі курапатак, дык не лянуйся, бяры стрэльбу, майго выжла[3] і ідзі на ловы.

Заспяшаўся Сямён, бо была ўжо серада. Бярэ стрэльбу, зайшоў у маёнтак і з выжлам ідзе блукаць па лесе. У нешчаслівы час выйшаў на паляванне: хадзіў дзень навылёт, а бачыў толькі дзятлаў, што дзяўблі сабе на сухіх хваінах. Начаваў у лесе, замерз, бо была ўжо восень. На другі дзень ад узыходу сонца туляўся па пушчы. Але дарма: нават здалёку не бачыў тых птушак, якіх шукаў, толькі вецер шумеў у дрэвах. Згаладалы сабака ўцёк да свайго гаспадара, і Сямён, змардаваны, хмурны, вяртаўся дадому, не ведаючы, што рабіць.

Сеў ён на калоду і думае сам сабе: «Кепска будзе: пан не дасць веры, што я шчыраваў на ўсю

---

[1] *Ло́ўчы* — службовая асоба, якая наладжвала панскае паляванне, здабывала дзічыну і рыбу для панскага двара; паляўнічы.

[2] *Акано́м* — кіраўнік гаспадаркі ў панскім маёнтку.

[3] *Вы́жал* — гончы сабака.

поўніцу; пэўна, западозрыць мяне ў гультайстве; пакланіўся б і нячысціку, абы толькі паспрыяў мне сёння».

Ледзь гэтак падумаў — выбег аднекуль велізарны чорны сабака, сеў перад лоўчым і страшнымі вачыма ўтаропіўся на чалавека. Сямён кліча яго да сябе, але сабака не рушыць з месца, а толькі глядзіць, як шалёны; ахінуў лоўчага неспакой, і дрыжыкі пабеглі па целе. І тут бачыць: выходзіць з гушчару пажылы чалавек, валасы зблытаныя ў каўтун, бровы густыя, змарнелы, як быццам ад сонца і ветру, твар, вопратка да пят. Сядае на пень ля паляўнічага і гаворыць такія словы:

— Бачу, што торба твая пустая і твар хмурны: пэўна, паляванне няўдалае.

— Хадзіў два дні па лесе, змарыўся сам, і сабака, згаладаўшыся, уцёк ад мяне; не ўдалося аніводнага разу стрэліць. Дзе ж падзелася птаства? Загадалі мне да нядзелі прынесці дзічыны, ды адкуль яе ўзяць? Бяда будзе!

— Не журыся, — кажа незнаёмы, — паслухай мае рады. Я дапамагу табе. Заўтра 14 верасня[1], дык увечары ідзі на Ласіную гару, на цэлую ноч будзе табе дарогі, бо сам ведаеш, што гэтая гара адсюль няблізка; стаіць яна сярод цёмных лясоў; падыдзеш да яе акурат на світанні і ўбачыш, што схілы яе пакрытыя вужамі; не палохайся, яны чапаць цябе не будуць; між іх сустрэнеш Вужынага

[1] На 14 верасня прыпадала свята Узвіжанне: паводле народнага павер'я, у гэты дзень усе змеі хаваліся па норах, папярэдне збіраючыся ў адно месца, а наперадзе іх рухаўся змяіны цар; змяіны яд у такую пару лічыўся смертаносным, таму ў гэты дзень сяляне пазбягалі хадзіць у лес.

Караля. Рассцялі перад ім белую хустку, укленч і пакланіся; ён кіне табе на хустку сваю Залатую Карону і з грамадою сваіх вужоў пойдзе ў зімовыя сховы. Слухай яшчэ, дам табе перасцярогу: ідучы ўначы на Ласіную гару, не палохайся нічога і нічому не дзівіся, іначай дарэмны будзе твой клопат.

Калі будзеш мець у сябе Вужыную Карону, дык гэты чорны сабака, які цяпер перад табою, заўсёды, як толькі пойдзеш на ловы, стрэне цябе і павядзе па лясных сцежках, і кожны раз настраляеш дзічыны столькі, колькі захочаш. Але ніколі не палохайся нічога і не дзівіся нічому, бо калі пахіснешся сэрцам або духам — будзеш нешчаслівы; не пускай у душу такія пачуцці.

Сказаўшы гэта, ён схаваўся ў гушчары, і сабака пайшоў за ім.

Сямён правёў поглядам незнаёмага, пастаяў задумаўшыся, пайшоў дахаты, узяў белую хустку і са стрэльбаю за плячыма скіраваў да Ласінае гары. Калі зайшоў у дзікую пушчу, дык ужо змяркалася, цямней і цямней рабілася сярод густых хвояў і ялін. А ён далей і далей ідзе ў глыб лесу. Усё вечарэла і вечарэла. Вось ужо і ноч. Глянуў угору — ледзь некалькі зорак на небе ўбачыў праз галіны. Адзін ён з людзей быў у той час у лясной пустэчы, вакол чуў толькі крыкі соў і пугачоў ды ў гушчары тупат перапалоханага звера. Не першы раз выпала яму блукаць уначы па лесе. І дарога гэтая не страшыла яго.

Апоўначы лютыя пачвары акружылі лоўчага. Бачыць, як набліжаецца велізарны мядзведзь на задніх лапах, рыкае і хоча напасці; зграя ваўкоў, натапырыўшыся і свецячы вачыма, пагражае крывавымі пашчамі. Сямён адважна ідзе сярод хіжац-

кае зграі. Заступіў яму дарогу вышэйшы за лес Волат, які вырваў вялікую хваіну і гразіўся, нібы пярун. Аднак лоўчы смела мінае ўсё гэта.

Месячык паказаўся з-за воблака. Здаецца Сямёну, што выходзіць ён з лесу і бачыць удалечыні палац, які свеціцца золатам і срэбрам; падыходзіць да той пекнай пабудовы праз чароўны сад, дзе як быццам вясна і лета сышліся разам: найпрыгажэйшыя кветкі і найвыдатнейшая даспявае садавіна. Зязюля сумным голасам абзывалася на дрэве; зацёхкаў салавей у хмызняку; чуваць дзіўныя галасы драздоў і шпакоў, і разумее Сямён іх вясёлыя спевы. Спаткалі яго дзяўчаты з вянкамі на галовах, танцуючы, вабілі да сябе. Ён мінуў усе гэтыя цуды, не здзіўляючыся і не зважаючы на іх.

Зніклі чароўныя здані; падзьмуў восеньскі вецер; і Сямён убачыў на ўсходзе чырвонае неба. Хутка ўзыдзе сонца — спяшае ён да Ласінае гары.

Калі прыйшоў на прызначанае месца, убачыў чараду вужоў. Яны, сыкаючы, саступалі з ягонае дарогі. А ўжо і сонца падымаецца. Страчае Сямён такога велізарнага вужа, якога ніколі не бачыў. Той смела паўзе, а на ягонай галаве зіхаціць залата. Сямён раскінуў белую хустку перад ім і ўкленчыў. Вуж упусціў з галавы Карону на хустку і папоўз далей, а за ім і іншыя вужы хутка схаваліся за гарою. З радасцю разглядаў Сямён залаты скарб, падобны на два бліскучыя лісцікі, што канцамі зрасліся між сабою.

Ледзь пакінуў гару, як яго сустракае велізарны чорны сабака, які ўчора пабег за незнаёмым; пазірае ў вочы і, здаецца, кажа, каб ішоў за ім. Ідзе лоўчы за сабакам. Той спыняецца і позіркам паказвае на дрэве глушцоў. Разоў колькі стрэліў

ён у тым месцы і колькі штук забіў. Ужо нёс дадому глушцоў, цецерукоў і курапатак, а як падышоў бліжэй да хаты, сабака застаўся стаяць на полі: глядзеў услед паляўнічаму, а пасля знік з вачэй.

Паны хвалілі лоўчага, яго спрыт на паляванні, а чэлядзь[1] і аканом дзівіліся з яго шчасця, з таго, як ён, не маючы сабакі, столькі змог упаляваць дзічыны.

З таго часу Сямён стаў найслаўнейшым паляўнічым. Той чорны сабака кожны раз сустракаў яго ў лесе, і Сямён столькі біў рознай дзічыны, што не толькі хапала панам у маёнтку, але і сялянам на продаж.

Па ўсёй ваколіцы разнеслася пагалоска, што Сямён — чараўнік, быццам некаторыя seклі дровы ў лесе ды бачылі, што ходзіць з ім нейкі чорны сабака, які ў лесе і застаецца. Акім, што некалі сябраваў з лоўчым, раз ціха падышоў пад акно ягонае хаты, каб даведацца, што той робіць; пачуў, нібыта з кімсьці размаўляе; зірнуў у акно: Сямён гладзіць чорнага сабаку, таго самага, што заўсёды сустракаў яго ў лесе. Сабака глянуў у акно крывавым вокам і знік, а Акім уцёк ад страху.

Ужо колькі гадоў уся воласць гаворыць, што Сямёну дапамагае на ловах сам нячысцік, якога трымае ён за памочніка, але паны адно смяяліся з гэтага і не давалі веры. Хоць пан быў неяк з лоўчым на паляванні, не бачыў чорнага сабаку, аднак змеціў, што дзікае птаства само ляціць да Сямёна і той нікольки не схібіў.

---

[1] *Чэ́лядзь* — тут: дваровыя людзі, слугі памешчыка.

Жыла ў вёсцы непадалёку Марыся, прыгожая і маладая дзяўчына, дачка набожных бацькоў. Шмат каму яна падабалася, і Сямён меў на яе вока; спадзеючыся на багацце ды на панскую ласку, меў надзею, што Марыся будзе ягонай.

Аднаго дня, калі ішоў на паляванне, убачыў ён Марысю. Тая мела вянок на галаве, і кветкі так ёй пасавалі, што выглядала яна надзвычай прыгожаю. Ходзячы непадалёку ад сваёй нівы, збірала суніцы. Падыходзіць Сямён, просіць ягад; не адмаўляе яму дзяўчына; пытае лоўчы, ці падабаецца ён Марысі.

— Людзі кажуць, што ты чаруеш, — адказала тая,— а я баюся чараўнікоў.

— О, не, Марысю, нікога не чараваў і не ведаю гэтага ганебства.

— Калі праўду кажаш, — я крыжык нашу на шыі, пасвянцоны ў касцёле, які можа грахі адпускаць, — пацалуй мой крыжык.

— З ахвотаю, — адказаў Сямён.

І ледзь пацалаваў крыжык, як тут з травы падняў галаву велізарны вуж, нібыта хацеў зірнуць на Марысю. Перапалоханая дзяўчына закрычала. Сямён схапіў камень і выцяў вужа. Той, сыкаючы, схаваўся ў траве. А пасля раптам з'явіўся чорны сабака, загаўкаў і знік. Марыся ад страху дрыжыць ледзь жывая. Сямён правёў яе дадому і адтуль зноў ідзе на паляванне. Толькі ўжо не сустрэў яго ў лесе чорны сабака.

Убачыў цецерука; стрэліў, але замест птушкі — пень гнілы ўпаў на зямлю. Спалохаўся Сямён, вяртаецца дахаты, аж там безліч вужоў, сыкаючы, паўзуць пад лаву і пад печ. Адчыніў скрыню, выняў Вужыную Карону, а яна ўжо не залатая:

два пажоўклыя бярозавыя лісточкі. Стаіць як слуп і не ведае, што чыніць.

Доўга яшчэ дакучалі вужы небараку Сямёну. Не давалі спакою не толькі дома, але і на гасцінах. Калі завітваў да суседзяў, не раз, не баючыся людзей, з'яўляўся перад ім немаведама адкуль вуж.



1. У аснове апавядання — міф пра Вужынага Караля. Якія эпізоды ў творы падаліся вам незвычайнымі, фантастычнымі?
2. Якім быў панскі лоўчы Сямён па сваім характары? Як ён ставіўся да сваіх абавязкаў?
3. Якое даручэнне атрымаў Сямён ад панскага аканома? Чаму паляўнічаму не ўдалося яго выканаць?
4. Як атрымалася, што Сямён трапіў у залежнасць ад нячысціка? Якія ўмовы той паставіў паляўнічаму?
5. Перачытайце апісанне ночы перад святам Узвіжання на Ласінай гары. Што прыйшлося там перажыць Сямёну, якія выпрабаванні вытрымаць? Як ён атрымаў Вужыную Карону?
6. Што змянілася ў жыцці лоўчага пасля сустрэчы з Вужыным Каралём? Як стаў Сямён *найслаўнейшым паляўнічым*?
7. Якія чуткі хадзілі па ваколіцы пра Сямёна? Паразважайце, ці зрабіўся ён шчаслівым ад дапамогі нячысціка.
8. Як удалося паляўнічаму вызваліцца ад нячысціка? Чаму той не хацеў адпускаць Сямёна?
9. Як вы думаеце, што неабходна чалавеку для таго, каб вытрымаць неспрыяльныя жыццёвыя абставіны? Абгрунтуйце свае меркаванні.

## Максім БАГДАНОВІЧ

### ВАДЗЯНІК

Сівавусы, згорблены, я залёг між цінай
І гадамі грэюся — сплю на дне ракі.
Твар травой аблытаны, быццам павуцінай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтыя пяскі.

Над вадой ля берага ціха спіць асока,
Ды лаза зялёная жаліцца-шуміць,
Хвалі ціха коцяцца і бягуць далёка, —
І усё навокала сном адвечным спіць.

?

**1.** Якім паказвае Вадзяніка паэт? Зачытайце адпаведныя радкі з верша.
**2.** Як аўтар малюе мясціны, дзе жыве ўяўны гаспадар ракі?
**3.** Якія ўласцівасці набываюць у вершы асака, лаза і хвалі?
**4.** Як вы думаеце, што абудзіла фантазію паэта і паўплывала на стварэнне гэтага і іншых вершаў пра міфічных істот?

### ПАЛЕШУКІ І ПАЛЕВІКІ

*(Народная легенда)*

Было ў бацькі дванаццаць сыноў, усе рослыя ды ўдалыя хлопцы. Жылі яны на вялікай палянцы, між цёмнага лесу. Вялі там сваю гаспадарку, палявалі на дзікіх звяроў і птушак.

Стары бацька, сівы, як голуб, сядзеў сабе ў кажушку і ўлетку ды толькі камандаваў. І былі ў сям'і лад ды згода. Пажаніліся сыны, пайшлі ў іх свае дзеці. Вялікая вырасла сям'я. Ды ўсе слухалі старога бацьку, і кожны рабіў сваю работу.

Але вось па некаторым часе памёр бацька. І пачаліся ў сям'і нелады. Жонкі братоў сварацца, адна адну заядаюць, — рады няма. Такая пайшла між імі калатня, што і мужыкі нічога зрабіць не могуць. Крычаць жонкі, хочуць дзяліцца.

«Ну што ж, — думаюць браты, — трэба дзяліцца».

Пачалі дзяліцца. Ды справа гэтая не такая і лёгкая, як ім здавалася. Сяк-так з крыкам ды зыкам падзялілі дабро і жывёлу. А як дайшло да зямлі, дык тут чуць адзін аднаго не пазабівалі: ніяк не могуць падзяліць сваю палянку, каб нікому крыўды не было. Перасварыліся браты і сталі адзін аднаму ворагамі.

Толькі два малодшыя браты жылі між сабою ў вялікай згодзе: куды адзін, туды і другі. Не захацелі яны калаціцца з братамі за зямлю, пакінулі бацькаву хату ды падаліся ў свет шукаць іншага прытулку.

Зрабілі браты з двух дубоў вялікія сані, запрэглі ў іх шэсць пар валоў, наклалі дабра, пасадзілі жонак з дзецьмі ды паехалі на санях па пяску. А каровы і дробная жывёла ззаду за імі пайшлі.

Працягнулі трохі валы дубовыя сані па пяску ды сталі як укопаныя. Калёс тыя браты не мелі і нічога пра іх не ведалі. Бо нікуды яны са свайго лесу не толькі ўлетку, але і зімою не ездзілі.

Пачалі браты адпілоўваць круглыя калодкі ды падкладваць пад палазы. Коцяцца калодкі, і сані паўзуць уперад.

Надакучыла меншаму брату падкладваць калодкі пад палазы, вось ён і кажа большаму:

— Давай зробім так, каб калодкі самі круціліся пад палазамі.

І зрабілі яны першыя ў тым краі калёсы. Лёгка пайшлі цяпер валы, так што браты і самі паселі на воз. Едуць і дзівяцца, як яны да гэтага часу абыходзіліся без калёс.

Ехалі яны, ехалі, даехалі да вялікай ракі. Агледзелі раку — усюды глыбока, нідзе няма зручнага месца, каб пераехаць уброд. А тут такая навальніца ўсхадзілася, што лес, як звер, раве. Ломіць навальніца дрэвы, як саломінкі, ды шпурляе ў раку. Плывуць яны па вадзе цэлымі сціртамі.

Паглядзеў на іх малодшы брат, падумаў і здагадаўся, як перабрацца цераз раку.

Налавілі яны з братам дрэў, ачысцілі галлё, калоды звязалі адну з адной і зрабілі моцны плыт. А як сціхла навальніца, узвезлі свой воз на плыт. Самі стаяць на плыце ды кіруюць доўгімі жэрдкамі, а плыт плыве, як карабель.

Убачылі каровы, што валы паплылі на другі бераг, кінуліся ў раку ды за імі наўздагон. Толькі свінні і авечкі не адважыліся скакаць у ваду. Стаяць на беразе, бляюць, рохкаюць. Вярнуліся потым браты з плытам назад і забралі іх. Гэтак усе і пераправіліся цераз шырокую і глыбокую раку.

Паехалі яны далей і забраліся ў такую пушчу, што і канца ёй няма.

Пачалі браты церабіць прасекі ў пушчы ды масціць грэблі. Але дзе там! Чым далей, тым лес гусцей, а ў ім такія нетры, што і выбрацца нельга. Большы брат змарыўся, аслабеў.

— Застануся, — кажа ён меншаму брату, — я тут, бо не хопіць у мяне сілы з гэтага лесу выцерабіцца.

І застаўся з сваёю сям'ёю жыць у лесе.

З таго часу і яго самога і ўвесь яго род пачалі зваць палешукамі.

А малодшы брат не захацеў заставацца ў лесе. Быў ён дужы, як тур[1], і спадзяваўся на сваю сілу. Ён адзін церабіў прасекі, масціў грэблі і ехаў далей.

І да гэтых часоў засталіся яшчэ на Палессі тыя прасекі ды грэблі, што нарабіў малодшы брат.

Ці доўга ён так выбіраўся з цёмнага лесу, ці не, але вось нарэшце пачалі трапляцца прагаліны ды палянкі з пяскамі. Асеў малодшы брат на гэтых палянках, пачаў іх араць і сеяць збожжа.

І з таго часу празвалі яго самога і ўвесь яго род палевікамі.

А потым рассяліліся палешукі і палевікі, занялі новыя лясы і палі ды сталі добрымі суседзямі.

Так і цяпер жывуць.

?

1. Колькі сыноў было ў бацькі? Дзе і як яны жылі?
2. Што стала прычынай сварак дзяцей?
3. Чаму малодшыя браты пакінулі сваю палянку? Раскажыце пра тыя цяжкасці і перашкоды, якія сустрэліся на іх шляху.
4. Чаму адзін брат застаўся са сваёй сям'ёй жыць у лесе, а другі падаўся далей?
5. Як пачалі называць род кожнага з братоў? Патлумачце чаму.

---

[1] *Тур* — дзікі вымерлы бык, продак буйной рагатай жывёлы, які вадзіўся некалі ў беларускіх пушчах.

## Казімір КАМЕЙША

### КАМЕНЬ ЛЯ ВЁСКІ КАМЕНЬ

Гэта не камень,
а чаравік.
А хто забыў яго?
Сам ледавік.
Гэта ж ён пеша
тупаў здалёк,
Сляды-каменні
здалёк
валок.
І раптам ён чуе
спеў салаўя.
Пусціўся у скокі:
— Ух, я!..
Ён так чаравікам сваім
грымеў,
Аж прарок Ілья
ў калясніцы нямеў.
Там, дзе скакаў ён,
прыблуднік той,
Засталіся крушні[1]
ляжаць гарой.
Стаміўся нарэшце:
— Ох ды ох!..
І ўслед ляцела: — Каб ты каменем лёг!
Ён пачуў тыя словы.
І не лёг, а прысеў
На пушчанскай
вузенькай паласе.

---

[1] *Кру́шня* — куча (гара) камення.

Расшчапіў на шыі
каменны аплік[2],
Зняў каменнай рукою
валун-чаравік.
І забыў пра яго,
не вяртаўся назад —
Было цяжару
і так зашмат.
Ішоў заваёўнік
дарогаю той,
Спыніў чаравік яго:
— Ты хто?
Спыніўся прыблуда,
потым прысеў
На пушчанскай
вузенькай паласе.
...Знік ледавік,
заваёўнік знік.
Засталіся сляды
і яшчэ — чаравік.



1. Як выглядае магутны ледавік паводле паэтычнага апісання? Зачытайце адпаведныя радкі з верша.
2. Як паэт тлумачыць з’яўленне, паходжанне вялікага валуна-чаравіка каля вёскі Камень?
3. Паспрабуйце ўявіць ледавік як агромністага волата-асілка, які *зняў каменнай рукою валун-чаравік*. Намалюйце гэтага незвычайнага персанажа або прыдумайце казачную гісторыю на тэму «Як Асілак-валун ворагаў на нашай зямлі запыніў».

---

[1] *Аплі́к* — кручок для зашпільвання адзення.

4. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Эдуарда Рымаровіча «Камяні». (Гл. уклейку.) Намалюйце кветкі, дрэва, камень ці крынічку, што ўшаноўвалі нашы продкі, такімі, якімі вы іх уяўляеце.

## Якуб КОЛАС

## ЖЫВАЯ ВАДА

### I

Даўно-даўно, не за нашу памяць было гэта.

Шчаслівы то быў куточак белага свету.

Вольна жылося людзям у той краіне. Ніхто іх не гнаў, ніхто іх не крыўдзіў, нікому яны не належалі. Багатая, урадлівая была іх зямля. Шырока раскінуліся іх палі, зялёныя травы сенажацей калыхаліся на ветры. Ціха і весела смяяліся кветкі, пазіраючы сваімі пахучымі галоўкамі ў раку, якая паіла ўвесь той кут і тых, хто жыў і рос там, і давала яму жыццё. Усё жыло каля ракі, гэту раку людзі называлі Жывою Вадою. Усё жывое і нежывое любіла яе, і песні волі разліваліся па ўсіх кутках шчаслівай старонкі.

Але нядоўга астаецца шчасце на адным месцы. Пакінула яно і той слаўны куточак.

Нешта страшнае і незразумелае для чалавека зрабілася там. Нейкая сіла пазайздросціла шчасцю людзей.

У тым месцы, адкуль выцякала Жывая Вада, зямля стала ўспучвацца. Хутка, як грыб, вырастала гара. А Жывая Вада пачала павольна мялець і хутка зусім згінула дзесьці ў зямлі. Толькі след, дзе цякла яна, надоўга астаўся на зямлі і гаварыў людзям пра даўнейшае жыццё.

Гара ўсё расла. Праходзіў час, пусцела зямля, з гары сыпаўся жоўты пясок і засцілаў ураджайны грунт. Людзі збяднелі, птушкі разляцеліся. Не чутно ўжо было там вясёлых песень. Толькі арлы ды каршуны вілі свае гнёзды на высокай гары, што ўсмактала ў сябе Жывую Ваду.

## II

Бяднеў год ад году колісь багаты край. Ураджайны грунт засыпаўся пяском. Многа працавалі людзі, многа пралівалі поту, а праца іх прападала, і скупа плаціла зямля за іх работу і пакуту. Развяліся чэрві на іх агародах — некаму было зніштажаць іх, бо каршуны і ястрабы разагналі птушак.

Расказваў бацька сыну пра даўнейшае жыццё — пра багацце іх краю, пра гару, якая глынула іх Жывую Ваду, сама стала расці, а жыццё ўсяго краю прысудзіла да маруднай смерці. Глухая злосць на праклятую гару падымалася ў сэрцы людзей, бо памяць аб Жывой Вадзе на забывалася.

Нямала знаходзілася смелых людзей, якія ішлі на гару шукаць Жывой Вады.

Бралі яны рыдлёўкі, акопвалі гару. Але з гары сыпаліся на іх камяні, разбівалі ім галовы. Каршуны і ястрабы зляталіся хмарамі, выдзёўбвалі ім вочы. А пугач і сава ўночы спявалі ім «вечны спакой» сваім жудасным крыкам.

Многа, многа людскіх касцей валялася навокал гары, а каршуны і крумкачы разносілі іх па ўсіх кутках спустошанага краю. І людзі празвалі сваю старонку Мёртвым Полем.

Дзіка і пуста стала ў Мёртвым Полі. Людзі хадзілі як цені, галодныя, прыгнечаныя. Птушкі

даўно перасталі там спяваць песні. Толькі каршуны кружыліся ў небе, каркалі крумкачы і наганялі нуду на душу людзей, невядомымі страхамі палохалі сэрца, розум.

Нават лес змяніўся: старыя дрэвы даўно згнілі і ляжалі ў зямлі, а новыя былі нізкія, крывыя, няўдалыя, — як сухотныя. Рэдка заглядалі туды хмары, і мала калі падаў дождж.

### III

Насталі сухія гады. Апошні выдаўся такі год, што ні разу не падаў дождж за ўсё лета. Кожны дзень неба аставалася чыстым, ясным, гарачым. Усходзіла сонца, хутка сушыла расу, што блішчала ранкам, як слёзы на лісцях расліны. А сухі вецер гуляў над зямлёю, падымаў гарачы пясок, высмоктваў апошнія сокі з зямлі. Лес, поле, луг з гаротнаю мальбою пазіралі на неба, прасілі вады прагнаць сваю смагу. Дрэвы глуха шумелі і зліvалі свой шум у адну доўгую, невядомую людзям песню. Жаласна ківаліся каласы ў полі, то кланяліся зямлі, то падымаліся к небу, нібы просячы ратунку.

Ніхто не ішоў ім на дапамогу, і яны без пары старэлі, жоўклі і без жыцця хісталіся на сухіх сцяблінках. Трава і кветкі ціхутка шапталі ветру аб сваёй нядолі. Цярплівыя камяні і тыя нылі ад спёкі і лопаліся. Сама зямля зморшчылася, пакалолася і плакала. Яе слёзы апошнімі кропелькамі расы выступалі наверх, яе просьба белаватым туманам звісала над лесам і разносілася вятрамі па свеце. Пакутавалі людзі, сумавала зямля і ўсё, што расло і жыло на ёй. Неўзаметку падымаліся к небу іх слёзы, падымаліся не год і не два, а цэ-

лыя вякі, а там недзе сплываліся ў адно месца. Тыя слёзы, горкія скаргі, усё гора зямлі — змяшаліся разам і завіслі над ёю страшнаю чорнаю хмараю.

## IV

А дзе ж дзелася Жывая Вада?

Яна была пад зямлёю, яна паціхеньку размывала зямлю, прабівала сабе дарогу на вольны свет. Ніхто гэтага не ведаў. Не ведала і гара, што вісела над бяздонніцаю. А Жывая Вада чакала толькі шчаслівага здарэння, каб скінуць з сябе цяжар — праклятую гару, што са шчаслівага кутка зрабіла Мёртвае Поле.

І настаў такі час, што пралітыя слёзы перапоўнілі неба і паліліся назад на зямлю. Не ў сілах было само неба стрымаць тыя слёзы. Самі яны рваліся туды, дзе радзіліся патроху; падымаліся ўгору.

Людская жалоба, гора, пакута, усё няшчасце зямлі, што збіраліся тысячамі гадоў, паліліся цяпер са слязьмі адной хваляй.

Адвечная скарга грымела ў небе страшным голасам грому і калыхала ўсю зямлю; стогны людскія, якіх ніхто не чуў, блішчалі маланкамі, а слёзы цяклі халоднымі, чыстымі ручаямі на зямлю і ажыўлялі яе. Вада збіралася ў адну раку і дружна стала напіраць на гару.

Зрушылася гара; моц яе, камяні градам сыпаліся ўніз. Арлы, каршуны, крумкачы, ястрабы, совы пазляталі з гары, каб запыніць ваду.

Пачула і Жывая Вада, што робіцца над ёю. Сабрала яна ўсе сілы свае і ўскалыхнула гару, як купіну. Яе падхапіла дажджавая рака. Страшны шум пайшоў па Мёртвым Полі.

Усё жывое дрыжала ад страху і чакала пагібелі. Але згінула адна гара. Пяском і дымам развеялася яна па полі.

Гневалася неба, бушавала вада, трэслася зямля. Ліліся рэчкі на кожнай разоры і зліваліся з Жывой Вадою.

Прайшоў страшны момант, і стала спакойна. Вада ўся злілася ў старое дно Жывой Вады, і жыццё, затрыманае праз доўгі час гарою, ізноў пайшло сваёю дарогаю, і ажыло Мёртвае Поле.



1. Як жылося людзям у *шчаслівым куточку белага свету*?
2. Што стала з тым слаўным краем, калі яго напаткала бяда? Падмацуйце свой адказ адпаведнымі радкамі з тэксту.
3. Прыгадайце, як людзі спрабавалі выратавацца ад галоднай смерці. Што чакала іх на гэтым шляху?
4. Чаму людзі назвалі сваю старонку Мёртвым Полем? Пры дапамозе якіх выяўленчых сродкаў аўтар стварыў такі яскравы вобраз?
5. Хто ажывіў Мёртвае Поле? Як гэта здарылася?
6. У чым, на вашу думку, заключаецца алегарычны (іншасказальны) сэнс твора?
7. Падбярыце назвы да кожнай часткі гэтай літаратурнай казкі, падрыхтуйце яе пераказ.



# СЭРЦАМ НАРОДЖАНЫ СПЕЎ

## НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

Наша народная песня вылілася з сэрца, вуснаў усяго народа беларускага і таму называецца — *народнай*.

Песні наш народ складаў на працягу вякоў у розныя хвіліны свайго жыцця. Ён уклаў у вузкія рамкі песні ўсе свае радасці, свой смех, сваё гора, долю і нядолю, слёзы жыццёвыя. Песня народная поўніцца шчырымі словамі, у ёй, быццам працавітымі пчолкамі, сабрана ўсё багацце красы і непаўторных узораў.

З пакалення ў пакаленне народ ад дзеда — унуку, ад унука — праўнуку перадаваў у песні глыбокую і праўдзівую навуку тым, перад кім яшчэ слаўся няпройдзены цяжкі жыццёвы шлях. Толькі кожнае новае пакаленне да дзедавай навукі-песні дадавала ўласнымі вуснамі свой погляд на жыццё, свой боль, свой жаль, свой смутак і сваю радасць.

Таму для нас народная песня такая зразумелая, родная, блізкая сэрцу. У ёй мы чуем і клопат

маці, і радасць брата, і надзею сястры, і залатыя свае ўласныя сны. Наша песня народная гучала ўлетку пры кожнай працы — ці то на полі, ці то на лузе, ці ў лесе, ці ў садочку. А прыходзіла зіма — дзьмулі халодныя вятры і завеі — народная песня тулілася пад страхой — у цеснай беларускай хатцы, жыла ў ёй разам з людзьмі, з іх думкамі і жаданнямі. Сэрцу чалавечаму песня дае ўцеху, а дзеткам, якія слухаюць яе, — жывую навуку *(Паводле Цёткі)*.

***Песня*** — вершаваны і музычны твор для выканання голасам (спявання).

У залежнасці ад жыццёвага прызначэння народныя песні ўмоўна падзяляюць на *абрадавыя* і *пазаабрадавыя*. Надзвычай багатыя беларускія абрадавыя песні, якімі суправаджаліся розныя святы і падзеі ў жыцці селяніна. Сярод абрадавых песень вылучаюць сямейна-абрадавыя (сямейна-родавыя) і каляндарна-абрадавыя (каляндарна-земляробчыя). *Сямейна-абрадавыя* песні былі звязаны з найбольш значнымі падзеямі ў жыцці чалавека — нараджэннем, вяселлем (шлюбам), смерцю. *Каляндарна-абрадавыя песні* выконваліся падчас свят, вызначаных земляробчым календаром селяніна — сейбіта і хлебароба.

Сваім зместам і вобразамі каляндарна-абрадавыя песні знітаваны з працоўнай дзейнасцю чалавека, з яго адвечнымі клопатамі пра ўраджай як аснову жыцця, дабрабыту і шчасця. Абрады былі падпарадкаваны адной мэце — пры дапамозе спеваў, танцаў, загавораў і іншых дзеянняў паўплываць на сілы прыроды, каб атрымаць багаты ўраджай на ніве, абараніцца ад усяго злога і шкоднага, палепшыць свой лёс.

У каляндарна-абрадавай паэзіі вылучаюцца адпаведна з порамі года чатыры цыклы: *зімовы* (калядныя, шчадроўскія, масленічныя песні), *веснавы* (вяснянкі, валачобныя, карагодныя песні), *летні* (купальскія, жніўныя песні) і *восеньскі* (ярынныя, талочныя песні).

Кожная пара года мела адпаведныя абрады, звычаі, павер'і, песні. Агульнай у іх была тэма працы на зямлі. Усе каляндарна-абрадавыя песні былі прасякнуты думкай пра будучыню роду, сям'і, клопатам пра тое, як своечасова і ў найбольш спрыяльны час засеяць ніву, вырасціць, захаваць і ў пару сабраць ураджай, зберагчы ад дзікіх звяроў і паморку статак. Разам з тым каляндарна-абрадавая паэзія надавала святам вясёласць, забаўляльнасць, непаўторнасць.

На першы погляд можа падацца, што народныя песні вельмі простыя па змесце, нешматслоўныя, асобныя словы і выразы ў іх паўтараюцца. Але гэта не так. Песні найперш выконвалі магічную ролю: людзі звярталіся з просьбамі, пажаданнямі, заклінаннямі, зваротамі да сіл прыроды, стараліся пераканаць іх, задобрыць, улагодзіць. Нашы продкі ўшаноўвалі Каляду, Купалу, прасілі спрыяння ў гаспадарцы, ладу ў сям'і, добрага здароўя сваім родным, шчаслівага лёсу дзецям. Таму шматлікія паўторы былі неабходнымі.

*Пазаабрадавыя* беларускія песні (лірычныя, гістарычныя, жартоўныя) не былі непасрэдна звязаныя з тымі ці іншымі святамі. Іх спявалі ў розных жыццёвых абставінах — на працы і ў час адпачынку, дома і ў полі, прылюдна і сам-насам. Песні гэтыя не суадносіліся ні з дзеяннямі ці пэўнымі датамі, ні са святамі ці гульнямі. Каштоў-

насць пазаабрадавых песень у тым, што яны перадаюць пачуцці і перажыванні, зразумелыя і блізкія ўсім людзям. У гэтых песнях выявіліся лепшыя рысы нацыянальнага характару беларусаў, іх светапогляд і народная мараль.

Успрымаць песню, мяркуючы толькі па яе тэксце, нельга. Прыгажосць песні можна адчуць, калі яна будзе гучаць, спявацца. Словы павінны ўспрымацца разам з мелодыяй і выкананнем — тады песня абавязкова прыемна ўразіць слухача.

Надзвычай багатая паэтыка народных песень. Народныя песні — выдатныя мастацкія творы, амаль у кожнай мы сустрэнем словы, ужытыя ў пераносным значэнні, — тропы: эпітэты, параўнанні, сімвалы, метафары, увасабленні, гіпербалы.

Дапамагаюць стварыць выразную карціну ***эпітэты*** — мастацкія азначэнні:

Па вадзіцу іду *босенькімі* ножкамі,
Заліваюся *гарачымі* слёзкамі.
Узыду, пайду на *высоку* гару,
Ды й зірну, гляну на *ясну* зару.

Часта сустракаюцца так званыя ***сталыя эпітэты***, якія ўжываюцца толькі з пэўнымі словамі: *поле шырокае, зорка ясная, ночка цёмная, слёзы горкія, рукі белыя.*

У народных песнях надзвычай паэтычныя ***параўнанні***, яны сціслыя, выразныя, трапныя: *светлая, як зорка ясная*; *чыстая, як сляза*; *прыгожы, як месячык ясны*. Напрыклад, дзяўчына звяртаецца да свайго любага:

Ты хадзі ка мне ў госці:
Ты лесам ідзі — *дробным дождж ыкам*,
Ты лугам ідзі — *буйным ветрыкам*,

Ты ў сад мой — *салавейкаю,*
На двор мой — *ясным сокалам*,
У хату маю — *дружком міленькім*.

Надзвычай распаўсюджаны ў народных песнях ***вобразы-сімвалы*** — умоўныя абазначэнні з'явы праз вобраз, які нечым нагадвае гэту з'яву. Паэтычнымі сімваламі ў песнях выступаюць птушкі, жывёлы, дрэвы. Напрыклад, размова бярозы з лістком сімвалізуе горкае расставанне маці са сваёй дачкой, якую аддаюць замуж:

— А мой жа ты *лісточак*, мой зялёненькі,
Як жа мы расстанемся?
Ветрык павее, цябе пакоціць,
А я тут застануся, *дажджом* абальюся.

Характэрным мастацкім прыёмам стварэння вобразаў у народных песнях з'яўляецца ***ўвасабленне*** — перанясенне ўласцівасцей жывых істот на прадметы і з'явы прыроды:

*Гаварыла поле* шырокае,
*Жыта* ядраное:
— Жнейкі жнейкі мае маладыя,
Сярпы залатыя,
Прыходзьце ка мне заўтра рана...

Сустракаюцца ў песнях і ***гіпербалы*** — вобразныя выразы, у аснове якіх ляжаць моцныя перавелічэнні ўласцівасцей, якасцей, памераў прадмета або з'явы з мэтай узмацніць уражанне, выказаць сваё захапленне або абурэнне чым-небудзь:

Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе прабягае,
Там вылягае.

Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза нагою,
Там жыта капою.

Ажыўляюць і ўпрыгожваюць народную песню, надаюць ёй пяшчотнасць, прывабнасць, меладычнасць паэтычныя ***звароткі, памяншальна-ласкальныя словы, паўторы,*** а таксама ***паралелізмы***, пры якіх дзве з'явы, чым-небудзь падобныя або процілеглыя, раскрываюцца ў супастаўленні, паралельна, у форме разгорнутага параўнання:

Над ракою ў спакою
*Расцвітала каліна*,
А ў сяле за ракою
*Вырастала дзяўчына*.

Беларускі песенны фальклор надзвычай багаты і непаўторны. У ім — душа нашага народа, светлая, прыгожая, чыстая. Народная песня і сёння жывіць прафесійную нацыянальную музыку, паэзію і мастацтва ў цэлым.



1. Калі і як узніклі народныя песні? У якія моманты чалавечага жыцця яны звычайна выконваліся?
2. На якія два віды падзяляюцца абрадавыя песні? Ахарактарызуйце іх.
3. Якія песні ўваходзяць у склад сямейна-абрадавых?
4. Паводле якога прынцыпу вылучаюцца цыклы ў каляндарна-абрадавай паэзіі?
5. Якія мастацкія сродкі найчасцей сустракаюцца ў народных песнях? Прывядзіце канкрэтныя прыклады.

## ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА НА БЕЛЫМ КАНІ...

Прыехала Каляда на белым кані,
Яе конічак — ясен месячык,
Яе дружачка — ясна зорачка,
Яе пужачка — ясна звёздачка,
Яе вазочак — з тоўстага лядку,
Яе кажушок — з белага сняжку.

## ВЫ, КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ...

Вы, калядачкі, бліны-ладачкі,
Ай, люлі-люлі, бліны-ладачкі.

А калядачкі — да у ліпнічку,
А прынадачкі — у бярэзнічку.
А калядачкі, вы барджэй, барджэй[1],
Напячом бліНцоў мы з драждджэй,
з драждджэй.
А калядныя бліны ладныя,
А мікольскія[2] — не такоўскія.



1. На якое свята спяваюцца гэтыя песні?
2. Якой паўстае Каляда ў песнях? Як, пры дапамозе якіх мастацкіх сродкаў створаны вобраз Каляды?
3. Адшукайце ў тэкстах песень паўторы і гіпербалы. Якую ролю яны выконваюць?
4. Якімі дзеяннямі суправаджаецца выкананне песень на Каляды? Што вы ведаеце пра гэта свята?

---

[1] *Барджэ́й* (ад *бо́рзда*) — хутчэй.

[2] *Мікольскія (бліны)* — тыя, што пякуцца на свята Святога Міколы (19 снежня).

5. Паслухайце калядныя песні ў выкананні спевакоў, з музычным суправаджэннем. Падзяліцеся сваімі ўражаннямі.
6. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Эдуарда Рымаровіча «Каляды». (Гл. уклейку.) Які настрой перадае карціна? Звярніце ўвагу на палітру (падбор фарбаў), постаці калядоўшчыкаў, святочную атрыбутыку.
7. Падрыхтуйце калектыўную інсцэніроўку святкавання Каляд у класе або на школьнай вечарыне.

### БЛАГАСЛАВІ, МАЦІ, ВЯСНУ ЗАКЛІКАЦІ

Благаславі, маці,
Благаславі, маці! У-у-у!

Вясну заклікаці,
Вясну заклікаці! У-у-у!

Адамкнуць зямліцу,
Адамкнуць зямліцу! У-у-у!

Выпусціць травіцу,
Выпусціць травіцу! У-у-у!

На ранняе лета,
На ранняе лета! У-у-у!

На буйнае жыта,
На буйнае жыта! У-у-у!

Прыйдзі, вясна-красна!
Прыйдзі, вясна-красна! У-у-у!

?

1. Якія чалавечыя пачуцці раскрываюцца ў песні-вяснянцы?

2. Якія спадзяванні ўскладвалі людзі на прыход вясны?
3. Якія выяўленчыя моўныя сродкі дапамагаюць стварыць вобраз вясны — прыгожай, вясёлай, шчодрай?
4. Раскажыце, што вы ведаеце пра народны абрад гукання вясны.

### А НА КУПАЛУ РАНА СОНЦА ІГРАЛА...

А на Купалу
    Рана сонца іграла —
Рана сонца іграла,
    На добрыя годы —
На добрыя годы,
    На цёплыя росы —
На цёплыя росы,
    На хлябы-ўраджаі —
На хлябы-ўраджаі.



1. Да якога віду каляндарна-абрадавых песень можна аднесці гэтую песню?
2. Як вы разумееце вобраз «сонца іграе»?
3. Як праяўляецца ў песнях жаданне чалавека засцерагчы ўраджай напярэдадні яго збору? Пацвердзіце свае меркаванні прыкладамі.
4. Якія вобразы прысутнічаюць у песні? Якія мастацкія сродкі ўдзельнічаюць у іх стварэнні?
5. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Віктара Барабанцава «На Купалле». (Гл. уклейку.) Якім бачыць Купалле мастак? Якія мастацкія сродкі дапамагаюць мастаку раскрыць сутнасць народнага свята?
6. Раскажыце, што вы ведаеце пра народнае свята Купалле.

## ДОБРА ЖАЦЬ — ШЫРОКАЯ НІЎКА...

Добра жаць — шырокая ніўка,
Вялікая постаць[1].
Добры вечар, сцюдзёная хатка —
Нявродная матка.
Не пытаецца, ці змарылася,
Што спазнілася.
Ды пытаецца, ці доўга пражала,
Ці многа нажала.
Добра жаць — шырокая ніўка,
Вялікая постаць.
Добры вечар, цёплая хатка —
Родная матка!
Не пытаецца, ці зляніласся,
Ці многа нажала.
Ды пытаецца, ці змарылася,
Што спазнілася.



1. Калі спяваецца гэта песня?
2. Якой паказана ў песні ніўка?
3. Якой вы ўяўляеце жнейку? Дакажыце, што ў песні выяўлена вялікая сімпатыя да жнейкі, спачуванне яе цяжкай долі.
4. Што, на вашу думку, яднае гэту песню з іншымі народнымі песнямі?

## КАЛЯ МЕСЯЦА, КАЛЯ ЯСНАГА...

Каля месяца, каля яснага
Усе дробныя зоркі.
А ў Іванькі на куце
Усе любыя госці.

[1] *По́стаць* — тут: прастора, поле.

Любыя госці, любыя госці!
Бабуля на куце сядзіць,
Харошую песню пяе.
Першую — нараджоную,
Другую — сужоную,
Трэцюю — хрэсьбінную.
Дай, Божа, нашаму дзіцяці
Хрэсьбінкі згуляці,
Хрэсьбінкі згуляці
І вяселля даждаці.

?

1. Якая жыццёвая сітуацыя згадваецца ў песні? Дзе адбываецца дзеянне?
2. Хто галоўны герой хрэсьбінай песні? Як трымае сябе бабуля? Якое месца яна займае ў застоллі сярод гасцей?
3. Якія пажаданні дзіцяці выказваюць госці? Якую ролю ў хрэсьбінных песнях адыгрываюць зычэнні добрай і светлай, шчаслівай долі народжанаму?
4. Як дасягаецца ў песні паэтычнасць, вобразнасць?

## РЭЧАНЬКА

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Ясю коніка паіў,
Кася воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Кася воду чэрпала.

?

1. Якія думкі выклікала ў вас песня? Якія пачуцці абудзіла?
2. Вызначце настрой песні. Якімі мастацкімі сродкамі ён ствараецца?
3. Як дасягаецца выключная меладычнасць гучання песні? Якія сродкі моўнай выразнасці ўзмацняюць гэты эфект?

## ЛІТАРАТУРНАЯ ПЕСНЯ

Беларускі край вельмі песенны. Часам кажуць, што наша зямля спявае, звініць песнямі. Беларусы любяць не толькі народныя песні, але і песні, якія напісалі прафесійныя аўтары — паэты і кампазітары. Песні, створаныя на словы паэтаў, называюць *літаратурнымі*.

Музыка і словы шанаваліся здаўна. Старажытныя грэкі спевамі лячылі людзей. У Грэцыі паэты чыталі свае вершы ў суправаджэнні музычных інструментаў — найчасцей пад гучанне ліры ці кіфары (струнных музычных інструментаў).

У Беларусі народныя песні калісьці выконвалі вандроўныя музы́кі — гусляры і лірнікі, дудары і цымбалісты. Самымі раннімі літаратурнымі песнямі былі духоўныя (царкоўныя) песні. Пазней

вершы-песні пачалі пісаць беларускія паэты. Сярод першых найбольш вядомых аўтараў песенных твораў — Францішак Багушэвіч і Янка Купала.

Шматлікія вершы нашых паэтаў паклалі на музыку беларускія кампазітары. Дзякуючы кампазітарскаму таленту вершы загучалі цудоўнымі песнямі. Славутымі сталі беларускія песні на словы Янкі Купалы «Явар і каліна», Максіма Багдановіча «Зорка Венера», Канстанцыі Буйло «Люблю наш край...», Якуба Коласа «Мой родны кут...» і іншыя.

Многія песенныя творы зрабіліся шырокавядомымі і вельмі папулярнымі, без іх не абыходзяцца сямейныя святы, шчырыя сяброўскія бяседы, розныя канцэрты. Даўно любімай у народзе стала песня «Бывайце здаровы»:

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Дадому, дахаты.

Ў зялёнай дуброве
Мы начаваць будзем,
А вашае ласкі
Павек не забудзем.

Аўтар слоў гэтай песні — беларускі паэт Адам Русак. Ён здолеў ярка раскрыць душу беларуса — шчодрую і добразычлівую, поўную жыццялюбства і ўдзячнасці людзям за гасціннасць.

Без песні цяжка ўявіць творчасць многіх беларускіх паэтаў. Сярод іх з’явіліся паэты-песеннікі, якія спецыяльна пішуць вершаваныя тэксты для кампазітараў. У сваю чаргу, той ці іншы кампазітар кладзе словы на музыку — і так нараджаецца

песня. Выдатныя песні напісаны на словы Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Ніла Гілевіча, Анатоля Астрэйкі, Алеся Бачылы, Генадзя Бураўкіна, Алеся Ставера і іншых паэтаў. У сваіх вершах аўтары ўслаўляюць родны край, яго людзей, беларускія гарады, рэкі і лясы, апяваюць красу прыроды, сапраўдную дружбу і каханне. Добрая песня заўсёды прыносіць чалавеку радасць, узнёслы настрой, дае душэўную цеплыню, надзею на ўсё самае светлае і прыгожае ў жыцці.

Адна з такіх цудоўных песень — «Талака» Леаніда Пранчака (музыка Ігара Паліводы). Сучасны паэт услаўляе выдатную якасць нашага народа — спрыяць і дапамагаць адзін аднаму, працаваць супольна, разам дасягаць нейкай важнай мэты. Талака — даўняя народная традыцыя. Заўсёды збіраўся гурт людзей для таго, каб збудаваць хату, выкапаць калодзеж, пракласці дарогу. Звычай нашых дзядоў — выдатны прыклад для нас, сучаснікаў. Вельмі важна, каб у жыцці і побыце мы прытрымліваліся прынцыпу талакі, інакш кажучы, дапамагалі адзін аднаму, мацавалі дружбу і сяброўства, спагадалі іншым, жылі супольнымі інтарэсамі, імкнуліся разам пераадольваць цяжкасці. Пра гэта і спяваецца ў песні Леаніда Пранчака:

Мы асілім усё талакой.
Ты заўсёды са мной, я — з табой.
Не пакіне ў бядзе сябрука —
Талака, талака, талака.
Светлай радасці нам не суняць.
Хай да раніцы песні звіняць!
Хай шуміць, як вясною рака, —
Талака, талака, талака.

Песня «Талака» часта гучыць на беларускім радыё, на канцэртах, у тым ліку яна неаднойчы выконвалася на міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».



1. Якія песні называюцца літаратурнымі?
2. Як узніклі самыя раннія літаратурныя песні?
3. Якія папулярныя беларускія песні вы ведаеце? Калі яны звычайна спяваюцца?
4. Назавіце беларускіх паэтаў, на словы якіх напісаны вядомыя песні. Якая з песень вам найбольш спадабалася ці запомнілася? Чаму?
5. Калі ёсць магчымасць, паслухайце запіс песні «Талака» (словы Леаніда Пранчака, музыка Ігара Паліводы). Які настрой яна выклікала, якія пачуцці абудзіла?
6. Правядзіце літаратурна-музычную вечарыну (або гасцёўню) «І песню родную люблю я». Падрыхтуйце выкананне і праслухоўванне любімых беларускіх песень.

## Алесь СТАВЕР

### ЖУРАЎЛІ НА ПАЛЕССЕ ЛЯЦЯЦЬ...

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.

Што ім тыя пагоды паўднёвыя!
Што ім пышны платанавы[1] рай,

[1] *Плата́навы* (ад *плата́н* — вялікае паўднёвае дрэва з зеленавата-шэрай карой і шырокімі лістамі).

Калі клічуць іх далі сасновыя
І азёрны рабінавы край!

Сакавітыя пожні[1] мурожныя
Не заменіш нічым і нідзе
І зямлю, дзе сцяжыначка кожная
У прыветлівы двор прывядзе.

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Зразумееш тады, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.



1. Выразна прачытайце верш уголас. Затым паслухайце песню «Жураўлі на Палессе ляцяць...» на музыку Ігара Лучанка ў выкананні ансамбля «Песняры». Які настрой выклікала ў вас песня?
2. Якія канкрэтныя малюнкі беларускага краю паўстаюць перад намі з гэтага твора? З якім пачуццём аўтар гаворыць пра родную зямлю? Падмацуйце свой адказ радкамі з верша.
3. Як вы думаеце, чаму жураўлёў не прываблівае вечназялёны *платанавы рай*?
4. Магчыма, вам выпала наведаць якую-небудзь замежную краіну. Як доўга вы там былі? Якія ўражанні зведалі і ці сумавалі па сваёй Радзіме?
5. Як вы думаеце, ці абавязкова, каб любіць родную Беларусь, трэба пабываць у іншых краях? Абгрунтуйце свае меркаванні.
6. Уявіце: вам трэба пазнаёміць замежных гасцей са сваёй Радзімай, і тыя папрасілі ў

[1] *По́жня* — тут: сенажаць.

вас паслухаць песні пра Беларусь. Ці падыходзіць, на вашу думку, твор Ігара Лучанка і Алеся Ставера для таго, каб быць песеннай візітнай карткай Беларусі? Свой адказ абгрунтуйце.

7. Якія яшчэ песні пра Беларусь вы ведаеце? Хто са спевакоў іх выконвае? Пастарайцеся даведацца, хто з'яўляецца аўтарам тэксту той ці іншай песні.

## Алесь БАЧЫЛА

### РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ...

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві.
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках, азёрах і нівах,
Заводах, будоўлях — наўсцяж
Народ наш працуе руплівы,
І край узвышаецца наш.

Я радасць сваю не стрымаю —
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба,
Пачуцці ва ўсіх нас адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.

Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!



1. У якіх радках заключана асноўная думка верша? Зачытайце іх.
2. Што, на ваш погляд, аб'ядноўвае вершы Алеся Ставера і Алеся Бачылы?
3. Паслухайце песню «Радзіма мая дарагая...» (музыка Уладзіміра Алоўнікава). Што вы можаце сказаць пра мелодыю і яе гучанне? Які настрой абудзіў гэты твор?
4. Запыніце ўвагу на слове *прысягаю*, высвет-ліце яго значэнне. Растлумачце выкарыстанне гэтага слова ў вершы.
5. Як вы разумееце выраз *край узвышаецца наш*?
6. Што сцвярджае аўтар словамі *чужое зямлі нам не трэба*?
7. Якога лёсу і якой будучыні жадае паэт свайму народу?
8. Падрыхтуйце невялікае вуснае выказванне або пісьмовую замалёўку на адну з тэм: «Радзіма пачынаецца з...», «Родны край», «Я нарадзіўся тут».

## Валянцін ЛУКША

### ДАРАГАЯ МАЯ БЕЛАРУСЬ

Абрусам сонечным,
Як радасць,
Сяброў заўсёды сустракала.
Ніколі нелюдзям спагады
У грозным бітве не давала.

Дарогі іншай не згадаю —
Заручана са шчаснай доляй.
Красуй,
Радзіма дарагая,
Не ведай чорных хмар ніколі.

Беларусь —
Мая лепшая казка,
Поціск цёплых матуліных рук.
Беларусь —
Мая першая краска,
Дарагая мая Беларусь.



1. Як вы мяркуеце, чаму беларускія паэты і кампазітары часта прысвячаюць свае творы Радзіме?
2. Якім паўстае вобраз Радзімы-Беларусі з верша Валянціна Лукшы?
3. Якія словы асабліва яскрава раскрываюць сардэчнасць, цеплыню аўтарскага голасу?
4. Як лепш чытаць верш: гучна і ўзнёсла, сцішана і прачула ці неяк інакш? Прачытайце твор выразна ўголас.
5. Паслухайце ў запісе песню на гэты паэтычны тэкст (музыка Кіма Цесакова). Як гучыць яе мелодыя? Якія пачуцці выклікала ў вас гэтая песня?

## Генадзь БУРАЎКІН

### МАЛІТВА

Мы здалёку ўбачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут...
Божа,
Не дабаў майму народу

Пошасці[1],
Няпраўды
І пакут.

У чужым нялюдскім землятрусе
Хіба нечым мелі мы віну?..
Божа,
Адвядзі ад Беларусі
Здраду,
Вераломства
І вайну.

Смутнаю парою нелюдзімай,
Калі ўсё наўкол ідзе на злом,
Божа,
Захіні маю Радзіму
Мудрасцю,
Спакоем
І цяплом!

?

1. Да каго звернуты словы паэта? Якія думкі яго хвалююць? Пра што ён марыць?
2. У чым змест верша «Малітва» сугучны вашым пачуццям?
3. Паслухайце ў музычным запісе «Малітву» Генадзя Бураўкіна і Эдуарда Ханка. Якое ўражанне зрабіла на вас гэтая песня?

[1] *По́шасць* — тут: хвароба, эпідэмія; напасць.



## БІБЛІЯ — ВЕЧНАЯ І ДЗІВОСНАЯ КНІГА

*Біблія* — старажытны пісьмовы помнік, дзе сабраны разнастайныя творы, у складанні якіх на працягу амаль паўтары тысячы гадоў прымалі ўдзел каля сарака аўтараў. Біблія складаецца з асобных кніг («кніга» — па-грэчаску «біблія»), адсюль і назва твора. Кнігі, напісаныя да нараджэння Ісуса Хрыста — Сына Божага, — складаюць Стары Запавет. Тыя, што ствараліся на працягу першага стагоддзя ад Нараджэння Хрыстова, уваходзяць у Новы Запавет.

У Старым Запавеце расказваецца, як Бог стварыў Сусвет і самога чалавека, тут апавядаецца аб прароках і прароцтвах. На яго старонках надрукаваны псалмы — старадаўнія песнапенні і малітвы. Стары Запавет апавядае пра гісторыю Ізраіля, з народам якога Бог заключыў дамову (запавет). Паводле гэтай дамовы, Бог і людзі ўзялі на сябе ўзаемныя абавязкі. Бог абяцаў апекавацца над людзьмі, вучыць іх жыць па маральных законах, даць ім Збавіцеля. Людзі ж павінны былі жыць у згодзе, слухаць Бога, верыць Яму і спадзявацца на

Яго, рыхтавацца да прыходу Збавіцеля. Аднак людзі не змаглі жыць паводле Боскага запавету і паступова гінулі ў грахах.

Міналі стагоддзі. Раптам у палесцінскіх землях з'явіўся чалавек, які рабіў незвычайныя цуды: вылечваў безнадзейна хворых, уваскрашаў мёртвых, прапаведаваў невядомае раней вучэнне — Евангелле, што ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае «добрая, радасная вестка». Гэта быў Ісус Хрыстос («Хрыстос» па-грэчаску азначае «пасланнік»). Яго, згодна з прароцтвам, даўно чакалі. Бог паслаў на зямлю Свайго Сына, каб даць людзям, якія вераць у Яго, «жыццё вечнае». Ісус Хрыстос прыйшоў на зямлю, каб зрабіць чалавецтва шчаслівым, паказаць сапраўдны шлях жыцця. Ён узяў на Сябе ўсе людскія грахі і хваробы, прыняўшы пакуты і смерць за людзей.

Новы Запавет прысвечаны Ісусу Хрысту. З яго старонак можна даведацца, як Ён нарадзіўся, жыў і памёр. У Новым Запавеце падаецца вучэнне Ісуса Хрыста, апавядаецца пра Яго дванаццаць Апосталаў. Чацвёра Яго вучняў — Мацвей, Лука, Марк і Іаан — расказалі пра жыццё і вучэнне Хрыста. З тых даўніх часоў Біблія перакладзена на тысячы моў свету і з'яўляецца самай вядомай кнігай.



1. Што вы ведаеце пра Біблію? Што гэта за кніга? Калі і як яна ўзнікла?
2. Пра што апавядаецца ў Старым Запавеце?
3. Якія падзеі знайшлі адлюстраванне ў Новым Запавеце? Хто з вучняў Ісуса Хрыста распавёў пра яго жыццё і вучэнне?

# БІБЛЕЙСКІЯ ПАДАННІ

## СТВАРЭННЕ СВЕТУ

Хто не бачыў, як ноччу, калі патушаць усе агні, у змроку тоне ўсё, што вакол нас. У такой самай цемры некалі быў увесь свет. Тады не было ні травы, ні дрэў, ні прыгожых кветак і птушак. Не было нават неба і зямлі. Увесь Сусвет — адна цемра, адзін хаос. Але Бог не хацеў, каб усё так было і заставалася. І Ён стварыў гэты цудоўны і дзівосны свет.

У Бібліі, гэтай Свяшчэннай Кнізе, апісана стварэнне свету па Слове Божым:

«Напачатку стварыў Бог неба і зямлю. Зямля была нябачная і пустая, і цемра была над безданню; і Дух Божы насіўся над вадою.

І сказаў Бог: хай будзе святло. І стала святло.

І ўбачыў Бог святло, што яно добрае: і аддзяліў Бог святло ад цемры.

І назваў Бог святло днём, а цемру ноччу. І быў вечар, і была раніца: дзень адзін.

І сказаў Бог: хай будзе цвердзь пасярод вады, і няхай аддзяляе яна ваду ад вады.

І стварыў Бог цвердзь: і аддзяліў ваду пад цвердзю ад вады над цвердзю. І сталася так.

І назваў Бог цвердзь небам. І быў вечар, і была раніца: дзень другі.

І сказаў Бог: няхай збярэцца вада, якая пад небам, у адную мясціну, і хай паявіцца суша. І сталася так.

І назваў Бог сушу зямлёю, а вадазбор — морамі. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І сказаў Бог: няхай родзіць зямля зелень, траву, якая рассявае насенне, дрэва плоднае, якое

прыносіць плод па сваім родзе, у якім насенне яго на зямлі. І сталася так.

І радзіла зямля зелень, траву, якая рассявае насенне па родзе яе, і дрэва, якое прыносіць плод, у якім насенне яго па родзе яго. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І быў вечар, і была раніца: дзень трэці.

І сказаў Бог: няхай будуць свяцілы на цвердзі нябеснай для аддзялення дня ад ночы, і для адзнакаў і часоў, і дзён, і гадоў.

І хай будуць яны свяцільнікамі на цвердзі нябеснай, каб свяціць на зямлю. І сталася так.

І стварыў Бог два свяцілы вялікія: свяціла вялікае, каб кіраваць днём, і меншае, каб кіраваць ноччу, і зоркі.

І паставіў іх Бог на цвердзі нябеснай, каб свяціць на зямлю.

І кіраваць днём і ноччу, і аддзяляць святло ад цемры. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І быў вечар, і была раніца: дзень чацвёрты.

І сказаў Бог: хай народзіць вада паўзуноў, душу жывую, і птушкі хай паляцяць над зямлёю, па цвердзі нябеснай.

І стварыў Бог рыб вялікіх, і ўсякую душу жывёл-паўзуноў, што нарадзіла вада, па родзе іх, і ўсякую птушку крылатую па родзе яе. І ўбачыў Бог, што гэта добра.

І блаславіў іх Бог, кажучы: пладзіцеся і памнажайцеся, і напаўняйце воды ў морах, і птушкі хай памнажаюцца на зямлі.

І быў вечар, і была раніца: дзень пяты.

І сказаў Бог: няхай народзіць зямля душу жывую па родзе яе, скаціну, і га́даў, і звяроў зямных па родзе іх. І сталася так.

І стварыў Бог звяроў зямных па родзе іх, і скаціну па родзе яе, і ўсіх га́даў зямных па родзе іх. І ўбачыў Бог, што гэта добра».

Уся зямля, створаная Словам усёмагутнага Творцы, азораная ззяннем пяшчотнага сонца, дыхала спакоем і дзівосным хараством. Але гэта яшчэ не быў канец стварэння. Бог рашыў стварыць людзей, каб яны жылі ў гэтым цудоўным свеце і мелі даступнасць да свайго Творцы.

І сказаў Бог: створым чалавека на вобраз Наш, на падабенства Нашае, і няхай пануе ён над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябеснымі, і над скацінай, над усёю зямлёю, і над усімі га́дамі, што поўзаюць па зямлі.

І стварыў Бог чалавека на вобраз Свой, на вобраз Божы стварыў яго; мужчыну і жанчыну стварыў.

І блаславіў іх Бог, і сказаў ім Бог: пладзіцеся і памнажайцеся, і напаўняйце зямлю, і валодайце ёю, і пануйце над рыбамі марскімі, і над птушкамі нябеснымі, і над усякай жывёлай, што поўзае па зямлі. І сказаў Бог: вось, Я даў вам усякую траву, якая рассейвае насенне сваё і якая ёсць на ўсёй зямлі, і ўсякае вам дрэва, у якога плод дрэўны, што рассейвае насенне: вам гэта будзе на ежу; а ўсім звярам зямным, і ўсім птушкам нябесным, і ўсякаму паўзуну на зямлі, у якім душа жывая, зяленіва травяное на ежу. І сталася так.

І ўбачыў Бог усё, што Ён стварыў, і вось, вельмі добра. І быў вечар, і была раніца: дзень шосты.

Так створаны неба і зямля і ўсё іх воінства. І закончыў Бог да сёмага дня дзеі Свае, што Ён учыняў, і спачыў у сёмы дзень ад усіх спраў Сваіх, што Ён рабіў.

Імя мужчыны — Адам, імя жанчыны — Ева. Яны выйшлі з творчых рук Госпада прыгожымі і шчаслівымі. Яны вельмі любілі свайго Творцу, і Творца любіў іх.

Гасподзь аддаў ім усе стварэнні, каб яны пра іх клапаціліся. Ён блаславіў Адама і Еву і даручыў ім сад, каб яны яго абраблялі і захоўвалі.

Яны падтрымлівалі сувязь з Богам. Кожная сустрэча з ім прыносіла вялікую радасць.



1. Як, паводле Бібліі, быў створаны Сусвет?
2. Як з'явіліся на зямлі першыя людзі? Назавіце іх імёны.
3. Якія даручэнні атрымалі ад Бога першыя людзі?

### ПРЫТЧА[1] ПРА БЛУДНАГА СЫНА

Ісус расказаў народу прытчу: «У аднаго чалавека было два сыны; і сказаў малодшы бацьку: "Ойча! Дай мне з маёнтка тую частку, якая мне належыць". І бацька падзяліў паміж імі маёнтак.

Мінула нямнога дзён. Малодшы сын забраў усё, што належала яму, і пайшоў у далёкую краіну. І там усё распусціў, бо жыў надта ж распусна. Калі ён усё так растраціў, пачаўся ў той краіне вялікі голад, і ён сам пачаў галадаць. Тады ён пайшоў да жыхара той краіны і наняўся ў работ-

---

[1] *Пры́тча (пры́павесць)* — невялікі твор павучальнага характару, алегарычны па форме. Біблейскія прытчы праслаўляюць высокія маральныя якасці чалавека: сумленнасць, праведнасць, справядлівасць, спагаду абяздоленым, міласэрнасць да ворагаў, стрыманасць, стараннасць і інш.

нікі, а той паслаў яго на свае палі пасвіць свінні, і рады быў бы ён наесціся стручкоў, якімі карміліся свінні, але ніхто не даваў яму і стручкоў.

Неяк, адумаўшыся, сказаў сам сабе: колькі наймітаў у майго бацькі жыве і ўсе ў дастатку, а я паміраю тут з голаду! Збяруся і пайду да свайго бацькі і скажу яму: "Ойча! Я саграшыў перад небам і перад табою і ўжо нават не заслугоўваю называцца тваім сынам, залічы мяне да тваіх наймітаў".

Сабраўся і пайшоў да свайго бацькі.

І калі ён быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька, і пашкадаваў, і пабег яму насустрач, абняў за шыю і цалаваў яго. А сын сказаў бацьку: "Ойча! Я саграшыў перад небам і перад табою і ўжо не варты называцца сынам тваім". А бацька сказаў рабам сваім: "Прынясіце лепшае адзенне і апраніце яго, і дайце пярсцёнак на руку яго і абутак на ногі; і прывядзіце ўкормленае цяля і закаліце: будзем есці і весяліцца. Бо сын гэты мой быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся". І пачалі весяліцца.

Старэйшы ягоны сын быў у полі. А калі вярнуўся і прыблізіўся да дома, пачуў, як пяюць і весяляцца. Ён паклікаў аднаго слугу і спытаўся: "Што гэта такое?" Той адказаў яму: "Брат твой вярнуўся, і твой бацька зарэзаў укормленае цяля, бо прыняў яго здаровага". Выслухаўшы ўсё гэта, брат раззлаваўся і не хацеў уваходзіць у дом. Неўзабаве бацька, пачуўшы, што старэйшы сын вярнуўся з поля, выйшаў яму насустрач і паклікаў яго ў дом. Сын строга паглядзеў на бацьку і пачаў яго папракаць: "Вось я столькі гадоў служу табе і

ніколі не парушыў загаду твайго; але ты ніколі не даў мне нават казляняці, каб я з маімі сябрамі павесяліўся; а калі вось гэты сын твой, растраціўшы сваю долю, вярнуўся, ты закалоў дзеля яго ўкормленае цяля”.

Бацька так сказаў яму: “Сыне мой, ты заўсёды пры мне, і ўсё маё — тваё. А з таго радавацца і весяліцца нам трэба, што брат твой гэты быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся”».

Гэтай прытчай Ісус не раз даводзіў, што Нябесны Айцец радуецца і даруе грахі таму, хто прыходзіць да Яго, пакаяўшыся ад усяго сэрца.

?

1. Якая галоўная думка «Прытчы пра блуднага сына»?
2. Як вы разумееце словы бацькі, звернутыя да старэйшага сына: *брат твой гэты быў мёртвы і ажыў*?
3. Як вы разумееце сучаснае значэнне выразу *блудны сын*?
4. Чаму вучыць нас гэта прытча? Паспрабуйце пераказаць твор, захоўваючы пры гэтым адпаведную манеру аповеду.

## НОЙ БУДУЕ КАЎЧЭГ[1]. ПАТОП

Мінулі стагоддзі. А людзі — нашчадкі Адама і Евы — памнажаліся і рассяляліся па ўсёй зямлі. Спачатку яны паважалі і шанавалі Бога, а потым забылі і адышлі ад Яго. А было і такое, калі выступалі супраць Ягонай волі. Адзін Ной захаваў

[1] *Каўчэ́г* — тут: судна, карабель.

вернасць і адданасць свайму Творцу. Ён шчыра выконваў Яго волю. Апостал Пётр называе Ноя «праведнікам ісціны».

У сэрцы Ноя панаваў Божы Дух, і Ной моцна любіў Бога.

На зямлі было ўжо мноства людзей. Усе яны так разбэсціліся, што ў іхніх сэрцах панавала толькі зло. Навокал і па ўсёй зямлі была адна распуста. У той час Бог з вялікай крыўдай казаў: «Знішчу людзей на зямлі, людзей, што Я стварыў... Бо Я раскаяўся, што іх стварыў».

Праз усе часы Ной жыў у Гасподняй мілаце. І Бог сказаў: «Надышоў канец усякай плоці[1] перад вачыма Маімі, бо зямля напоўнілася іх злачынствамі. І вось Я знішчу іх на зямлі. Пабудуй сабе каўчэг з дрэва; адсекаў у ім нарабі і асмалі яго смалою ўсярэдзіне і звонку... І вось Я навяду на зямлю патоп водны, каб знішчыць усякую плоць пад нябёсамі, у якой жыве дух; усё, што ёсць на зямлі, пазбаўлю жыцця. Але з табою Я пастанаўлю запавет Мой, і ты ўвойдзеш у каўчэг, і сыны твае, і жонка твая, і жонкі сыноў тваіх з табою...»

Пачуўшы Божы загад, Ной пачаў будаваць карабель-каўчэг. Ён часта казаў людзям, якія яго акружалі, што скора наступіць патоп і знішчыць увесь свет, і заклікаў іх пакаяцца і звярнуцца да Бога. Але ніхто не хацеў яго слухаць.

Калі каўчэг быў пабудаваны, Гасподзь сказаў Ною: «Увайдзі ты і ўся сям’я твая ў каўчэг; бо цябе Я ўбачыў праведным перада Мною... і ўсякай скаціны вазьмі па сем мужчынскага роду і жано-

---

[1] *Плоць* — тут: чалавек.

чага, і з птушак нябесных вазьмі па сем мужчынскага роду і жаночага, каб захаваць племя для ўсёй зямлі».

Выконваючы патрабаванні Госпада, Ной са сваёй жонкай і яго сыны са сваімі жонкамі ўвайшлі ў каўчэг. Калі ж у яго ўвялі ўсіх жывёл, Гасподзь зачыніў за імі дзверы.

Як і было сказана, праз сем дзён пачаўся лівень і не адступаў сорак дзён і сорак начэй. Пад вадой аказаліся самыя высокія горы. А каўчэг, які стаяў на зямлі, падняўся над вадою і плаваў на яе паверхні. І ўсякае жыццё на зямлі было знішчана. Як сказана ў Пісанні: «Знішчана ўсякая істота, якая была на паверхні зямлі; ад чалавека да скаціны, і гадаў, і птушак нябесных, усё знішчылася з зямлі: застаўся толькі Ной і ўсё, што было з ім у каўчэгу».

Паводка працягвалася сто пяцьдзесят дзён. Вада пачала павольна сплываць, і ўзровень яе паніжацца. Ноеў каўчэг асеў на гары Арарат. Праз сорак дзён ад пачатку патопу Ной выпусціў гругана[1]. Птушка вылецела і вярнулася на каўчэг. Вада яшчэ стаяла, і сушы нідзе не было.

Потым Ной выпусціў голуба, але голуб, як і груган, вярнуўся на каўчэг. Праз сем дзён Ной зноў выпусціў голуба, і пад вечар голуб вярнуўся на каўчэг з аліўкавай лісцінкай у дзюбе — вада ўжо недзе сплыла, і зямля абсохла. Мінула яшчэ сем дзён, і Ной выпусціў голуба зноў, але гэты го-

---

[1] *Груга́н* — вялікая чорная птушка; крумкач.

луб на каўчэг ужо не вярнуўся. Тады Ной падняў века[1] каўчэга і ўбачыў, што вада сплыла і зямля абсохла. І тут Бог сказаў Ною: «Выйдзі з каўчэга ты, жонка твая, сыны і іх жонкі; выведзі з каўчэга ўсіх жывёл, якія з табою, і няхай разыдуцца яны па зямлі, няхай плодзяцца і памнажаюцца...»



1. Як паводзіў сябе Ной? Чаму апостал Пётр называў яго *праведнікам ісціны*?
2. Які лад жыцця вялі людзі, што акружалі Ноя? Якое пакаранне ад Бога яны атрымалі?
3. Што расказваецца ў біблейскай прыпавесці пра сусветны патоп?
4. Разгледзьце рэпрадукцыю абраза «Узнясенне». (Гл. уклейку.) Напісаў гэтую ікону мастак Сілініч у 1808 годзе. Звярніце ўвагу на сюжэт твора: на зялёнай Елеонскай гары стаяць два анёлы і паказваюць уверх на Хрыста, які ў славе ўзносіцца на нябёсы пасля распяцця на крыжы. Унізе — апосталы і Маці Божая поўняцца радасцю за Хрыста. Якое ўражанне зрабіў на вас гэты іканапісны твор?
5. Прачытайце вершы беларускіх паэтаў, дзе аўтары нагадваюць, што кожны павінен жыць па біблейскіх запаветах. Падумайце над зместам твораў, паразважайце над прызначэннем Бібліі, месцам чалавека на зямлі, над сваім месцам у свеце.

---

[1] *Ве́ка* — верхняя частка, якая служыць пакрыццём для якой-небудзь пасудзіны, скрынкі.

## Францыск СКАРЫНА

### БІБЛІЯ[1]

Гэтая кніга
дзецям і простым людзям —
навука,
а мудрацам і вучоным —
дык дзіваванне.
Яна, як рака цудадзейная,
адначасова
плыткая[2] —
можна па ёй і дзіцяці брысці —
і незвычайна глыбокая —
слон плысці мусіць.

У гэтай кнізе
пачатак і завяршэнне
усёй чалавечай мудрасці:
Бог-уладар
у ёй адкрываецца
для спазнання,
і ўсе законы,
якімі людзі
у жыцці кіравацца мусяць,
напісаны ў ёй,
і ўсе лекі,

---

[1] Славуты сын Бацькаўшчыны Францыск Скарына (1490—1552) аддаў свае веды і сілы найвялікшай справе свайго жыцця — перакладу Біблii на родную мову. Пазнаёмцеся з паэтычным узнаўленнем выказвання пра Біблію Францыска Скарыны, якое зрабіў Алесь Разанаў, сучасны беларускі паэт.

[2] *Плы́ткі* — тут: неглыбокі, прыдатны для *бро́ду* — ходу з аднаго берага на другі.

якія гояць душу
і ацаляюць цела,
у ёй сабраны...
Чытайма ж, браты, заўсёды
Святое Евангелле
і пераймайма,
чытаючы, справы
нашага Збаўцы Ісуса Хрыста!
І гэтак, з яго дапамогай,
увойдзем
у вечнажывое жыццё
і ў Нябеснае Царства,
што ўгатавана
абранцам Божым.

## Якуб КОЛАС

* * *

Не дай, Божа, сэрцам знікнуць
    І душой апасці,
Страціць веру і надзею
    На жыццё і шчасце:

Бо без веры і надзеі
    Ў свеце ўсё пастыла[1],
Бо, згубіўшы сэрца крэпасць,
    Чалавек — магіла.

## Максім ТАНК

* * *

Божа мой шчодрасці,
Не паскупіся на радасць:

---

[1] *Пасты́ла* — нецікава, непатрэбна.

Зімнім прасторам —
На інеі і снегапады,
Веснім палям —
На вясёлкавыя дажджапады,
Летнім садам —
На грымучыя яблыкапады,
Восеньскім дням —
На расквечаныя лістапады,
Зорным начам —
На раззораныя зарапады...
Не для сябе я прашу,
Зразумей, Ўсёмагутны,
А для Зямлі,
Што гарэла ў агні,
Шматпакутнай.

## БІБЛЕЙСКІЯ ВОБРАЗЫ Ў БАТЛЕЙЦЫ

У даўніну на святыя Каляды разам з калядоўшчыкамі і звездарамі па вёсках і мястэчках вандраваў незвычайны лялечны тэатр. На Украіне яго называлі вяртэп, у Польшчы — шопка, а ў нас на Беларусі — батлейка. Назва «батлейка» ўзнікла ад слова «Бэтлеем» — калісьці так называўся горад Віфлеем, дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос. Дзякуючы самаробным лялькам можна было ўбачыць Хрыстова нараджэнне, а таксама жорсткага цара Ірада, які хацеў забіць маленькага Сына Божага, за што і трапіў у пекла з кіпучай смалою.

«Батлейка-батлея — чароўная дзея», — казалі пра гэты лялечны тэатр людзі. Батлейкавы тэатр быў невялікі: драўляную скрынку, падобную на хатку ці царкву, вазілі на санях альбо насілі нават у руках. Батлейкі рабіліся аднапавярховыя, двух-

павярховыя, былі і трохпавярховыя. Адзін артыст граў на скрыпачцы, а другі адчыняў дзверы чароўнай скрынкі-хаткі і праз шчыліны, зробленыя ў яе падлозе на кожным паверсе, вадзіў на кіёчках лялек. Ён жа прамаўляў за герояў рознымі галасамі, сыпаў дасціпнымі прыказкамі, спяваў батлейкавыя песні:

А ў свеце нам навіна была,
Святы вечар!
Там Прачыстая
Сына радзіла,
Святы вечар!
У небе зорачкі засвяціліся,
Святы вечар!
Прыйшлі мудрацы,
пакланіліся,
Святы вечар!
Каб забіць дзіця,
Ірад сам пайшоў,
Святы вечар!
Ды да ясляў шлях
ніяк не знайшоў,
Святы вечар!
Узрасло Дзіця —
Гасподзь Хрыстос-Бог,
Святы вечар!
Праўды свет знайсці
Ён нам дапамог,
Святы вечар!

*Паводле*
*Уладзіміра Ягоўдзіка*

Батлейка нагадвае ўладкаванне Сусвету. Тут існуюць свае нябёсы і свая зямля. На нябёсах — у верхнім ярусе скрынкі батлейкі — паказвалася

сур’ёзная частка спектакля, звычайна на рэлігійную тэму. Камедыйная частка дэманстравалася на ніжнім ярусе, там інсцэніраваліся бытавыя жартаўлівыя сцэнкі з народнага жыцця: «Скамарох і мядзведзь», «Антон з казой і Антоніха», «Мацей і доктар», «Вольскі — купец польскі» і іншыя. Гэта частка спектакля была забаўляльнай, смешнай: гучалі анекдоты, жарты, урыўкі з казак і паданняў, грала музыка, спяваліся вясёлыя песні — панаваў карнавальны настрой, уласцівы Калядам. Кажуць, што «ў батлейцы ўсё ідзе па калейцы», гэта значыць па чарзе, па парадку — то драматычныя і нават трагічныя падзеі, то займальныя, вясёлыя. Біблейскіх персанажаў (Святую Марыю і Іосіфа, Святую Тройцу, Анёла, Мудрацоў, цара Ірада) змяняюць селянін з сялянкаю, пан з паненкаю, цыган з цыганкаю, чорт, жаўнер, доктар і карчмар.

Батлейка на Беларусі існавала з XVI стагоддзя, пэўны час была крыху забыта, але актыўна адраджаецца ў нашы дні. Многія самадзейныя калектывы маюць батлейкавы тэатр. Яго няцяжка зрабіць сваімі рукамі, асабліва ў школьнай майстэрні. І тады на гэтай сцэне можна паставіць і паказаць шмат цікавых спектакляў.

Батлейка існуе і ў Мінску, у філіяле Літаратурнага музея Максіма Багдановіча — «Беларускай хатцы», якую можна наведаць у зручны час. Пазнаёмцеся, калі будзе магчымасць, з п’есай «Цар Ірад», якая дэманструецца ў «Беларускай хатцы».

?

1. Як называўся ў даўнія часы вандроўны лялечны тэатр? Адкуль паходзіць яго назва?
2. Як была ўладкавана батлейка?
3. Якія персанажы дзейнічалі ў батлейцы?
4. Дзе можна пабачыць батлейку ў наш час?

## ЦАР ІРАД

Дзеянне пачынаецца ў верхнім ярусе. У люльцы ляжыць нованароджаны. Побач стаяць Марыя і Іосіф. Панамар (батлейшчык) запальвае свечкі. Гучыць псалом[1]. Уваходзяць а н ё л, п а с т у х з п а с т у ш к а й, т р ы ц а р ы (па чарзе). Яны падыходзяць да немаўляці і кланяюцца яму.

Х о р *(спявае)*

Неба і зямля, неба і зямля
Радасна спяваюць.
Ангелы свету, ангелы свету
Дзіва абвяшчаюць:
Хрыстос нарадзіўся, Бог аб'явіўся,
Ангелы спяваюць, пастушкі іграюць,
Дзіва, дзіва абвяшчаюць.
У Батлееме, у Батлееме
Весела навіна:
Чыстая Дзева, Чыстая Дзева
Нарадзіла Сына.
Хрыстос нарадзіўся, Бог аб'явіўся,
Ангелы спяваюць, пастушкі іграюць,
Дзіва, дзіва абвяшчаюць...

Дзеянне пераносіцца ў ніжні ярус. Там запальваюцца свечкі. На сцэне стаіць трон. Выходзіць ц а р І р а д.

І р а д

Я цар Ірад,
Я, я слаўны,
Сяду на свой трон дзяржаўны.
Я вялікі разумнік,
Бо ў царскім пурпуры.
Ніхто не пярэчыць
Маёй царскай натуры.

Садзіцца на трон. Выбягае Ч о р т.

---

[1] *Псало́м* — тут: песня рэлігійнага зместу.

Ч о р т

Хе-хе-хе,
Цару, мой цару,
Любы ўладару,
Ты тут спіш, гуляеш,
Пуза сабе наядаеш,
А што ў тваім царстве
Новы цар з'явіўся — не знаеш.

І р а д

Што, што я чую ў маім царстве,
Здрада сталася ў маім гаспадарстве.
А паклікаць да мяне ваяку,
Вернага мне служаку.

Уваходзіць Р а х і л ь з дзіцём на руках. За ёй — В о і н.

В о і н

Аць-два, аць-два, аць-два! Стой!
Цару, мой цару, любы гаспадару,
Па тваім загадзе з'явіўся.

І р а д

Чуў я, што ў маім царстве
Новы цар нарадзіўся.
Хуценька збірайся,
У Батлеем выпраўляйся.
Усіх немаўлят забівай,
Свайго цара-гаспадара выручай.

В о і н

Слухаю твайго загаду!
Зважай! Крокам руш!
Налева, кругом марш!
Аць-два, аць-два, аць-два!

Чуецца званочак.

А н ё л

О Ірадзе, Ірадзе,
Што ты нарабіў?
Сваю душу грэшную перад Богам загубіў.
Згінуў ты да звання,
Не будзе табе выратавання.

Ч о р т

Ты, Ірад, яго не слухай,
Вазьмі сабе патыліцу пачухай.
Лепш быць каранаваным,
Чым выратаваным.

І р а д

Твая праўда! Ану, пайшоў прэч адсюль,
Акыш!
Лепш быць каранаваным,
Чым выратаваным.

В о і н

Аць-два, аць-два, аць-два, стой!
Цару мой, цару, любы гаспадару,
У Батлеем я схадзіў,
Усіх немаўлят забіў.
Адно... Рахіль не дае свайго забіць,
Сама ідзе да цябе літасці прасіць.

І р а д

Хто такая?
А... паклікаць яе да мяне!

В о і н

Слухаю твайго загаду!
Зважай! Крокам руш!
Налева, кругом марш!
Аць-два, аць-два, аць-два!

Р а х і л ь

Цару мілы, цар літасцівы,
Не труці ты матчына сэрца,
Уратуй ты маё дзіцятка ад смерці.

І р а д

Гм... баба, я сам сабе разумнік,
Бо ў царскім пурпуры,
Не пярэч ты маёй царскай натуры,
Я ўсім немаўлятам пасцінаў[1] галовы,
І твайму не дам пардону.

Воін забівае дзіця і выносіць яго са сцэны.

А н ё л

Ірад ты нясыты,
Забойца самавіты[2],
За гэтае дзіцятка
Ды за ўсіх немаўляткаў
Будзеш ты ў агні гарэць
Ды ў смале кіпець.

Ч о р т

Ты, Ірад, на іх не зважай,
Пра ўладу лепш дбай.
Памятай, лепш быць каранаваным...

І р а д

Твая праўда, а ну-ка, пайшлі прэч
адсюль,
Паспяшайце, самі сябе суцяшайце.

Плача Рахіль.

---

[1] *Пасціна́ць (*ад *сціна́ць)* — ссячы.
[2] *Самаві́ты* — тут: заможны, багаты.

А н ё л

Не плач, не плач, Рахіль,
Тваё дзіцятка не ўмерла.
Яно ў Боскім садзе кветачкі збірае
Ды з анёламі гуляе.

І р а д

Што я чую, не гуляе і не збірае,
Бо мой ваяка справу знае.
Ваяка, ваяка, хадзі да мяне!

В о і н

Аць-два, аць-два, аць-два, стой!
Па тваім загадзе з'явіўся!

І р а д

За добрую службу, за шчырую дружбу
На табе трошкі грошай.
Сходзі, пагуляй з раскошы,
Выпі чарку, дай каму па карку.

В о і н

Рады старацца.
Зважай! Крокам руш!
Налева, кругом марш!
Аць-два, аць-два, аць-два!

Раздаецца стук.

С м е р ц ь

Здарова, Ірад!

І р а д

А... вой...
Ваяка, мой ваяка, верны мой служака!
Ратуй! Гані ад мяне гэтую пачварыну.

С м е р ц ь

Твой ваяка-небарака
Зайшоў да кабака,
Выпіў чарку, атрымаў па карку
Ды і ляжыць.
А я, смерць-касціста,
Маю касу сталісту, во, панюхай!
Прыйшла цябе, гада, у пекла справадзіць.

І р а д

А... вой... смерць-матухна,
Пачакай трошкі,
Не трымай на мяне злосці,
Дам я пурпуры на твае старэчыя косці.

С м е р ц ь

Ірад, твая хаўтурная песня спета,
Згінеш ты зараз з гэтага свету.
Як ты немаўлятам, так і я табе
Касой галаву сагну...
А ну-ка, кладзіся... Жых...

Ч о р т:

Ха-ха-ха, ха-ха-ха-ха...
Цар-небарака,
Любы мой дружака,
Ну што — мне быць каранаваным
Ці выратаваным.
Ат... нічога, хадзем са мной у пекла,
Будзем там у карты гуляць
Ды старых баб забаўляць.
Згінуў ты да звання,
Не будзе табе выратавання.

В о і н

О, трошкі пагуляў
І свайго гаспадара праспяваў.
Толькі не разабраў,
Ці то ён цара, ці Ірад яго ў пекла
павалок.
А... нічога.
Пазбыў пана, буду піць віно збанам,
Піць, гуляць, Каляды ўспамінаць.

*(Спявае)*
Ой калядачкі, бліны-ладачкі,
Ой люлі-люлі, бліны-ладачкі,
Ой люлі-люлі, бліны-ладачкі!

?

**1.** П'еса пачынаецца харавымі спевамі. Пра якую падзею абвяшчае хор? Каго праслаўляе? Якую ролю адыгрывае ў батлейцы песенны зачын?
**2.** Якім паказаны ў п'есе цар Ірад? Як ён сам пра сябе гаворыць? Што ў яго абліччы і ў яго рэпліках выклікае смех, што — абурае?
**3.** Якім пададзены ў творы Чорт? Пра што ён размаўляе з царом, да чаго падштурхоўвае? Чым адрозніваецца мова Чорта ад мовы іншых персанажаў п'есы?
**4.** Якое ўражанне зрабіў на вас Воін? Ахарактарызуйце гэты вобраз.
**5.** Хто з персанажаў выклікае ў вас сімпатыю? Што прываблівае вас у гэтых вобразах?
**6.** Прыгадайце фінал гэтай п'есы. Як пакарана зло?



# КАЛЯНДАР РОДНАЙ ПРЫРОДЫ

**Змітрок БЯДУЛЯ**

## ЗЯМЛЯ

Зямля...

Вялікі, бязмерны абшар зямлі адкрываецца воку майму.

Я падымаюся вышэй і вышэй на нейкіх крылах, з дзівам разглядаю велізарнае ўладарства зямлі...

Як у казцы, нясуцца перада мной шыры гэтай зямлі...

Як у казцы, нясуцца перада мной поры года: святая зялёная вясна, гарачае залатое лета, сытная багатая восень, бліскучая здаровая зіма...

І мяняюцца фарбы, і мяняюцца віды...

Усё жыве, усё рухаецца... шуміць...

Зямля! Маці наша! Чуецца заўсёды і ўсюды тваё цёплае, жыватворнае дыханне, каторае мёдам па жылах разліваецца...

Усе мы дзеці твае: і расліна, і жывёла, і чалавек...

Усіх ты нас родзіш, усе мы жывём на табе, усіх ты нас ізноў прымаеш...

І хто каранямі сваімі глыбей у зямлю стараецца ўлезці, у таго галава чуць не да самага сонейка даходзіць, у таго шчасце ракой-морам расшыраецца...

?
1. З якім пачуццём аўтар апісвае зямлю?
2. Чаму зямля — гэта *маці наша*? Як чалавек звязаны з роднай зямлёй?
3. Якімі эпітэтамі пісьменнік характарызуе поры года?
4. Уважліва прачытайце апошні абзац (са слоў: *І хто каранямі сваімі*...). Растлумачце сэнс гэтага вобраза.
5. Падбярыце ў якасці ілюстрацыі да твора Змітрака Бядулі рэпрадукцыю карціны беларускага мастака ці фотаздымак (выкарыстайце альбом палотнаў жывапісу «Мая зямля» або фотаальбомы Георгія Ліхтаровіча «Добры дзень, Беларусь», Сяргея Плыткевіча «Мая Беларусь» і «Беларуская экзотыка», Вадзіма Грудзько «Край Беларусь» ці іншыя кнігі). Абгрунтуйце свой выбар.
6. Падрыхтуйце вусную замалёўку «Мая зямля» («Мой край», «Мая радзіма»).

## Паўлюк ТРУС

### ПАДАЮЦЬ СНЯЖЫНКІ...

*(Урывак з паэмы «Дзясяты падмурак»)*

Падаюць сняжынкі —
　　дыяменты[1]-росы,
Падаюць бялюткі
　　за маім акном...

[1] *Дыяме́нт* — алмаз, брыльянт.

Расчасалі вішні
    шоўкавыя косы
І ўранілі долу
    снегавы вянок.

Дзесьці у прасторах
    празвінелі бомы.
Дацвілі пялёсткі
    нечае тугі...

І здаецца, зноўку
    еду я дадому
Пераведаць родных,
    блізкіх, дарагіх.

Адхінае вечар
    тонкія мярэжы[1],
На акне альвасы[2]
    дагарэлі ў сне.

А ў душы квяцістасць
    і такая свежасць,
І з вачэй усмешкі
    сыплюцца на снег.

?

**1.** Праз якія вобразы паэт перадае хараство зімовага краявіду?

**2.** У якім душэўным стане знаходзіцца аўтар? Якія пачуцці поўняць яго сэрца?

**3.** Што вы адчулі ў гучанні гэтых вершаваных радкоў?

---

[1] *Мярэ́жа* — сетка.

[2] *Альва́с (алья́с, ало́э)* — трапічная расліна, якую вырошчваюць у пакоях, аранжарэях і цяпліцах. Альяс цвіце вельмі рэдка, таму яго часам называюць сталетнікам.

4. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Мацвея Беляніцкага «Мосцік». (Гл. уклейку.) Якім настроем прасякнуты гэты твор? Звярніце ўвагу на фарбы, дэталі, кампазіцыю карціны. Чым адметнае ўспрыманне зімовай прыроды мастаком? Ці сугучная гэта карціна вершу Паўлюка Труса? Што яднае гэтыя творы?
5. Вывучыце ўрывак з паэмы на памяць.

## ПРА МЕТАФАРУ

Слова ў мастацкім творы не толькі расказвае, але і паказвае, малюе карціны жыцця, выяўляе пачуцці герояў, перадае іх настрой. Нават у будзённым жыцці мы з вамі гаворым: *жыццё ідзе, гады бягуць, рабіна гарыць, вецер вые, дрэвы стогнуць*. Мы ў гэтым выпадку проста пераносім якасці, прыкметы, дзеянні з адной з'явы на другую, падобную да яе. Гэта метафары. Яны вельмі блізкія да параўнанняў. Прыгадаем радкі Якуба Коласа: *А дзень гарыць, а дзень палае*. Нам зразумела, што паэт параўноўвае гарачы сонечны дзень з яркім вогнішчам. Ці, напрыклад: *У небе ціха зоркі расцвілі* (Максім Багдановіч). Мы адразу спрабуем уявіць зоркі, якія на вачах расцвітаюць, як прыгожыя кветкі. Прыгадаем, як перадае чароўнасць, непаўторнасць жаўруковай песні Якуб Колас: *Снуючыся высока ў небе, раняла птушка мяккія, ласкавыя мелодыі, сатканыя са звону срэбных струн, з булькання лясных ручайкоў, з зумкання пчаліных крыльцаў, шолаху красак*. Мелодыя, нібы тонкая, празрыстая і бліскучая тканіна, саткана з надзвычай далікатных і казачна прыгожых ніцей.

У параўнанні заўсёды відаць, што з чым супастаўляецца. А ў метафары параўнанне нібы схавана, стоена, пра яго мы толькі здагадваемся. Метафара выглядае як скарочанае параўнанне: *гады плывуць* (як вада ў рацэ).

***Метафара*** — перанясенне ўласцівасцей адной з'явы на другую, чым-небудзь падобную на яе.

Метафара — адзін з самых распаўсюджаных тропаў (троп — ужыванне слова ў пераносным значэнні). Яна вельмі лаканічная (кароткая, сціслая) па форме і разам з тым вельмі ёмістая, багатая па сэнсе. Літаральна двума-трыма словамі метафара стварае яркі мастацкі вобраз *(І з вачэй усмешкі сыплюцца на снег)*, які адразу знікне, калі паспрабаваць перавесці паэтычны выраз на звычайную мову.

Метафара быццам своеасаблівая загадка ў мастацкім творы. І трэба разгадаць гэту загадку, каб лепш зразумець твор.

?

1. Што такое метафара?
2. Чым метафара адрозніваецца ад параўнання?
3. Адшукайце метафары ў творы Паўлюка Труса «Падаюць сняжынкі...» і растлумачце іх мастацкую ролю.
4. Якія яшчэ тропы вы ведаеце? Прывядзіце прыклады з мастацкіх тэкстаў.

**Данута БІЧЭЛЬ**

**БЯРОЗА**

Снежная пустэча.
Бель у вочы коле...
І адна бяроза —
Вартаўніца поля.

Легкадумны вецер
Між галін смяецца,
Хоча запалоніць
Белакосай сэрца.

Хоць бярозу вабіць
Ў даль начная зорка, —
Стыне, не пакіне
Роднага пагорка.

?

1. Якім убачыўся паэтэсе вобраз бярозкі пасярод белай зімняй пустэчы? Ці не падаўся вам малюнак, створаны ў вершы, даволі знаёмым? Паразважайце пра гэта.
2. Прыгадайце паэтычныя вобразы верша, у якіх прырода прыпадабняецца чалавеку.
3. Што нам гаворыць пра бярозку выраз: *Стыне, не пакіне // Роднага пагорка*?
4. Прачытайце яшчэ раз верш Дануты Бічэль «Бяроза». Затым паслухайце песню Ігара Лучанка на верш Анатоля Вялюгіна «Бярозка». Чым падобныя і чым адрозныя вобразы дрэў у гэтых творах?

## Рыгор БАРАДУЛІН

### УЦЯКАЛА ЗІМА АД ВЯСНЫ

Уцякала зіма ад вясны
Па кустах вербалозаў рагатых, —
Ёй каптан абарвалі яны,
І на голлі матляецца вата.

Уцякала зіма ад вясны,
Уцякала па рэках, азёрах,
Лёд затрэскаў, закрэктаў, заныў,

Здрадзіў лёд —
                        і вада на прасторы.

Толькі звон крыгалому ачах —
Брод шукаюць бярозы-бяглянкі
І трымаюць на ніцых[1] плячах,
Як дзяцей палахлівых,
                        буслянкі.

А вясна даганяла зіму;
Заяц скочыў у лужу блакіту,
Бо на хвост наступіла яму,
І пралескі распырскаў, раскідаў.

І ўцякала зіма ад вясны,
Пад нагамі ламачча затлела,
Парастрэсла па сцежках лясных
Снег апошні свой
                        з ландышаў белых.
Уцякала зіма ад вясны —
Уцякала.

?

1. Ці згодныя вы з тым, што верш «Уцякала зіма ад вясны» нагадвае казачную гісторыю? Калі так, то што казачнае ў гэтым творы?
2. Вызначце, які мастацкі прыём выкарыстаў паэт пры абмалёўцы зімы і вясны.
3. Каго, на ваш погляд, нагадвае лёд, які *затрэскаў, закрэктаў, заныў*?
4. Выпішыце самыя яркія вобразы, якія вам спадабаліся. Чаму без іх верш страціў бы сваю прывабнасць і хараство?

[1] *Ні́цы* — які мае доўгія звісаючыя галіны (пра дрэвы і кусты).

5. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Мікалая Ліханенкі «Сакавік». (Гл. уклейку.) Што, на вашу думку, агульнае ва ўспрыманні ранняй вясны паэтам Рыгорам Барадуліным і мастаком?
6. Напішыце невялікую празаічную або вершаваную замалёўку на адну з тэм: «Крыгаход на рацэ», «У чаканні буслоў», «Праводзіны зімы». Можна паспрабаваць распавесці ў форме казкі пра надыход вясны.

## ПРА ЎВАСАБЛЕННЕ

Вы ўжо ведаеце, што мастакі слова — пісьменнікі, — каб стварыць яркія, жывыя, запамінальныя карціны жыцця і адначасова выказаць свае погляды, паказаць сваё бачанне прадмета ці з'явы, карыстаюцца рознымі мастацкімі прыёмамі. Шмат разоў вы заўважалі, што нежывому прадмету ці з'яве (дрэву, воблаку, сонцу, дажджу і інш.) для большай выразнасці, нагляднасці надаюцца якасці і ўласцівасці чалавека. Прыгадайце, напрыклад, народныя песні, у іх прадметы і з'явы прыроды выступаюць як жывыя істоты, надзеленыя розумам, мовай, уменнем рухацца, выконваць пэўную работу, адчуваць роспач, боль, смутак, захапленне, радасць:

*Хвалілася* калiначка за ракой:
— Ніхто мяне не высеча за вадой.
*Абазваўся* буйны ветрык на яе:
— Ды я ж цябе хоць не высеку, дык зламлю.

Да прыёму ўвасаблення, калі прадметам і з'явам прыроды надаюцца ўласцівасці жывых істот, часта звяртаюцца паэты. Рыгор Барадулін у вер-

шы «Уцякала зіма ад вясны» намаляваў запамінальную, зрокава выразную карціну, поўную рухаў, фарбаў, пачуццяў, эмоцый. У вершы ўсё жывое, рухавае, імклівае — і *зіма*, што ***ўцякала па кустах вербалозаў рагатых***, і *вясна*, што яе ***даганяла***, і *кусты*, што, дапамагаючы вясне, ***каптан абарвалі*** зіме. І сапраўды, трэба быць надзвычай уражлівым чалавекам, з багатай фантазіяй і паэтычным светаўспрыманнем, каб «ажывіць» вобразы, убачыць у іх незвычайнае, дзівоснае:

Толькі звон крыгалому ачах —
Брод *шукаюць* бярозы-бяглянкі
І *трымаюць* на ніцых плячах,
Як дзяцей палахлівых, буслянкі...

Пагадзіцеся, што паэт дапамог нам убачыць у звычайным жыцці нешта цудоўнае, рамантычнае, незвычайнае і вельмі выразнае, паэтычнае. Гэты вобраз не пакіне нас абыякавымі, ён запомніцца надоўга, бо ўразіў нас, здзівіў сваёй нечаканасцю, арыгінальнасцю, прымусіў паглядзець па-новаму і на бярозкі, і на азёрны лёд, што *затрэскаў, закрэктаў, заныў*, — адным словам, *здрадзіў* зіме.

***Увасабленне*** — мастацкі прыём, калі нежывым, неадушаўлёным прадметам і з'явам надаюцца ўласцівасці чалавека або жывых істот.

Увасабленне — разнавіднасць метафары. Увасабленні сустракаюцца вельмі часта. Прыгадайце ўжо знаёмыя вам радкі Якуба Коласа, дзе гаворыцца пра люты мароз:

...*Ідзе* сярдзіта, *пагражае*,
Па даху гонтамі *страляе*;
У завітушках дым бялявы
*Нясе*, як воблак кучаравы,

А потым з ім набок *рванецца*,
Бы пісар-вухар расчаркнецца.
А як ваКенцы *размалюе*
І розных дзіваў там *намосціць*, —
Яму аматар пазайздросціць.

Увасабленні дапамагаюць аўтарам паўней раскрыць свае пачуцці, сваё паэтычнае бачанне прыроды і стварыць непаўторныя мастацкія вобразы, а чытачам выразней уяўляць карціны навакольнага свету, лепш спасцігаць задуму паэта, бачыць у звычайнай, будзённай з'яве высокую паэзію.

## Янка БРЫЛЬ

* * *

Над зямлёй — красавіцкае неба: ахапкі белых воблакаў, халаднаватая просінь і жаўранкі.

Зямля то светла-шэрая, дзе не хадзіў яшчэ сёлета плуг, то сакавіта-цёмная — і там, дзе ўлонне яе толькі што раскрытае для новых зярнят, і там, дзе ўжо затоена грэецца безліч аўсяных парасткаў.

Сёння ўранку ўжо значна смялей, як учора, ажывае зеляніна руні. Лагодныя шэрыя ўзгоркі ўдалечыні пацягнуты смугой. Паміж вёскамі, на лугавой даліне, цячэ апетая ў сардэчнай песні рэчанька...

На шэрых коціках вербаў гаспадарліва завіхаюцца пчолы. На бярозах над стрэхамі хат ад радасці разводзяць крыламі шпакі.

За ўзгоркам з ночы грукоча трактар. Араты.

Іду на гэты гул. Па чыстай, маладзенькай пасля снегу сцежцы.



1. Выразна прачытайце тэкст. Пастарайцеся перадаць аўтарскія пачуцці, якімі напоўнены метафары і эпітэты.
2. Прывядзіце выразы, якія сведчаць пра вобразнае і маляўнічае апісанне пісьменнікам вясновай прыроды.
3. Якую народную песню мае на ўвазе аўтар твора? Прыгадайце радкі з гэтай песні. Ці згодныя вы, што рака надае своеасаблівую адметнасць беларускаму краявіду? Выкажыце свае меркаванні.
4. Разгледзьце на форзацы падручніка рэпрадукцыю карціны Фердынанда Рушчыца «Вясна». Якой паўстае вясновая прырода на мастацкім палатне? Параўнайце вобразы вясны, створаныя мастаком і пісьменнікам.

## Анатоль ВЯЛЮГІН

### СПЕЛЫ БОР

З усіх сабораў ёсць сабор[1],
дзе згодзен я маліцца:
у спелым леце, спелы бор,
звіняць твае званіцы.

У душным водары палян,
дзе маладосць хадзіла,
багун, дурнічнік, дурнап’ян —
раздзьмулі ўсе кадзіла[2].

---

[1] *Сабо́р* — галоўны храм, вялікая царква.

[2] *Раздзьму́ць кадзі́ла* — тут: напоўніць паветра прыемным водарам.

Стаяць палкі баравікоў;
дрыжыць басок чмяліны.
Глыбокі мох, на лісцях кроў
мядзведжае маліны.

Падсочак[1] стрэлы на ствалах,
нібы крыжы пакуты.
Спяшаецца барсук-манах
у цёмны свой закутак...

На кожным кроку навіна,
і душна ад чабору,
а песню кожная сасна
свайму спявае бору.



1. Прырода, як вядома, наш дом. Як адчувае сябе аўтар на лясным улонні?
2. Чаму, на вашу думку, паэт успрымае *спелы бор* як *сабор*?
3. Адшукайце ў творы метафары і растлумачце іх сэнс. Якая з метафар вам найбольш спадабалася і чаму?
4. Верш заканчваецца радкамі: *а песню кожная сасна // свайму спявае бору*. Як вы разумееце сэнс гэтых слоў?
5. Прачытайце верш выразна і натхнёна, перадаючы ўзнёслае і ўрачыстае гучанне яго радкоў. Ці можам мы назваць гэты твор гімнам роднай прыродзе?
6. Ці былі вы ў бярозавым гаі або дуброве? Раскажыце пра свае ўражанні.
7. Вывучыце на памяць верш «Уцякала зіма ад вясны» Рыгора Барадуліна або «Спелы бор» Анатоля Вялюгіна.

---

[1] *Падсо́чка* — надразанне дрэў для атрымання жывіцы (смалы), соку.

## Іван МЕЛЕЖ

### ПЕРШЫ ІНЕЙ

*(Урывак з рамана «Подых навальніцы»)*

Былі пагодныя дні. З сонцам ад ранку да вечара, з сінім небам. Днём яшчэ было цёпла, а пад вечар, калі чырвонае сонца сцякала за лес, апусцелая, няласкавая зямля стыла на холадзе. Пад поўнач бяліў яе іней, у ледзяныя звонкія раніцы і трава каля платоў і на выганах, і палі з загонамі яшчэ не скопанай бульбы, і панурыя, учарнелыя стрэхі — усё было па-зімоваму белае. Калі ўздымалася над чэзлым[1] балотным алешнікам сонца, светлае, прамяністае, ад інею аставаліся толькі цемнаватыя плямы вільгаці. Неўзабаве знікалі і яны. Іней трымаўся яшчэ ў цені дрэваў і хат, трымаўся ўпарта, пакуль сонечная цеплыня не дабіралася і сюды.

Неба гэтымі днямі сінела чыстае і глыбокае. Яно не было цяпер такое яркае, як раней, часта атульвала яго белаватая, нібы малочная, смуга, і яно здавалася бляклым, быццам выгаралым за ліпеньскую і жнівеньскую спёку. Сонца таксама было іншае. Аддаўшы амаль увесь свой пал лету, яно берагло рэшткі цяпла, грэла мала, але на дзіва лагодна і пяшчотна. Гэтай лагоднасцю і пяшчотай было напоўнена ўсё ў прыродзе, усе дні.

У лагодным сонечным святле гарэлі сумным адвечным полымем ліпы і бярозы каля хат, дрэвы ў недалёкім лесе. Як сівізна ад былога, ад перажытага, бялела ўсюды павуціна. Яна вісела ў па-

---

[1] *Чэ́злы* — які слаба расце, хілы (пра расліны).

ветры, абчэплівала павялы і пасохлы бульбоўнік, калы і жэрдкі вакол агародаў, пажоўклыя кусты. Усё агартаў спакойны, стары, як свет, смутак развітання з цяплом, з летам, набліжэння слаты[1], халадоў.



1. Якой намаляваў восень пісьменнік? Што вы адчулі, чытаючы тэкст?
2. Паразважайце, чаму аўтара гэтай пейзажнай замалёўкі мы можам назваць мастаком слова.
3. Як вы думаеце, якімі здольнасцямі і якасцямі павінен валодаць пісьменнік, каб так тонка адчуваць і маляваць прыроду?
4. Выпішыце з тэксту эпітэты, якія абазначаюць колер. Назавіце маляўнічыя метафары. Якое ўражанне на вас зрабілі вобразы, створаныя пры дапамозе гэтых мастацкіх тропаў?
5. Як вы лічыце, якія з наступных слоў з'яўляюцца блізкімі па значэнні да слова *іней*: *шэрань, смуга, намаразь, туман, слота, мароз, імжа*?
6. Вывучыце на памяць урывак з гэтага празаічнага тэксту (некалькі сказаў), які вам найбольш спадабаўся.

**Аляксей КОРШАК**

## КЛЯНОВЫ ЛІСТ

Паслана золата кляновае ўдалі…
І вось апошні ліст плыве агнёвы,
І лёг ля ног маіх на стомленай зямлі
Асенні ліст, апошні ліст кляновы.

---

[1] *Слата́ (сло́та)* — вадкая гразь на зямлі, на дарогах.

Кляновы ліст, апошні гэты ліст
Я на далоні ўзяў, сухі, памяты.
Няхай жа вар'яцее ветру свіст,
Я прынясу яго сабе дахаты.

Я песню напішу пра гэты ліст.
Аб ім у сэрцы след нічым не сцерці.
Жыві ж, асенні ліст, кляновы ліст,
Жыві ж у песні, ў памяці, у сэрцы.

Вясна прамые неба сінявой,
І кожны расцвіце вакол закутак,
Тады з галінкі памяці маёй
Ты ападзеш, як нейкі ціхі смутак.

І ў сэрцы ты завянеш назаўжды,
Адзенецца жыццё зялёным лістам,
І толькі ў песні гэтай будзеш ты
Звінець заўсёды звонам залацістым.

?

1. Як вы лічыце, які настрой выяўлены ў гэтым вершы: лёгкі смутак, шкадаванне, ціхі роздум ці які-небудзь іншы?
2. Ці адчулі вы, як гучаць радкі гэтага верша? Падзяліцеся сваімі ўражаннямі.
3. Прачытайце верш яшчэ раз выразна ўголас. Як вы думаеце, ці можна пакласці гэты твор на музыку? Якая мелодыя адпавядае гэтаму твору?
4. Якую карціну вы ўяўляеце, чытаючы словы: *Паслана золата кляновае ўдалі*?
5. Верш насычаны метафарамі. Знайдзіце іх і пакажыце іх ролю ў стварэнні паэтычнага малюнка.

6. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны Эдуарда Рымаровіча «Золата восені». (Гл. уклейку.) Якой бачыць восень мастак, а якой — паэт Аляксей Коршак?
7. Напішыце невялікае сачыненне на тэму «Колеры восені». Адшукайце патрэбныя словы, каб перадаць свой настрой і адчуванні, свае ўражанні.

## Аляксей ПЫСІН

* * *

Не адчувае лес зямлі —
Зімою лес бліжэй да неба.
Спяваюць белыя чмялі
Аб тым, што кветак ім не трэба.

З вятрамі, з хмарай снегавой
Сасна птушыная ў палёце.
Спяць кажаны ўніз галавой
Насуперак зямной прыродзе.

Зямля замерзлая — як дом,
Хавае ўсё, чым жыць павінны.
І свеціць блізкім аганьком
Пад лёдам ягадка каліны.

?

1. Калі б вы складалі зборнік вершаў пра родную прыроду, то, напэўна, уключылі б у яго гэты твор Аляксея Пысіна. Калі так, то абгрунтуйце свой выбар.
2. Якія яркія вобразы ці дэталі паэтычнага пейзажу вас уразілі?
3. Падбярыце ілюстрацыю да верша (можна выкарыстаць фотаальбомы Вячаслава Алешкі

«Спатканне з лесам», Віталя Бараноўскага «Белавежская пушча», Анатоля Клешчука «Пад небам Беларусі», Валянціна Ждановіча «Бераг белых буслоў» ці якое-небудзь іншае выданне).

4. Правядзіце, калі ёсць магчымасць, экскурсію на прыроднае ўлонне — у лес, парк ці сквер. Падрыхтуйце і прачытайце на памяць вершы беларускіх паэтаў пра прыроду. Калі такой магчымасці няма, то наладзьце ў класе свята паэзіі і роднай прыроды «Мой чароўны беларускі край». Падрыхтуйце да свята выстаўку малюнкаў і фотаздымкаў. Паспрабуйце свае творчыя сілы ў напісанні замалёўкі, верша, невялікага апавядання.

## Іван ГРАМОВІЧ

### ВОБЛАКІ

Калі што ёсць найпрыгажэйшае ў свеце, то, бадай, гэта воблакі...

О, як яны збіраюцца! Як плывуць і растаюць у сіняве! Не наглядзецца, не налюбавацца!

...Вось мая чарада авечак збілася ў гурт. Полудзень. Спёка.

Ляжыш на пагорку. Глядзіш у неба. Над табою — позіркам не абняць — блакітная шырыня. Ты адзін перад усёй гэтай бязмежнай, нямой глыбінёй, з вока на вока, толькі, здаецца, матухназямля злёгку трымае цябе за плечы. Ледзь-ледзь. Здаецца, адарвешся і паляціш у гэта блакітнае бяздонне...

Аж страшна.

Страшна, а хочацца паляцець, паплысці. Хораша!

Воблакі нібы табун на сінім полі. Адкуль яны? Куды нясуцца?

Не, яны не застылі. Яны плывуць.

Клубкамі растуць. Вырастаюць. Гэта, што было наперадзе, застаецца ззаду. Яго абганяе сярэдняе... Нібы рукой, абняло сяброўку. А сяброўка робіцца меншай, радзейшай. Ды яна ж нікне, растае! А побач белым круглым купалам шуганула, узнялася суседка-хмара...

Як цудоўна!

Не наглядзецца на воблакі ў бязветраны дзень. Яны могуць расці, вырастаць, могуць знікаць, як дым. Могуць клубіцца на адным месцы і разрастацца ўшыркі. І зрабіцца велічэзнай цяжкай хмарай. (Тады дзед кажа — збіраецца на дождж.) Гэта хмара насупліваецца, як бы згушчаецца, чарнее, і раптам грымне гром, і з яе ўмомант пасыплецца дождж. Буйныя серабрыстыя кроплі яго будуць сыпацца на зямлю, а непадалёку — глянеш — асветлены сонцам, стаіць зялёна-залаты лес. Дрэвы цешацца, пазіраючы ўгору. Ім свеціць сонца.

У ветраны дзень часцей бываюць нізкія воблакі. Яны імчацца па небе на адной вышыні, як ганцы. Шпарка, без аглядкі, гуртам. Сонца між іх то выгляне, то схаваецца.

На балоце між густых алешын пасуцца авечкі. Тут зацішак... А зірнеш угору, вышэй верхавіння дрэў, туды, дзе бягуць шпаркія воблакі, бягуць здалёк ці зблізку, і падумаеш: гэта жыццё імкліва бяжыць. Якое яно імклівае!.. Дзесьці стаяць людныя гарады. Людзі там спяшаюцца, мусіць, як і

гэтыя воблакі... Тут не адчуваеш тых нястрымных плыняў. Наляціць віхор, кране вяршаліну алешыны. Яна зашапаціць і супакоіцца.

Толькі воблакі могуць расказаць пра нястрымны рух жыцця.

Іх трэба навучыцца чытаць і разумець. Воблакі бываюць высокія і нізкія. У два паверхі і нават у тры. Ёсць рэдкія і суцэльныя. Ёсць воблачкі. Ёсць хмаркі. Ёсць похмаркі.

Адны прыносяць яснасць, пагоду, другія — непагадзь і навальніцу.

Воблакі ўпрыгожваюць неба, апранаюць яго. То, бывае, усё яго паб'е на груды. То воблачная града шлейфам-шалікам працягнецца ад небасхілу да небасхілу. То коўдрай зацягне ў адным баку. То серабрыстымі фіранкамі перыстыя хмаркі доўга вісяць на вялікай вышыні...

Я яшчэ ніколі не бачыў гор. Дзе ім быць у нас на Міншчыне! А воблакі ў маім уяўленні малявалі стромкія кручы. З воблакаў вырасталі высачэзныя хрыбты і непраходныя цясніны. Зіхацелі белаcнежныя шапкі вяршынь, і цямнелі пячоры з вечным змрокам. А калі сонца хавалася за лес, статак ішоў у сяло, — на супрацьлеглым ад захаду небасхіле віднеўся цэлы ланцуг гор. Сапраўдныя хрыбты і недасягальныя пікі горных вяршынь. Так перада мной паўставалі яшчэ ніколі не бачаныя Казбек, Эльбрус, Эверэст...

Я ніколі яшчэ не бываў у заапарку або звярынцы, але слана ўпершыню чамусьці ўгледзеў у хмарах. Плыла такая вялікая шэрая хмара з галавой, з хобатам. І вочы мела. І ногі... Дзе мне бываць было ў казачнай краіне, там, дзе цёплыя воды, там, дзе растуць райскія дрэвы! Але пейзажы

Мінулі гады. Падрасла Прадслава, пасталела. Яе бацька Святаслаў, родны брат полацкага князя Барыса, надумаў аддаць дачку замуж. Але яна вырашыла інакш: сышла да цёткі ў манастыр, каб прысвяціць сваё жыццё бедным і гаротным людзям. Маладой манашцы надалі новае імя — Еўфрасіння.

Спачатку Еўфрасіння жыла ў Сафійскім саборы, чытала і перапісвала кніжкі, якія па яе просьбе прадавалі, а грошы раздавалі бедным. У тыя далёкія часы школ яшчэ не было, як не было і падручнікаў. Дзяцей вучылі або бацькі, або ў манастырах і цэрквах. І вось полацкі князь, баяры сабралі грошы, запрасілі лепшых муляраў[1] і цесляў[2], каб пабудаваць непадалёку ад горада новы манастыр. Назвалі яго Спаскі, а настаяцельніцай манастыра — ігуменняй — стала Еўфрасіння.

Завіравала будоўля пад Полацкам. Высякалі лес пад рыштаванні[3] будучага храма, замешвалі гліну для пляскатай цэглы, якую называлі плінфаю, а мастакі-багамазы пісалі для храма абразы. Неўзабаве за манастырскай агароджаю ўзняўся цэлы гарадок з цэрквамі, хатамі, каплічкамі і студнямі. Пацягнуліся ў новы манастыр і людзі. Многія палачане імкнуліся аддаць сюды сваіх дачок, бо Еўфрасіння вучыла дзяўчынак не толькі чы-

---

[1] *Му́ляр* — рабочы-будаўнік, які працуе з каменем або цэглай.

[2] *Це́сля (цясля́р)* — рабочы, які займаецца грубай апрацоўкай драўніны.

[3] *Рыштава́нне* — часовае збудаванне (часцей з дошак) для будаўнічых або рамонтных работ, якое ўстанаўліваецца ўздоўж сцен.

таць і пісаць, але і выконваць розную хатнюю работу: шыць, гатаваць ежу, вышываць і нават спяваць. Манашкі самі пасвілі статак, даглядалі свойскіх жывёл, хадзілі ў лес па грыбы і ягады. Сваім набыткам яны дзяліліся з беднымі людзьмі, давалі прытулак падарожным.

Слава аб дабрадзейнасці Еўфрасінні разышлася далёка за межы Полацка. Ведалі яе ў Кіеве і ў Ноўгарадзе, ведалі яе нават у далёкай Візантыі на ўзбярэжжы Міжземнага мора. Візантыйскія імператары пасылалі Еўфрасінні свае падарункі, а людзі дзякавалі за дабро, якое яна рабіла ім. Еўфрасіння вучыла людзей паважаць адзін аднаго, заклікала спыніць братазабойчыя войны і княжацкія сваркі, бо зброя, казала яна, прыносіць у хату замест хлеба горыч ды слёзы. Нават вялікія князі прыслухоўваліся да голасу Еўфрасінні.

Колькі пражыла Еўфрасіння, дакладна ніхто не ведае. Але добрая памяць аб ёй засталася на зямлі. У Полацку, непадалёку ад вірлівай Палаты, і дагэтуль стаіць прыгожая, нібыта лялечная, царква, збудаваная князёўнай-манашкай. Гэту царкву людзі завуць Спаса-Еўфрасіннеўскай.



1. Раскажыце, паводле твора, пра старадаўні Полацк, у якім гадавалася Прадслава.
2. Чаму ў горадзе добра ведалі дзяўчынку Прадславу? Чым яна вызначалася?
3. Які выбрала для сябе шлях Еўфрасіння? Чаму?
4. Якія справы сталі для Еўфрасінні важнымі і галоўнымі ў жыцці?
5. Чым яна заслужыла шырокую вядомасць, людскую любоў і ўдзячнасць?

6. Да чаго Еўфрасіння заклікала людзей? Якія яе павучанні і запаветы нам трэба памятаць?
7. Якую памяць пакінула Еўфрасіння Полацкая на нашай зямлі?
8. Чаму кожны з нас можа ганарыцца гэтай славутай жанчынай мінулага?
9. Разгледзьце на форзацы падручніка рэпрадукцыю карціны Сяргея Лагуновіча-Чарапко «Еўфрасіння Полацкая». Якой паказаў мастак беларускую святую? Звярніце ўвагу на постаць Еўфрасінні, яе адухоўлены твар. Што агульнае ва ўспрыманні Еўфрасінні Полацкай мастаком і пісьменнікам Сяргеем Тарасавым?

**Генрых СЯНКЕВІЧ**

## НЕЗАБЫЎНАЯ СТАРОНКА СЛАВЯНСКАЙ МІНУЎШЧЫНЫ[1]

*(Урыўкі з рамана «Крыжакі»)*

У абодвух арміях сэрцы ваяроў ужо грукалі, нібы молаты, але трубы ўсё яшчэ не давалі сігналу да бою.

Настала хвіліна чакання, можа, больш цяжкая, чым сама бітва. На полі, якраз паміж немца-

[1] Бітва з крыжакамі адбылася 15 ліпеня 1410 года каля населеных пунктаў Грунвальд і Таненберг (цяпер — тэрыторыя Польшчы). Супраць магутнага Тэўтонскага ордэна выступіла аб'яднанае войска Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага. Наш славуты князь Вітаўт і польскі кароль Ягайла стаялі на чале гэтага войска. Бітва закончылася перамогай славянскіх народаў, якія выратавалі Еўропу ад крыжацкай навалы.

мі і каралеўскай арміяй, бліжэй да Таненберга, высілася купка вячыстых дубоў, на якія пазалазілі мясцовыя сяляне, каб паглядзець на барацьбу двух такіх вялікіх войскаў, якіх свет не бачыў з даўніх часоў. Акрамя гэтай купкі дубоў, на полі нічога не было відаць, яно было пустым, шэрым, змрочным, падобным да змярцвелага стэпу. Толькі вецер гуляў па ім... Вочы рыцараў міжволі спыняліся на гэтай злавеснай, маўклівай раўніне. Хмары, якія праносіліся па небе, час ад часу засцілі сонца, і тады на яе падаў змрочны страшнаваты цень.

Раптам узнялася віхура. Яна зашумела ў лесе, сарвала тысячы лісцяў, кінулася ў поле, узвіхрыла сухія сцяблінкі траў, падняла хмары пылу і шпурнула іх у вочы крыжакам. Якраз у гэтую хвіліну паветра ўскалыхнулі прарэзлівыя гукі рагоў і труб, і ўсё літоўскае крыло сарвалася з месца накшталт незлічонай чарады птушак. Ліцвіны адразу ж, як яны звыклі, шпарка памкнуліся ўперад. Коні выцягнулі шыі, прытулілі вушы і паскакалі што ёсць духу, вершнікі, размахваючы мечамі і суліцамі[1], з аглушальным крыкам ляцелі на левае крыло крыжакоў.

Якраз там і быў магістр[2]. Прайшло ягонае хваляванне, з вачэй ужо не слёзы ліліся, а сыпалі іскры. Убачыўшы цьму наступаючых ліцвінаў, ён павярнуўся да Фрыдрыха Валенрода, які кіраваў адпаведным крылом, і сказаў яму:

---

[1] *Су́ліца* — дубіна, пакрытая металічнымі шыпамі.

[2] *Магі́стр* — кіраўнік духоўна-рыцарскага каталіцкага ордэна. Тут гаворка ідзе пра вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Ульрыка фон Юнгінгена.

— Вітаўт выступіў першы. Пачынайце ж і вы ў імя Бога!

І ўзмахам правай рукі ён паслаў на бой чатырнаццаць харугваў[1] жалезнага рыцарства.

— З намі Бог! — усклікнуў Валенрод.

Харугвы нахілілі дзіды[2] і пайшлі спачатку няспешным крокам. Але як камень, скінуты з гары, падае і набірае ўсё большую хуткасць, так і крыжакі неўзабаве перайшлі на рысь, потым на галоп і паляцелі страшныя, неўтаймаваныя, нібы лавіна, якая павінна ўсё скрышыць, знесці ўсё перад сабой.

Зямля дрыжэла і трэслася пад імі.

...Першыя шэрагі ліцвінаў, найлепей узброеныя, у якіх былі заможныя гаспадары, палеглі пластом на зямлі. Наступныя разлютавана кінуліся на крыжацтва, цалкам закутае ў сталёвыя даспехі, на конях, ахаваных сталлю... Суліцы, шаблі, вастрыі рагацін[3], па́лкі з насаджаным на іх крэмнем ці ababітыя цвікамі адскоквалі ад жалезных пласцін, як ад скалы ці ад муроў замка. Усім цяжарам людзей і коней наваліліся крыжакі на няшчасныя атрады Вітаўта...

Большая частка войска адступала ў бок возера Любень, за ёй кінуліся ў пагоню галоўныя нямецкія сілы...

Другая, меншая частка войска Вітаўта, у якой

---

[1] *Хару́гва* — тут: вайсковы атрад, які выступае пад адным сцягам (500—2000 воінаў).

[2] *Дзі́да (кап'ё)* — доўгае дрэўка з вострым металічным наканечнікам; зброя рыцара, служыла для першай сутычкі.

[3] *Рага́ціна* — зброя ў выглядзе вострага з абодвух бакоў нажа на доўгім дрэўку.

былі тры смаленскія палкі, адыходзіла да польскага крыла, яе цяснілі шэсць нямецкіх харугваў, а потым да іх далучыліся і тыя, хто вярнуўся з пагоні. Лепш узброеныя смаленцы супраціўляліся больш упарта. Тут бітва разгарнулася за кожны крок, бадай што за кожную пядзю зямлі. Адзін са смаленскіх палкоў быў амаль поўнасцю выбіты. Два другія абараняліся з раз'юшанасцю і адчаем. Але немцаў, якія ўжо лічылі сябе пераможцамі, нішто не магло стрымаць. Некаторыя іх харугвы ахапіў баявы запал. Многія з рыцараў падганялі коней шпорамі, уздымалі іх дыбка і кідаліся ўсляпую ў самую гушчу ворагаў з узнятым мячом або сякерай. Удары іх мячоў і бердышоў[1] былі нечалавечай сілы, і ўся лава, адцясняючы, топчучы і крышачы смаленскіх рыцараў і іх коней, зайшла ў бок пярэдняму і галоўнаму польскім атрадам, што ўжо каля гадзіны біліся з немцамі...

— Ліцвіны вяртаюцца! — пачуліся раптам радасныя галасы палякаў.

І адгадалі. Ліцвіны, якіх можна было разбіць, але нельга перамагчы, вярталіся назад і з прарэзлівымі крыкамі, як віхор, імчаліся на сваіх шпаркіх конях.

Тут некалькі крыжацкіх комтураў[2] паскакалі да магістра.

— Ратуйцеся! — закрычаў збялелымі вуснамі комтур Эльблонга. — Ратуйце сябе і Ордэн, пакуль нас не акружылі!

---

[1] *Бярды́ш* — шырокая доўгая сякера з лязом у выглядзе паўмесяца.

[2] *Ко́мтур* — буйны землеўладальнік; адно з вышэйшых званняў у Ордэне.

Але, як сапраўдны рыцар, Ульрык толькі змрочна паглядзеў на яго і, узняўшы рукі ўгору, усклікнуў:

— Не дай Бог, каб я пакінуў гэтае поле, на якім палегла столькі мужных! Не дай мне Бог!

Ён крыкнуў рыцарам, каб ішлі за ім, і рынуўся ў самы вір бітвы. Тут якраз падаспелі ліцвіны, і пачалася такая сеча, такая калатня, што чалавечае вока ўжо нічога не магло згледзець.

Магістр, паранены вастрыём ліцвінскай суліцы, яшчэ нейкі час адбіваў удары самлелай рукой, а потым зваліўся, як дуб, на зямлю.

Мноства вояў, апранутых у скуры, закрыла яго, адцясняючы рыцараў назад.

* * *

...Бітва ператварылася ў знішчэнне, у нечуванае паражэнне крыжакоў — такога ў ранейшай гісторыі чалавецтва яшчэ не было. Ніколі ў хрысціянскія часы не сустракаліся ў баі дзве такія раці. А вось цяпер адна з іх амаль уся палегла, нібы зжаты палетак жыта. Здаліся тыя харугвы, якія магістр увёў у бой апошнімі...

* * *

Але бітва яшчэ доўжылася, бо многія крыжацкія харугвы лічылі за лепшае памерці, чым прасіць літасці і здацца. Згодна са сваім ваенным звычаем, яны згуртаваліся як адно вялікае кола і абараняліся, нібы статак дзікоў. Польска-ліцвінскае войска аперазала гэтае кола, як удаў, што абвівае цела быка, і сціскала яго ўсё болей і болей. І зноў мільгалі рукі, грымелі цапы, бразгалі косы, секлі мечы, калолі рагаціны, свісталі баявыя сякеры і тапары. Немцаў высякалі, як лес, а яны

паміралі маўклівыя, змрочныя, аграмадністыя, бясстрашныя.

Некаторыя з іх, прыўзняўшы забрала[1], развіталіся адзін з другім, цалуючыся перад смерцю ў апошні раз, некаторыя кідаліся на злом галавы ў самае пекла бою, нібы ашалелыя, некаторыя, урэшце, забівалі самі сябе або прасілі таварыша: «Забі!»...

Гэты дзень быў для Ордэна і для ўсяго заходняга рыцарства не толькі днём найвялікшага разгрому, але і днём найвялікшай славы.

...Цэлая армія крыжакоў перастала існаваць. Пад ногі вялікаму каралю паваліўся не толькі крыжацкі Ордэн, але і ўся Германія...

* * *

Сонца хілілася да захаду. Прайшоў кароткі, але краплісты дождж і прыбіў пыл. Кароль і Вітаўт збіраліся паехаць на поле бітвы, але тут якраз пачалі звозіць целы загінуўшых вайскаводаў і класці перад імі. Ліцвіны прынеслі паколатае суліцамі і пакрытае пылам і крывёй цела вялікага магістра Ульрыка фон Юнгінгена, паклалі перад каралём, а ён жаласна ўздыхнуў і прамовіў:

— Гэта той, хто яшчэ сёння раніцой спадзяваўся быць вышэй, чым усе ўладары свету...

Тут слёзы, як пярліны[2], пакаціліся па ягоных шчоках; праз хвіліну ён дадаў:

— Але ён загінуў смерцю адважных, таму мы будзем услаўляць яго мужнасць і пахаваем яго з пашанай, па-хрысціянску.

---

[1] *Забра́ла* — частка шлема, якой прыкрываецца твар для засцярогі ад удараў.

[2] *Пярлі́на* — жамчужына.

Ён загадаў як след абмыць цела ў возеры, апрануць у прыгожае адзенне і, пакуль не будзе гатова труна, прыкрыць ордэнскім плашчом...

Вячэрні ветрык то завінаў, то разгортваў рознакаляровыя палотнішчы, якія шумелі, нібыта ахоўваючы сон палеглых. Удалечыні, у водбліскаx вечаровае зары, былі відаць атрады ліцвінаў, якія цягнулі адбітыя гарматы, што былі ўпершыню ўжыты крыжакамі ў бітве на полі...

На ўзгорку каля караля стоўпіліся славутыя рыцары; цяжка дыхаючы ад стомы, яны пазіралі на тыя харугвы і на тых ваяроў, што ляжалі ля іх ног, як глядзяць стомленыя жняцы на зжатыя і звязаныя снапы. Цяжкі быў дзень і страшны быў плён гэтага жніва, але вось наступіў ён, вялікі, святы, радасны вечар.

І ад нязмернага шчасця праясніліся твары пераможцаў, бо ўсе разумелі, што гэта быў вечар, які паклаў канец мучэнням і цяжкасцям не толькі гэтага дня, але і цэлых стагоддзяў.

Кароль жа, хаця і разумеў, наколькі цяжкім было паражэнне крыжакоў, пазіраў у здзіўленні перад сабой і ўрэшце запытаў:

— Няўжо тут ляжыць увесь Ордэн?..

Затым ён узняў руку і пачаў блаславуляць не толькі тых, хто ляжаў бліжэй, але і ўсё поле бітвы між Грунвальдам і Таненбергам...

* * *

Слава і хвала табе, вялікае святое мінулае, і табе, ахвярная кроў, на векі вечныя!

? **1.** Якое ўражанне зрабіў на вас твор? Якія карціны вам найбольш запомніліся, усхва-

лявалі? Хто з герояў выклікаў найбольшую павагу і сімпатыі?

2. Як паказана ў творы *хвіліна чакання* перад самым пачаткам Грунвальдскай бітвы? Звярніце ўвагу на тое, як аўтар перадае стан прыроды перад боем. Якія выразныя дэталі прадказваюць вынік бітвы?
3. Якімі паўстаюць крыжакі ў пачатку бітвы? Знайдзіце ў тэксце канкрэтныя пацвярджэнні іх моцы.
4. Якім паўстае ў творы войска Вітаўта? Як пачуваліся яго асобныя палкі́ ў пачатку бітвы?
5. Які момант, паводле тэксту, можна лічыць пераломным у славутай бітве? Што пра гэта сведчыць?
6. Як вы разумееце радкі: *Ліцвіны, якіх можна было разбіць, але нельга перамагчы*? Як аўтар ацэньвае Грунвальдскую бітву? Прывядзіце доказы сваіх меркаванняў, карыстаючыся тэкстам.
7. Якім паказаны ў творы вялікі магістр барон Ульрык фон Юнгінген, а якім — польскі кароль Ягайла?
8. Якім вы ўяўляеце Вітаўта? Што вы яшчэ ведаеце пра нашага славутага продка?
9. Як закончылася Грунвальдская бітва? Якое значэнне яна мае для нашчадкаў?
10. Паразважайце, які сэнс укладзены ў апошні сказ тэксту: *Слава і хвала табе, вялікае святое мінулае, і табе, ахвярная кроў, на векі вечныя!*
11. Сфармулюйце асноўную думку (ідэю) твора.



# ВАЙНА — БОЛЬ І ПАМЯЦЬ НАРОДА

## Мікола СУРНАЧОЎ

### У СТОПТАНЫМ ЖЫЦЕ[1]

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі[2],
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.

---

[1] Верш «У стоптаным жыце» напісаны на самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Яго аўтар загінуў пад Берлінам у 1945 годзе. Яму на той час мінула толькі 27 гадоў. Паэт Мікола Сурначоў прайшоў суровымі ваеннымі дарогамі: удзельнічаў у абароне Каўказа, у вызваленні Беларусі, Румыніі, Польшчы. Ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і баявымі медалямі.

[2] *Кра́скі* — кветкі.

Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце...

?

1. Што вы ведаеце пра тое, як склаўся лёс вашых прадзедаў, дзядоў, бабуль і іншых сваякоў у гады вайны з фашысцкай Германіяй?
2. У вершы паказана трагічная падзея — гібель маладога салдата. Прачытайце твор выразна ўголас, перадаючы яго гучанне: тужлівае, трагічнае, ушанавальна-жалобнае.
3. Жыта ў народных песнях заўсёды звязвалася з жыццём, мірнай працай, шчасцем на зямлі. Паразважайце, чаму верш мае такую назву. Які сэнс набывае ў творы вобраз «стоптанага жыта»?
4. Якім перад намі паўстае вобраз салдата?
5. Чаму паэт просіць не гаварыць маці пра гібель сына?
6. Вывучыце верш на памяць.

## Аляксей ПЫСІН

### ПРОНЯ[1]

Трымалі чужынцы яе у палоне:
— Ты наша навекі, прызнайся нам, Проня!

— Я вольная рэчка на вольнай зямлі,
І чыстымі хвалі заўсёды былі...

Прыгналі чужынцы і танкі, і коней,
Ваду ўсё муцілі ды кпілі над Проняй:

[1] *Про́ня* — рака ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях, правы прыток ракі Сож. Даўжыня яе 172 кіламетры. Шырыня ракі складае 15—20 метраў, а месцамі дасягае 50 метраў *(З энцыклапедыі «Блакітная кніга Беларусі»)*.

— Цяпер ты павінна згадзіцца сама,
Што чыстае плыні няма ўжо, няма!

— Няпраўда, ёсць многа крыніц пада мною
З празрыстай, чысцюткай, як слёзы, вадою.

Кідалі чужынцы на плёсы і тоні
І бомбы, і толу[1] грымучага тоны;

Фантаны ўзляталі з пяском і жалезам
Над полем счарнелым, над лугам і лесам.

...Ішлі мы паходам на захад тады,
І Проня дала нам напіцца вады.

Была яна светлай да самага дна,
І сонца, і неба адбіла яна.

?

1. Параўнайце энцыклапедычныя звесткі пра раку Проню з вобразам ракі, які стварыў паэт Аляксей Пысін.
2. У якой сітуацыі апынулася рака? Чаму Проня не жадае скарыцца ворагу? Падмацуйце свой адказ адпаведнымі радкамі з твора.
3. Рака паўстае перад намі як жывая істота. Як называецца такі мастацкі прыём? Якія мы можам вылучыць рысы ў вобразе Проні?
4. Як вораг вырашыў перамагчы непакорную Проню?
5. Звярніце ўвагу на тое, як адказвае Проня чужынцам на іх пагрозы і загады. Прачытайце яе адказы з адпаведнай інтанацыяй.
6. У які момант і чаму рака зрабілася *светлай да самага дна*?
7. Вызначце ідэю твора.

---

[1] *Тол* — выбуховае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў ваеннай справе і тэхніцы.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## ДВА ПОЛІ

Было ў салдата два полі,
поле, дзе кветкі ірваў,
бегаў з сябрамі на волі,
і поле, дзе ён ваяваў.

Ціха было і чыста
у полі яго дзяцінства,
былі агонь і дым
на полі ратным[1] тым.

Два полі было ў салдата.
Адно зелянела травой,
другое было ўзарата
вайной і паліта крывёй.

Было ў салдата два полі,
поле, дзе кветкі ірваў,
бегаў з сябрамі на волі,
і поле, дзе ён паміраў.

?

1. Якія два розныя вобразы поля стварыў паэт у сваім вершы? Як ён паказвае і малюе гэтыя два полі?
2. У вершы адсутнічае партрэт воіна-змагара. Ці можаце вы ўявіць гэтага салдата? Як вы разумееце выраз: *у полі яго дзяцінства*?
3. Зачытайце радкі, якія сведчаць пра тое, што адбываецца на полі бітвы. Якія вобразы выступаюць у рэзкім кантрасце (супрацьпастаўленні) з карцінай зялёнага квяцістага поля?

---

[1] *Ра́тны* (уст.) — ваенны, баявы.

4. Якія радкі, на вашу думку, надаюць твору моцнае трагедыйнае гучанне?
5. Паслухайце, калі ёсць такая магчымасць, запіс песні на верш Анатоля Вярцінскага «Два полі» (музыка кампазітара Эдуарда Ханка). Раскажыце пра сваё ўражанне ад гэтай песні. Які настрой выклікала ў вас мелодыя?

## Вячаслаў АДАМЧЫК

### САЛОДКІЯ ЯБЛЫКІ

#### I

«Старасту» — абструганую яловую палку з накарэлым на ёй цестам (мусіць, нехта мяшаў свінням і каням) — да Папялішыных прынёс стары Цурусь. Папялішыных якраз не было дома: на дзвярах вісеў замок — жалезнае конскае пута[1]. Стары Цурусь пастаяў каля парога, аддыхаўся, паставіў палку каля вушака і пасунуўся дадому.

Стараста[2], пасля таго як партызаны застрэлілі Івана Якімчыка, ішоў па вёсцы радоўкаю[3]. Сёння адбыла адна хата за старасту, назаўтра другая.

На трэцім тыдні чарга дайшла да Папялішынай Марылі.

Марыля жыла адна з дзесяцігадовым Тонікам, які быў такі ж самы, як колішні кравец, што шыў

[1] *Пу́та* — прыстасаванне (ланцуг, рэмень, вяроўка), якое надзяваюць на пярэднія ногі каню падчас пасьбы.

[2] *Ста́раста* — выбарная або назначаная асоба для вядзення спраў якога-небудзь невялікага калектыву, групы.

[3] *Радо́ўка* — чарга рабіць што-небудзь.

па хутарах кажухі, і крошкі падабраў, і гэтакі быў таўстагубы, і гэтак зацята глядзеў спадылба, як яго прызнаны цэлаю вёскаю, але не запісаны ў метрыцы бацька. І нават насіў бацькаву мянушку — Паплісты. Мужа ў Марылі не было. Да вайны яна жыла пры братах, покуль тыя не пажаніліся і, аддзяліўшыся, не пакінулі на яе старую хату.

Закарэлую ў цеста яловую палку — знак, што гэтая хата сёння за старасту, — Марыля ўбачыла тады, калі вярнулася з поля даіць на вечар карову. Гэту палку, яна добра помніць, прыносілі пад дзверы яшчэ «за польскім часам», калі ў вёсцы ўвялі варту.

— Які ж з мяне стараста? — закрычала на ўвесь надворак Марыля, каб, мусіць, чулі і суседзі. — Хіба ж у вёсцы пазводзіліся мужчыны?

Яна ўзяла палку і пайшла шукаць свайго Тоніка, каб занёс «старасту» да Мартына Жолудзя, з якім яна ўжо нешта з год не гаварыла, пасварыўшыся за калодзеж.

Марыля выглянула за гумны і, нікога там не ўбачыўшы, пайшла ў канец вёскі на грудок, адкуль усе мацяркі клікалі сваіх дзяцей, калі трэба было палуднаваць і выганяць на пашу быдла. Папрыганяўшы на дзень, пастухі цэлаю плоймай моклі ў рэчцы.

— Тонік, каб ты не даждаў, дадому ідзі, — гукнула Марыля і, засланяючыся рукою ад сонца, стала глядзець туды, пад алешнік, пад рэчку, дзе па беразе бегалі голыя, як бізуны, дзецi. Адыходзячыся аж да самых гародаў, яны набіралі разгон і скакалі, мусіць, у рэчку.

— Не чуе, недавярак, — сказала Марыля і гукнула яшчэ раз. — Тонік, каму я кажу, дадому ідзі!

Тонік якраз сядзеў пад берагам — адтуль была відаць яго вострая худая спіна — і, засунуўшы руку ў слізкія, паабрастаныя зялёнаю бадзягаю карчы, толькі чуў, як мякка біліся аб яго растапыраныя пальцы нямоцнымі хвастамі вёрткія плоткі. Тут іх заўсёды цэлую торбу набіраў Сямён Мокуць. У карчах былі глыбокія і патаемныя лёхі[1]. Тонік падшыўся далей пад бераг і засунуў руку аж па самую паху. Але там яго востра і моцна, як кляшчамі, схапіла за мезенец. «Выдра», — спалохаўшыся, падумаў Тонік. Ён ведаў, што выдра вялася пад Сцяпанаваю алешынаю ў завоінцы ў карчах і, кажуць, нават паела ў некага шчанят. Тонік ірвануў руку назад і збялелы выскачыў з-пад берага: на мезенцы вісеў вялікі без аднае кляшні рак.

— А во Паплісты рака злавіў, — закрычалі на беразе.

Але рак пстрыкнуў хвастом, адарваўся ад пальца і ляпнуўся ў ваду. Тонік толькі бачыў, як ён вёртка шмыгануў назад пад бераг.

— Вот пусці мяне, — папрасіўся Мокуцеў Арсенік, што стаяў на беразе, увесь ссінелы, скорчыўшыся, і ў яго ад холаду дробна дрыжала барада. — Там мой бацька вунь колькі налавіў. Цябе ж усё роўна маці кліча дамоў.

— Дзе? — спытаўся Тонік, вылазячы з рэчкі, бо ведаў, калі ён не паслухаецца, то маці будзе ісці сюды з абшморганаю лазіною, ад якое надта ж пячэ, калі сеануць па нагах.

— Ну, ідзі лаві, — сказаў Тонік і пачаў апранацца.

---

[1] *Лёха* — падземны ход.

Бялявы, з выцвілымі валасамі і аблупленым чырвоным ад сонца носам Арсенік быў старэйшы за Тоніка, але надта рахманы[1] і не вельмі разважлівы хлопец. Пазаўчора Тонік з двума Жолудзевымі, падмануўшы, адвялі яго ад дому і залезлі ў іхні, Мокуцеў, сад: там былі на адной яблыні хоць яшчэ маленькія, не раўнуючы, як арэхі, але ўжо салодкія яблыкі. Але яблыкаў яны не нарвалі: з хаты выскачыў, расшпіляючы на бягу папружку, Арсенікаў бацька — Сямён Мокуць.

Ён злавіў большага Жолудзевага якраз на яблыні. Ён, Тонік, з меншым, прашыўшыся пад дрот, паспелі ўцячы. Праўда, Тонік зачапіўся за калючку і разлупіў на спіне новую, маці яшчэ і не мыла, паркалёвую[2] кашулю. І пазаўчора яму добра ўляцела дома. Але Тонік болей пабойваўся Сямёна Мокуця. Што маці — яна паганяла наўкруг грубкі, і яму дасталося толькі попускам, калі ён, не паспеўшы адчыніць дзверы, уцякаў на двор. Але венік, які ён звязаў у полі з бярозавага вецця, быў яшчэ сыры і мяккі. Мужчыны, пэўна, б'юцца не так. Старэйшы Жолудзеў вунь: колькі плакаў, калі яго нашастаў па вушах Сямён Мокуць.

Тонік ішоў дадому са страхам, думаючы, як мінуць Арсенікаву хату, каб часам не нарвацца на яго бацьку. Ён ужо трэці дзень асцерагаўся Сямёна Мокуця.

На вуліцы добра што нікога не было, але Мокуцеву хату Тонік мінуў подбегам.

---

[1] *Рахма́ны* — дабрадушны, згаворлівы, памяркоўны ў адносінах да іншых.

[2] *Паркалёвы* — зроблены з *парка́лю* — лёгкай баваўнянай тканіны.

На надворку, мусіць, ужо выкінуўшы карове траву, маці абівала аб плот дзяружку. На частаколе густа асядаў пыл.

— Ну чаго? — яшчэ з вуліцы спытаўся Тонік, усё ж пабойваючыся падыходзіць бліжэй да маці.

— Дзе ж гэта ходзіш, каб хто ведаў? — Марыля павесіла на плот дзяружку і ўзяла з прызбы доўгую палку.

Тонік адступіўся, ужо аглядаючыся, як шмыгануць назад на вуліцу.

— На, занясі да Жолудзяў. Вот прынеслі «старасту», — яна шпурнула палку ў мураву пад плот. — Хіба ж няма мужчын? Каб іх ліха абстарасціла.

Тонік падняў палку і, стракочучы ёю па плоце, пабег да Жолудзяў. Сенцы ў Жолудзяў былі адчынены. Там немаведама што нарабілі куры. Яны паляцелі з крыкам на двор, паднімаючы вецер, калі Тонік увайшоў у сенцы. На абабітых старою дзяружкаю дзвярах, з-пад якое пучкамі тырчала старая парудзелая салома, павольна паднялася, бразнуўшы, жалезная клямка. Дзверы адчыніліся, і ў сенцы неўзабаве высунулася чорная калматая галава. Гэта быў сам Жолудзь — нябрыты, з апухлымі ад сну вачыма.

— «Старасту» вам прынёс, — замест «дзень добры» сказаў Тонік, тут жа апомніўшыся, што яго мама вучыла: як зойдзеш да каго ў хату — трэба найперш павітацца.

«Такое бяды, тут жа не хата, а сенцы», — падумаў ён.

— А хіба ж вы былі за старасту? — спытаў Жолудзь, не выходзячы ў сенцы.

— Не, — пакруціў галавою Тонік.

— То чаму цераз хату? Раз усе, так усе, — сказаў Жолудзь, хаваючыся за дзверы.

Тонік выйшаў з сенцаў і папхнуў перад сабою палку, пакідаючы на Жолудзевым надворку неглыбокую баразну.

— Нашто ж прынёс дадому? — спытала праз акно маці, калі Тонік кінуў палку на прызбу.

— Ай, не бяруць! — моцна крыкнуў Тонік, каб, мусіць, чутна было ў хаце. Ён ірваўся скарэй туды, пад рэчку, ён успомніў, што сёння ўсе хлопцы збіраліся ў Ельнік — гразкае з рудою вадою і рэдкімі лазнякамі балота, дзе кожны год у асацэ на купінах вяліся дзікія качкі і дзе ён, Тонік, летась выбраў з аднаго гнязда поўную шапку яец.

— Куды ж ты палянеў? Гэта ж палуднаваць час, — пастукала ў раму маці, але Тонік ужо не чуў.

## II

Кожны вечар, прыгнаўшы з поля, Тонік катаў па вуліцы рэхву[1]. Старую ад рассохлага кола рэхву ён знайшоў на гарышчы. Рэхвы каталі ўсе, толькі ў Арсеніка быў вялікі ад жалезнай бочкі абруч. Арсенік апярэджваў усіх, але толькі на цвёрдай сцежцы, бо на пяску абруч загразаў і падаў. Але як далёка ён бег з таго грудка ў канцы вёскі, калі яны ўсе разам пускалі свае коткі пад рэчку. Тонікава рэхва не дакочвалася нават да загарадаў. Але сёння ён ледзь знайшоў яе ў высокай траве. А Арсенікаў абруч, як ні шукалі яны ўсе разам, — не знайшлі. Ён закаціўся недзе ў

[1] *Рэ́хва* — жалезны абруч ад кола ў воза (дзеці выкарыстоўвалі стары абруч у сваіх гульнях).

асаку. Праўда, нехта сказаў, што калі пачнуць касіць, то ён знойдзецца. Бо хто-небудзь, вытупіўшы касу аб жалеза, выкіне яго з сенажаці на дарогу. Але Арсенік не даў веры, ён застаўся шукаць свой абруч. Усе ж хлопцы паехалі дадому, бо ўжо добра сцямнела, а ён, Тонік, успомніў, што не загнаў яшчэ на седала курэй. Мама сказала, што вернецца зацемна. Падаіўшы нанач карову, яна пайшла на хутары, што пад Азяранамі, пазычаць мукі — сёння ў іх нават не было чым падкалаціць шчавель. «Глядзі ж з агнём, — прыказала мама, — не запальвай, бо і газы так толькі на якую пільную патрэбу. А калі будуць страляць, то на печы не сядзі». Ды Тонік і сам ведаў, што калі страляюць, то трэба хавацца за печ. Праз цэглу, казалі, нават не праходзіць снарад, а не то што куля. Куля нават не прайшла праз іхнюю сцяну, калі немцы стралялі па вёсцы. Яна засела ў трухлявай дзеравіне, і ён выкалупаў яе дроцікам. Але яму тады ніхто не паверыў, што куля не пройдзе праз сцяну. Тонік доўга насіў гэтую кулю ў кішэні, покуль яе не агледзела маці і не накрычала. «Няхай крые бог, гэта ж калекаю праз якое ліха застанешся. Ніколі не бяры». Ды ён, Тонік, не вельмі браў. Гэта большыя хлопцы. Сёння яны нават прынеслі вялікі снарад, не раўнуючы, як парася. Ён доўга ляжаў у агні, покуль узарваўся. Яны ўжо адбегліся аж пад самую вёску, як убачылі спачатку дым, а потым моцна, нібы гром, стрэліла — каровы паднялі вушы і сталі нюхаць вецер. Большыя хлопцы яшчэ вярнуліся паглядзець, што засталося ад агню і снарада. Іх, меншых, не пусцілі. Казалі, што снарад пракапаў вялікую, можа, на метраў сто, канаву.

Засынаючы на цёплай яшчэ пад анучамі печы (ён заўсёды, калі не было мамы, спаў на печы і ніколі не чуў, як яна пераносіла яго на ложак), Тонік думаў, як раніцаю ён пабяжыць на тое месца, дзе сёння яны клалі агонь. І яму ўжо снілася Лука, тое асадніцкае балота, куды прыганялі сваё быдла аж тры вёскі. І ён ужо бачыў, як у агні яшчэ ляжаў снарад, як усе ўцякалі, а толькі ён, Тонік, ніяк не мог варухнуць нагамі. І снарад узарваўся, і Тоніку раптам здалося невядома чаму, што ўзарваўся ў сенцах. Тонік адкрыў вочы — нехта моцна грукаў у дзверы.

«Пэўна, маці», — думаў ён, ссоўваючыся з печы на лаўку.

Тонік выбег у сенцы: «Хто там?» — хацеў спытаць ён, але на надворку, яму здалося, гаварылі чужыя. Нечая рука адтуль ізноў моцна страсянула дзверы.

«Каб не стралялі!» — Тонік нават перастаў дыхаць.

— Староста тут? — спытаўся знадворку нехта тоўстым голасам.

— Няўжо спяць? — загаварыў другі асіпла і тонка, мусіць, нізенькі.

— Мамы нямашака дома, — сказаў Тонік. Ён помніў, што мама наказвала не адчыняць нікому чужому — пастукае ды пойдзе.

— А дзе ж жыве староста? — спытаўся той самы тоўсты голас.

— У нас! — адказаў Тонік, нарэшце здагадаўшыся пра тую яловую палку, якую ён насіў да Жолудзяў і якая ляжала цяпер на прызбе, і пасмялеў.

— Дык адчыняй, чаго ты баішся, — здаецца, ужо добра сказаў той самы, мусіць, высокі.

Тонік намацаў у поцемках засоўку і, націскаючы плячом на дзверы, з грукатам яе адсунуў.

На двары іх было куды болей — ужо потым разгледзеўся Тонік, калі яны перасталі свяціць яму ў вочы ліхтарыкам, — і ўсе ў чорным, з аўтаматамі на грудзях, з нейкімі малаватымі на булаватых галовах пілоткамі.

«Паліцыянты... Яны хоць па-нашаму гавораць».

— Дык дзе ж той стараста? — спытаўся асіплым тоненькім голасам якраз самы высокі з іх, той, што свяціў у вочы ліхтарыкам.

— Наша сёння хата за старасту.

— Як?

— Да нас дайшла радоўка, — сказаў Тонік, ужо адчуваючы, што яго ці ад холаду, ці ад страху пачынае калаціць.

— Хрэн з ёю, з гэтаю радоўкаю! — загаварыў намнога ніжэйшы за таго большага, але тым самым тоўстым голасам. — Ты ведаеш, у каго ёсць коні?

— Ведаю, — сцішана адказаў Тонік, раптам успомніўшы, як ён ледзь не наскочыў сёння на Арсенікавага бацьку, Сямёна Мокуця, калі той вёў да рэчкі паіць каня.

— Ну, ідзі, пакажаш!

На вуліцы каля плота іх цямнела многа. Недзе гаварылі, чуваць было, і ў другім канцы вёскі. «Аблава», — падумаў Тонік. Гэтакае было на згоне зімы, тады, калі нямецкія салдаты бамбілі Ліпава, што пад лесам, і ў іхняй вёсцы хацелі застрэліць Піліпавага Ваську, што скоса глянуў на немца.

— Во, у іх ёсць конь, — паказаў Тонік на Мокуцеву хату, калі большы мінуў Арсенікаву брамку.

— Хлопцы, ідзіце сюды, — спыніў высокі, пэўна, загадваючы тым, што стаялі, падпёршы плячыма частакол.

— А ў гэтай няма? — паказаў рукою меншы на Жолудзяў, убачыўшы, што Жолудзеву хату невядома чаму мінулі.

— Не, — сказаў Тонік, бо ведаў, што Марціну Жолудзю садзіў бульбу і вывозіў гной стары Піліп, што жыў у другім канцы вёскі.

— Конь у Хведаравых ёсць, — у Хведаравых быў пярэсты — чорны з белым конь: ён кульгаў на адну нагу і кусаўся, — і ў Шакуна, што за імі, — яшчэ ўспомніў Тонік.

— А дзе гэтыя Хведаравыя? — пацікавіўся той высокі.

— А вунь пад бярэзінаю. — У Хведаравых на надворку расла старая бяроза, і ўсе ў вёсцы казалі на гэтае месца «пад бярэзінаю».

— Скажы, а ў партызанах з вашай вёскі ёсць хто? — пацікавіўся раптам меншы.

У партызанах быў Верчын Сярожа. Ён нават прыходзіў дадому і танцаваў на вечарынцы з Жолудзеваю Волькаю, і ўсе гаварылі, што яны любяцца.

— У нас партызанаў няма, — сказаў тое самае Тонік, што гаварыў аднаго разу стары Піліп на вуліцы чырвонаму немцу; Тонік ніколі не бачыў, каб былі гэтакія чырвоныя, як жар — і валасы, і бровы, — людзі.

— Ну ладна, бяжы дадому, — махнуў рукою большы.

I Тонік пабег. Мінуючы Мокуцяў, бачыў, што ў тых у хаце паліцыянты бліскалі ліхтарыкамі, і чуў, што гаварыў сам Мокуць: «Паночкі, ды я ж учора толькі ездзіў».

«Мне ўжо не будзе каго баяцца, калі Мокуця забяруць у абоз», — радаваўся Тонік і тут жа ўспомніў, што дадому, пэўна, ужо вяртаецца маці — адна, гэтакаю цемнатою. I каб яе не застрэлілі — раптам спалохаўся ён. I ўжо дома не спаў, покуль яна не вярнулася з Азяранскіх хутароў, так і не пазычыўшы мукі.

### III

На трэці дзень паявіўся Мокуцеў конь з хамутом і набедрыкамі[1], але без воза. Раніцаю яго ўбачылі пастухі: ён піў у рэчцы ваду, за ноч, мусіць, добра выеўшыся на чужых сенажацях.

Выйшаўшы на бераг, на сухі пясок, конь укленчыў на пярэднія ногі, выцягнуў шыю, прылёг на бок і, брыкаючы нагамі, перавярнуўся на спіну. Потым конь устаў. Шырока расставіўшы ногі, страсянуў з сябе жоўты пясок, пакруціў галавою, фыркнуў і памалу пайшоў у вёску.

— А вунь ваш конь, — паказаў Арсеніку большы Жолудзеў.

Арсенік паправіў на плячы шлейку, выцер рукавом нос і пабег лавіць каня.

«А дзе ж Мокуць?» — гледзячы ўслед Арсеніку, падумаў Тонік, і раптам яго апанаваў страх: «А што будзе, калі не вярнуўся? Гэта ж усе веда-

---

[1] *Набе́дрыкі* — частка вупражы ў выглядзе рэменя, які прымацоўваецца двума канцамі да хамута і праходзіць па баках і спіне каня; шлеі.

юць, што я быў за старасту, і адразу падумаюць: удаў Мокуця».

Конь тым часам быў ужо ў вёсцы.

— Глядзі сюды! — штурхануў Тоніка большы Жолудзеў. — Хіба не бачыш, карова дзе?

Тонік аглянуўся: яго карова стаяла ў аўсе, якраз на сярэдзіне палетка. Вырываючы авёс з карэннем, яна жавала толькі мяцёлкі.

Тонік выгнаў з аўса карову і пачаў зноў глядзець у бок вёскі. Арсенікава галава мільгала ўжо на вуліцы за частаколам.

«Ліха не возьме гэтага Мокуця», — плюнуў нарэшце Тонік і пачаў мераць свой цень — ці не пара гнаць дадому.

— Яшчэ ранавата, — махнуў рукою большы Жолудзеў і дастаў з кішэні складны́ ножык. — Давай во лепей гуляць у ножыкі.

Яны згулялі аж тры разы, але Арсеніка ўсё не было.

Тонік зноў пачаў мераць свой цень. Цяпер ён налічыў пяць ступняў: можна было гнаць дадому.

Каровы ўжо самі пацягнуліся на дарогу, пад рэчку, яны хацелі піць. Толькі авечкі, млеючы ад гарачыні, ляжалі пад алешынай. Тонік стрэльнуў пугай — авечкі нехаця падняліся і пабеглі, збіўшыся ў кучу і адпіраючы адна адну бокам.

— А дзе ж Арсенік? — услых спытаў Тонік.

— Дома, дзе ж. Нашто ён табе? Вот лепей глядзі за каровамі, а то твая ізноў павядзе ў авёс. — Большы Жолудзеў, мусіць, не думаў пра Арсеніка і яго бацьку.

«Няўжо не вярнуўся Мокуць?» — Тонік падкасаў штаны і палез у рэчку выганяць кароў.

Трымаючы ў руцэ кусок пасінелае бульбянае кашы, на вуліцы іх ужо чакаў Арсенік.

— Дай пакаштаваць, — папрасіў большы Жолудзеў.

Арсенік адламаў яму і Тоніку.

— Ну што, прыйшоў твой бацька? — спытаўся Тонік і крадком глянуў на Арсеніка.

— Не... можа, яшчэ прыйдзе, — сказаў Арсенік і зрабіўся раптам сцішны.

**IV**

Папалуднаваўшы, Тонік выйшаў на вуліцу. Стаяла гарачыня. У гародчыках вяў бэз. Ля плота, параскрываўшы дзюбы, хадзілі куры, ім, пэўна, было млосна. Толькі адна матылька хіба не баялася гарачыні: яна ўсё вілася над вуліцаю, нізка, пры самай зямлі, нібы шукала, згубіўшы што.

«Мо схадзіць на рэчку?»

Тоніку было сумна.

На плоце каля свае хаты сядзеў Арсенік. Тонік падняў вочы і ўбачыў яго.

«Ён чакае бацьку», — раптам падумалася Тоніку.

— Ідзі сюды! — клікнуў яго Арсенік.

Тонік нехаця падышоў.

— Хочаш, я табе гняздо пакажу? — хітра прыжмурыўся Арсенік.

— Дзе?

— Пад рэчкаю.

— Хадзем.

Вузенькаю сцежкаю, што бегла праз Цурусеў надворак і якою бабы з цэлае вёскі хадзілі паласкаць бялізну, яны пачалі спускацца да рэчкі.

— Глядзі, не наступі на шкло! — крыкнуў Тонік, спускаючыся ўслед за Арсенікам.

— Я ведаю, — адгукнуўся Арсенік ужо каля рэчкі.

Тонік не ўтрываў і пабег таксама.

Рэчка сёння была роўная з берагамі — недзе ў млыне адкрылі ўсе застаўкі. У карчах шумела і булькала вада. Пад навіслаю алешынаю кружылася жоўтая шапка пены. Каля берага цэлаю плоймаю стаялі вадзяныя камары.

— А дзе яны зімуюць? — спытаўся Тонік, сашморгваючы з алешыны лісце, каб разагнаць камароў.

— Не ведаю, — задумаўшыся, адказаў Арсенік. — Вот як прыйдзе мой бацька — спытаем.

Тоніку зноў зрабілася сумна. Ён спытаў:

— А дзе ж гняздо?

— Хадзем сюды, — Арсенік пашыўся ў альховыя кусты.

«А што будзе, калі ўсе дазнаюцца, што праз мяне не вярнуўся Арсенікаў бацька?» — Тоніку ўжо расхацелася глядзець тое гняздо.

— Вось! — крыкнуў з куста Арсенік.

«А можа, сказаць? Можа, будзе лепей?» — Тонік уздыхнуў і, заплюшчыўшы вочы, палез у куст на Арсенікаў голас...

— Во, бачыш, — Арсенік падсунуўся да густога куста, што рос над самаю вадою.

На тонкім пруціку калыхалася звітае з аднаго конскага валосся шэрае гняздзечка. Голыя, у рэдкім пушку, птушаняты нямогла паднялі сляпыя на тонкіх шыях галоўкі і раскрылі мокрыя чырвоныя раты. Галоўкі смешна хісталіся.

Недзе зусім блізка пырхала і ціўкала птушачка.

— Во, прынесла есці. — Тонік першы вылез з алешніку. — Уцякайма, а то адаб'ём ад гнязда птушку. Купацца пойдзем пад Сцяпанаву алешыну.

Арсенік зморшчыў аблуплены нос:

— Я нікуды не пайду.

— Чаму?

— Пайду гляну, мо вярнуўся бацька.

Арсенік падцягнуў на плячо з'ехаўшую шлейку і бокам, каб не апячыся ў крапіве, пачаў падніマцца тою самаю вузкаю сцежкаю ў вёску.

— А ведаеш, хто сказаў паліцыянтам, што ў вас ёсць конь? — крыкнуў Тонік, калі ён адышоўся.

— Ведаю, — агледнуўся Арсенік і сцішыў голас, мусіць, каб не было чутно ў вёсцы, — мама казала — Цурусь, ён усіх удае немцам.

— Я, — хацеў крыкнуць Тонік, але ў яго перахапіла дух.

## V

Што немцы застрэлілі Арсенікавага бацьку, Тонік дазнаўся ў той самы дзень, як наказалі ў вёску. Гаварылі, што Арсенікаў бацька, забіўшы паліцая, перабягаў да партызанаў.

У той самы дзень было чуваць, як недзе на панадворку галасіла Арсенікава маці, Тонік нават баяўся паказвацца на вуліцу. Ён сядзеў у сваім гародчыку, паглядаючы праз частакол, што робіцца на вуліцы каля Мокуцяў. Але каля варот бачыў толькі вялікага чырвонага Мокуцевага пеўня. Певень, горда падняўшы галаву, гучна кудахтаў, да яго, высока падлятаючы, з усіх надворкаў беглі куры.

У той самы дзень Тонік першы раз не пагнаў у грамаду[1]. Ён знайшоў на гарышчы вяроўку, прывязаў яе карове за шлейку на шыі і павёў карову на ўзмежкі. На ўзмежках, ён ведаў, была нявыпасеная, па калена, трава.

Дадому ён прыгнаў позна, нават маці спыталася, чаму не разам з усімі. Яна ўжо чакала з даёнкаю каля хлява.

Тонік пастаяў пры маме, паслухаў, як недзе ў канцы вёскі крычаць і смяюцца дзеці, і пайшоў пад хату, думаючы, з кім ён сёння будзе забаўляцца, калі ўсе, напэўна, ведаюць, што праз яго немцы застрэлілі Арсенікавага бацьку.

Тонік прыпыніўся каля сенцаў, у хату не хацелася ісці. Ён высунуўся на вуліцу.

— Тонік! — блізка за спінаю крыкнуў Арсенік, і Тонік аж падскочыў. — Чаго ты спалохаўся? — Арсенік быў увесь спацелы і задыханы.

— Я не... — ледзь вымавіў Тонік, адчуваючы, як у яго моцна дрыжыць і стукае сэрца.

— Хадзем да дзяцей.

— Не, я не пайду, я ўдаў твайго бацьку. — У Тоніка раптам пачала макрэць спіна.

— Што ты пляцеш, — Арсенік яшчэ ўсё цяжка дыхаў. — Бацьку майго ўдаў стары Цурусь.

— Не, гэта я, калі быў за старасту. Але ж я не ведаў, што яго застрэляць... — сказаў яшчэ Тонік, адступаючыся на свой надворак.

...Ноччу Тонік захварэў. Ён пачаў стагнаць і кідацца ў сне. Марыля ссунулася з печы, памацала яго лобік — ён гарэў як агнём. Яна намачыла

---

[1] *Грамада́* — тут: агульны статак кароў.

ручнік і прыклала Тоніку да галавы — хлопец крышку паспакайнеў. Усю ноч Марыля сядзела над ім і прыкладала да яго галавы мокры ручнік. Жар у Тоніка пачаў спадаць. Але раніцаю Марыля ўсё роўна палезла на гарышча за гарнікам, там у яе сохла яшчэ ад леташняга года некалькі каліў гэтага зелля, што памагае, як яна ведала, ад усіх хвароб.



**1.** Якім быў Тонік? Што вы можаце сказаць пра яго жыццё? Якія гульні вабілі хлопчыка, як ён бавіў час з вясковымі дзецьмі?
**2.** Раскажыце, як да Тоніка ў хату прыйшлі паліцаі. Як сталася, што ён мусіў дапамагчы няпрошаным гасцям? Ці мог Тонік паступіць інакш?
**3.** Што змянілася ў жыцці хлопчыка пасля яго сустрэчы з паліцаямі? Знайдзіце ў тэксце прыклады з пацвярджэннем сваіх думак.
**4.** Чаму Тонік баяўся і недалюбліваў свайго суседа Сямёна Мокуця?
**5.** Прыгадайце, як Тонік адчуваў сябе, калі зразумеў, што Мокуць можа надоўга знікнуць. Калі да яго прыйшло ўсведамленне сваёй віны? Як гэта характарызуе хлопчыка?
**6.** Раскажыце, чым скончыліся душэўныя пакуты Тоніка.
**7.** Апавяданне падзелена на часткі. Падбярыце загалоўкі да іх. Выкажыце свае меркаванні, чаму твор атрымаў такую назву.
**8.** Абагульніўшы свае веды і ўражанні, падрыхтуйце вуснае паведамленне пра галоўнага героя апавядання.

## ПРА МАСТАЦКІ ВОБРАЗ

Вы ўжо ведаеце, што літаратура — гэта мастацтва слова. У мастацкім творы значныя і яго тэма (жыццёвая з'ява або кола з'яў, пра якія ідзе ў ім размова), і ідэя (абагульненая думка, асноўны сэнс мастацкага твора, тое галоўнае, што хацеў сказаць аўтар). Яны ўвасабляюцца ў мастацкіх вобразах. Самая істотная адметнасць мастацкай літаратуры — вобразнасць. Пісьменніцкае майстэрства здольнае рабіць цуды, уздзейнічаючы на чытачоў праз створаныя ім мастацкія вобразы. Мастацкая літаратура паказвае жыццё ў форме карцін, вобразаў, намаляваных словам.

Што ж такое мастацкі вобраз? Гэта асноўны спосаб паказу жыцця ў літаратуры і мастацтве, карціна, якая выклі́кае ў чытача ўяўленне пра свет вакол нас, пра чалавека і прыроду і абуджае нашы думкі, пачуцці, перажыванні. Такая карціна можа быць узята са свету прыроды, з жыцця чалавека, яна можа паказваць рэчы і прадметы. У літаратурным творы ёсць розныя вобразы: *вобраз-персанаж* (*літаратурны герой*) — вобраз чалавека або жывой істоты, *вобраз аўтара, вобраз-пейзаж* — вобраз прыроды, *вобраз-з'ява*, *вобраз-прадмет*, у лірычных творах — *вобраз-перажыванне*. Усе яны дапамагаюць паказаць чалавечае жыццё.

Аднак не ўсякая карціна жыцця ёсць мастацкі вобраз. Мастацкім вобразам можна лічыць толькі такую карціну, якая адначасова вельмі канкрэтная (паказвае пэўны прадмет ці чалавека) і абагульненая (перадае характэрныя асаблівасці многіх прадметаў, з'яў, людзей), і пры гэтым выклікае ў нас, чытачоў, эмацыянальны водгук — асалоду, захапленне, радасць, здзіўленне, абурэнне, гнеў, роспач...

***Мастацкі вобраз*** — гэта карціна жыцця, створаная пры дапамозе творчага ўяўлення пісьменніка, якая адлюстроўвае яго думкі і пачуцці і эмацыянальна ўздзейнічае на чытача.

Мастацкі вобраз ствараецца з дапамогай творчага ўяўлення, фантазіі, вымыслу аўтара. Выкарыстоўваючы свае жыццёвыя назіранні і ўражанні, пісьменнік з мноства рэальных людскіх характараў, розных і непаўторных, выбірае тыя, якія яго надзвычай уразілі, усхвалявалі, вы́клікалі сімпатыі ці, наадварот, у нечым расчаравалі. І на падставе свайго жыццёвага досведу і ўласнай фантазіі майстар слова малюе вобраз чалавека адпаведна сваім перакананням, дае свайму герою ацэнку з уласнага пункту гледжання. І заахвочвае нас, чытачоў, разважаць, перажываць, хвалявацца разам з героем, успрымаць яго як рэальнага чалавека. Нездарма літаратуру называюць чалавеказнаўствам, мастацтвам стварэння характараў.

Часам у мастацкім творы аповед вядзе аўтар, які адначасова з'яўляецца і літаратурным героем: ён расказвае пра падзеі, у якіх сам браў удзел, малюе герояў, што жылі і дзейнічалі поруч з ім. Узгадайце, напрыклад, творы Генрыха Далідовіча «Страта», Уладзіміра Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі». Але часцей апавядальнікам з'яўляецца чалавек, які нібыта збоку назіраў за жыццёвымі праявамі, чалавечымі ўчынкамі і потым цікава пра іх распавёў, як у апавяданні Вячаслава Адамчыка «Салодкія яблыкі».

У стварэнні мастацкага вобраза асобая роля адводзіцца слову. Па-майстэрску карыстаючыся словам, пісьменнік перадае ход падзей, пачуцці лю-

дзей, фарбы і адценні прыроды. У нашым уяўленні ўзнікаюць яркія вобразы:

І вось надарыцца часамі
Мароз над ўсімі маразамі;
Ідзе сярдзіта, пагражае,
Па даху гонтамі страляе;
У завітушках дым бялявы
Нясе, як воблак кучаравы...
*Якуб Колас*

Нас надзвычай уражвае сваёй меладычнасцю песня жаваранка, якая *расплываецца ў маўклівым паветры звонам тонкага дарагога металу*; мы выразна бачым, як *верасень — запаслівы грыбнік — шчыруе па імшастых баравінах...*



1. Якая самая істотная адметнасць мастацкай літаратуры?
2. Што такое мастацкі вобраз у літаратурным творы?
3. Як ствараецца мастацкі вобраз?
4. Якія мастацкія вобразы сустракаюцца ў літаратурных творах?
5. Дайце характарыстыку вобраза Тоніка з апавядання Вячаслава Адамчыка «Салодкія яблыкі». Звярніце ўвагу на тое, як аўтар малюе знешнасць героя, паказвае яго звычкі і забавы, адносіны з іншымі персанажамі, выяўляе рысы яго характару і пачуцці (праз успрыманне навакольнага свету і людзей, праз учынкі і ўнутраныя перажыванні, асаблівасці маўлення).



# ЗЯМЛЯ МАЯ — ЗЯЛЁНЫ ДОМ

## Пімен ПАНЧАНКА

### САРМАЦКАЕ КАДЗІЛА

Адспявалі трубы залатыя,
Лета захлынулася ў расе.
Кветкі ў лесе ёсць,
Але не тыя:
Да Чырвонай кнігі збеглі ўсе.

Дзе ты, *курослеп лясны*[1]?
Дзе *ворлік*?
Дзе *мядзведжая цыбуля — чарамша*?
Ходзіш, ходзіш —
І пяршыць у горле...
Плач, асірацелая душа.

А калісь было ўсяго надзіва!
Як збяднеў у нас зялёны свет.

---

[1] Адметным шрыфтам (курсівам) у тэксце верша выдзелены зёлкі і расліны, унесеныя ў Чырвоную кнігу.

Дзе знайсці *сармацкае кадзіла*,
*Сон-траву*, і *меч-траву*, і *познацвет*?

Вінаваты ў гэтым не сарматы[1],
Вінаваты ўсе мы: ты і я.
Каб адчуць сцюдзёны водар мяты,
За сто вёрст ляціць мая сям'я.

Душна ад жалезнага прагрэсу:
Дружна падразаем жылы лесу,
Траў і кветак топчам карані,
Ад зялёнай адракаемся радні.

Што ты плачаш па траве і кветках?
Адрадзілі ж мы зуброў, баброў...
Ну, а чорны бусел?
Вельмі рэдкі,
А заўсёды быў з людскіх сяброў.

Многа ліха — ды усюды ціха.
А зямля дакуль будзе цярпець?
А нашчадкам нашым
Чым жа дыхаць? —
Мы ўжо задыхаемся цяпер.

Трэба нам і захады, і меры,
Каб між светлых беларускіх рос
Зноў расцвіў *чаравічок венерын*
І *званочак сіні* ў лесе рос.

?

1. Што так усхвалявала, узрушыла паэта, прымусіла яго ўзяцца за пяро?
2. Каго аўтар лічыць вінаватым у тым, што прырода з кожным годам страчвае свае ба-

[1] *Сарма́ты* — старажытны народ Усходняй Еўропы.

гацці, становіцца бяднейшай? Як пра гэта гаворыцца ў вершы?
3. Як успрымаецца аўтарам *жалезны прагрэс*? Як ён уплывае на прыроду, чаму прымушае *адракацца ад зялёнай радні*?
4. Што, па словах паэта, людзі пакінуць сваім нашчадкам, калі не спыняць знішчэнне прыроды?
5. Як, на думку аўтара, можна выратаваць і захаваць прыродную спадчыну?
6. Услухайцеся ў надзвычай паэтычныя назвы кветак і зёлак, якія, на жаль, ужо занесены ў Чырвоную кнігу нашай краіны. Паразважайце, адкуль і як маглі ўзнікнуць гэтыя назвы.
7. Сфармулюйце асноўную думку (ідэю) верша.
8. Пазнаёмцеся з Чырвонай кнігай. Падрыхтуйце свае прапановы, як зберагчы тыя расліны, якія растуць у вашай мясцовасці. Складзіце невялічкае апавяданне або замалёўку на тэму аховы прыроды, зберажэння яе багаццяў.

## Іван ПТАШНІКАЎ

### АЛЕНІ

*(Скарочана)*

Як толькі пераехалі ў Бярэзавец, Ірка ўбачыла, што на двары восень. А ў вёсцы яе яшчэ не відаць.

Бярэзавец — кіламетра паўтара ад вёскі, ля ракі Бярэзаўкі, што цячэ лугам і ўпадае недалёка за Ліпнікамі ў Вілію. У Бярэзаўцу пачынаецца пушча — Палік. Тут яны жылі да вайны, Ірка

помніць, пасля пераехалі ў вёску. Бацька ў Іркі быў ляснік, і жылі яны ў лесе. Ірчын бацька яшчэ вартаваў і карміў зімою ласёў і аленяў у запаведніку, які быў недалёка ад Бярэзаўца за Высокім Берагам.

Ірка любіла лес, і калі пасля вайны яны зноў пераехалі жыць у Бярэзавец, Ірка была рада. У вайну з Бярэзаўца разбегліся алені і ласі. Бацька казаў, што яны пайшлі Віліяй далёка, аж у Аўгустоўскія лясы, дзе не было гэтулькі партызанскіх лагераў і блакад. Дзе яны — тыя Аўгустоўскія лясы?

У Бярэзаўцу ў вайну немцы спалілі іхнюю хату, астаўся толькі хлеў, які быў недакончаны — без страхі — і не ўзяўся гарэць. З яго цяпер Ірчын бацька склаў хату, нават з чатырма вокнамі. Вокны ён прывёз у вайну з заставы[1], якая была на Высокім Беразе ля Віліі, і схаваў у хляве. Заставу тады ўсе разбіралі — немцы ж усё адно спаляць. Цэлыя ў хляве асталіся толькі два акны; з іх, перарэзаўшы папалам, зрабілі чатыры, і не зусім каб малыя. Ірка праз акно бачыць увесь луг ля Бярэзаўца і нават далёкія Старыя Вольхі, ля якіх рака паварочвае да Віліі, там яна глыбокая і ў ёй — рабыя шчупакі.

Ірка любіла восень. Можа, таму, што ў Бярэзаўцу тады было ціха-ціха. Цішыня плыла недзе адтуль, з Паліка, з пушчы, плыла ракою, гэткай жа ціхай, як і сам Бярэзавец. Рака ніколі не разлівалася і не стагнала, вясной у час паводкі ў ёй толькі падымалася вышэй цёмная вада.

---

[1] *Заста́ва* — тут: месца, дзе стаіць воінскае падраздзяленне, якое ахоўвае дзяржаўную мяжу.

Увосень у Бярэзаўцу рака мялела і рана жаўцелі бярозы, — раслі на балоце. Жаўцелі заўсёды знізу, паволі, не так, як вольхі, якія чакаюць першых маразоў, тады чарнеюць і асыпаюцца за адну ноч.

Цішыня стаяла ўсюды: і ля хаты, і на пасецы[1], і на балоце — з вёскі сюды не далятае ніводнага гуку. Затое тут жыло сваё рэха — дзень і ноч, зіму і лета, асабліва ўвосень.

— Гэ-гэй! — так заўсёды гукаў Ірчын тата, калі адыходзіўся ад дома, так гукала і Ірка. Яе дражніў тады Бярэзавец, рэха плыло на Палік, на вёску, а надвячоркам яно вярталася назад — зноў дражнілася і плыло далёка-далёка, толькі цішэй, — адкуль жа яму набрацца сілы? Ірка ж малая яшчэ, ёй толькі пайшоў дванаццаты, мала што яна рослая, падцягнулася за вайну, затое тонкая. І крычаць яна, мусіць, добра не ўмее — неяк ціхенька і дзярката, і заўсёды тады папярхаецца, бо дзярэ ў горле. Вось каб крыкнуў тата, тады б рэха вярталася ў Бярэзавец не адзін раз, але тата ніколі блізка ля хаты не крычаў і не даваў Ірцы, — каб не палохала аленяў, і так за вайну, якія асталіся, нацярпеліся страху, чалавека сталі баяцца.

Увосень у Бярэзавец злятаюцца сарокі і сіваваронкі. Сарок Ірка не любіла: яны злодзеі і стракочуць без аддухі, лезуць на двор у карытца да парасяці, хоць тады яны і «варожаць на госця», як кажа маці. Нехта ж выдумаў — сарок дык тых хоць ты палкай гані, а гасцей з той пары, як пераехалі ў Бярэзавец, ні разу не было.

---

[1] *Па́сека* — тут: высечаная дзялянка лесу.

Увосень, калі стаіць пагода, шапаціць пад нагамі мох і трава-сівец, гараць сіняватыя хвойкі верасу на пасецы — верас высокі, што трава ў лучках. Па ім поўзаюць мурашкі, вялікія, з крыльцамі, і лётаюць пчолы. Сядзе пчолка на верасовую галінку, калышацца, пасля нахіне яе аж да самай зямлі, абдыме ножкамі, перагнецца ўся, адтапырыць крыльцы і лезе з галоўкай у маленькую кветачку. Пасля застыне, не кранецца, як памерла, — п'е.

З балота ад ракі прылятаюць вялізныя зялёныя стракозы, лапочуць над верасамі сваім доўгім бліскучым крыллем, але пчолы іх не баяцца.

Ірка любіць пчолак: яны збіраюць мёд. А позні мёд — зелле.

На пасецы яшчэ зялёная трава і мох, але пастарэлі ўжо грыбы-лісіцы, пабялелі, пачалі сохнуць. Затое ў Бярэзаўцу — маладыя баравікі: бурыя, цвёрдзенькія і круглыя — як хто іх высеяў у адну ноч. У вайну тут гарэў лес, а яны любяць гарэлае. Маладыя жаўтаватыя апенькі і варушкі абляпілі пні. Іх няшмат: не іхняя яшчэ пара. Далей, пад лагі ў бярэзніку, — чырвоныя падасінавікі і белыя чашчавікі. Маладзенькія, на тоўстым корані і з тоненькай галоўкай, — зусім як напарстак на пальцы. На грыбах — слімакі-смаўжы. Яны — Ірка вычытала — сеюць грыбы. Смаўжоў няма толькі на мухаморах. Ды і на ліха тыя сеяць, атруту. Яны і самі, вунь, аж на двор залезлі. Ля ганка і ля студні пясок рыюць — так растуць. Але дзе мухаморы — там і казлякі. На пясчанай горцы за хатай іх не злічыш. Казлякоў надта не бяруць. Не бяруць і сыраег, яны паразрасталіся на зямлі, як рэшаты...

З бярозамі растуць вольха, асіна і маленькія дубкі. Ім тут сыра, і яны дробныя. У жоўтым бярозавым лісці чырванеюць рабіны і спеюць каліны — іх у Бярэзаўцу шмат. Іх, калі балота ляжа аблогай пад снегам, доўга яшчэ будуць кляваць сарокі і гілі[1]. Але цяпер рабіны горкія, і гілі іх не чапаюць; яны дзяўбуць сасновыя шышкі — на моху, на грыбах-рудзяках панацярушана сухога сасновага насення.

Ёсць яшчэ познія маліны, але пачырванела ўжо мядзведжае вушка і пачалі чарнець ажыны. На ажынніку калючкі і павуцінне. І ягады яшчэ не выспелі.

Найсмачнейшыя цяпер брусніцы — як вінныя яблыкі, не раўня ім маліны. Ірка ўмее збіраць брусніцы. Яны на пасецы растуць шышкамі, як бабок[2] на балоце. Сасмаргнеш шышку — поўная жменя. А ля пнёў іх — як хто ўзяў ды рассыпаў з кошыка.

У імшарах[3] на куп'і — змеі і журавіны. Пахаваліся ў мох. Ірка не так ужо і баіцца змей, але журавіны яшчэ толькі пачалі ружавець. Па іх пазней яна пойдзе з мамай, калі ўжо асыплецца бярэзнік, і пойдзе на ўвесь дзень аж туды, дзе Старыя Вольхі, узяўшы мех. Увечары падыдзе тата: адны не дадуць рады прынесці, — журавіны цяжкія, як бульба.

Калі ў Бярэзаўцу стане ціха-ціха, Ірка чуе тады, як высока ў небе за маленькімі воблачкамі

---

[1] *Гіль* — птушка снягір.

[2] *Бабо́к* — балотная травяністая расліна з сакавітым лісцем.

[3] *Імша́ры* — мохавае балота.

грукае рэактыўны самалёт, за ім ззаду цягнецца белая дарожка. Такія самалёты над Бярэзаўцам сталі лётаць нядаўна. Ірка чуе яшчэ, як за Высокім Берагам гудуць машыны — там леспрамгасаўцы[1] згружаюць лес. Ірцы хочацца на Высокі Бераг, яна там яшчэ не была, але ж мама паслала яе з кошыкам па бабок парасяці, ды і таты няма дома ад раніцы: сышоў у пушчу да сваіх ласёў, а ў каго адпросішся — мама яе ніколі не пускае.

Ірка чуе, як шастае сухая трава ля ракі, як нехта пляскае там на ўвесь рот. Дзікі. Яны прыходзяць з пушчы аж сюды ў бабок.

Шваргочуць у траве дзікія качкі, недзе над галавой дзяцел дзяўбе сухую без верху сасну, — яна аж звініць у цішы. Ля яго ціnode ціннькаюць сініцы, пырхаюць з сучка на сучок, на ляту ловяць пыл і кавалачкі кары.

Да імшар падкралася ліса, падняла рыжы хвост і нюхае мох — чуе мышэй. Пасля, падняўшы хвост, схавалася ў папараці — пачула, як Ірка ішла, і зноў стала ціха-ціха. Сонца вярнула на захад, у небе застылі ружовыя хмары, і на пасеку з балота прынесла халадок.

Загуў над галавою жук, ткнуўся ў шчаку і ўпаў на мох пад ногі. І тады Ірка пачула, як за двума чырвонымі ад смалы карчамі мые лапамі вушы заяц. Пачула, а тады ўгледзела яго, шэрагашэрага. Нацёршы вушы, ён пакруціў мордачкай і паскакаў на горку.

— Зайчо-о... Мылася нанач, во зайчо... — Ірка глядзела, як устае ля пня прымяты мох, як поўза-

---

[1] *Леспрамга́саўцы* — рабочыя лясной прамысловай гаспадаркі.

юць па чырвоных карчах жукі-разакі і мурашкі, хаваючыся ў паточаных дзірках. — Мяне, мусіць, пачула...

Угледзеўшы раптам аленяў, Ірка выпусціла з рук кошык. Мусіць, спалохалася: аленяў яна ніколі не бачыла. Яны ішлі якраз на яе і грукалі нагамі па карэнні.

Іх было чацвёра, і ішлі яны адзін за адным. Пярэдні быў сівы і ў чорныя латы[1]. Вялікі і прыгожы, ён дыбаў, задзёршы галаву. Рогі ў яго ляжалі аж на спіне, як загнуты абруч для вялікага кошыка. За ім ішла бязрогая, мусіць, аленіха, азіраючыся на сваіх, такіх жа бязрогіх, цялят. Яны кіраваліся да ракі і не баяліся Іркі. Толькі, калі пабліжэлі, зафыркалі насамі і хутка схаваліся ў бярэзніку.

— Гэ-гэй!.. — пачула Ірка, як крычыць тата, прыйшоў ужо з Высокага Берага і, мусіць, шукае яе.

Вечарэла. У тым баку, дзе вёска, заходзіла сонца і, здавалася, загарэўся лес. Над ракой, дзе старыя вольхі, засінеў туман, як дымок. Над пасекай нізка праляцелі дзікія качкі — цяжкія, ледзь неслі сябе, — падаліся ў далёкі кут Бярэзаўца, дзе пачынала цямнець.

— Гэ-гэй!.. — неслася па лесе рэха.

Ірка прыклала да шчакі далонь, як рабіў яе тата, і закрычала:

— Гэ-гэй! І-ду-у-у...

Высокі Бераг — застава, і туды да вайны не пускалі. Ды Ірка была тады малая, не дайшла б: да заставы далей, чым да вёскі.

---

[1] *Ла́та* — тут: пляма.

Тут самае высокае месца. Стаіш — як узлезшы на хату, на страху. Недзе ўнізе ў кустах — глыбокая рака, за ёй лог, дзе рудыя стагі, а далей поле, жоўтае на сонцы, аж блішчыць. На ім жнуць жанчыны ў белых хустках і зносяць у кучкі снапы. Некалі там, за ракой, жыла Ксеня, Ірчына цётка, і перад вайной прыходзіла да іх.

Ксеню забілі немцы.

На небе ні хмурынкі; сонца пячэ, як летам; па маладым сосніку на пасецы плыве на белых нітках, як на павуціне, насенне высокай чырвонай травы-рабінкі, што расце ля пнёў.

Пахне сасной, зямлёю і мокрай глінай. Гэта з колішняга пажарышча.

Заставу спалілі паліцэйскія ў сорак першым годзе. Нехта «падаткнуў», што ў ёй хаваецца стары шавец з Даўгінава — Шлёма. Забралі тады і Шлёму — павезлі на машыне.

Цяпер на тым месцы, дзе некалі была вялікая будыніна, парос густы сасняк. Ён вышэйшы за той, што на пасецы, вышэй за Ірку...

Прыгожыя лозы ля ракі ўвосень. Яны — чырвоныя, зялёныя, бурыя, жоўтыя, аж блішчаць на сонцы і цягнуцца лугам далёка-далёка, пакуль не хаваецца за лесам рака. Ірцы хочацца ісці і ісці туды, куды схаваліся лозы, дзе ў далёкай сінечы лясы, яшчэ большыя, чым у іхнім Бярэзаўцу, дзе зусім невядомы свет. І тады яна ўздыхае, папраўляе свае доўгія і тоўстыя чорныя косы, што распляліся на грудзях, выцірае з ілба пот — горача як! — і расшпільвае раскошную[1] матчыну старую кофту.

---

[1] *Раско́шны* — тут: вялікі па памеры.

Як хочацца паплыць туды, дзе Палік, ракою... Не. Ірка не хоча плыць ракою, яна хоча ісці дзень і ноч і ўсё лесам. Яна пойдзе туды некалі з татам.

На Высокі Бераг вядзе пясчаная дарога цераз усю пасеку. На дарозе сляды ад леспрамгасаўскіх машын: яны яшчэ ўчора вазілі на бераг лес, цяпер іх не чуваць. Сёння Ірка, калі ішла на бераг, бачыла на пяску вялікія воўчыя сляды. Воўк перайшоў дарогу. Ваўкоў Ірка, можа, і баіцца, але ж днём воўк не стаіць на адным месцы.

На беразе за дарогай вялікія шліхты[1] бярвення. Адтуль, калі павее вецер, пахне свежай смалой, як ад падсочкі.

«Гэтулькі выразалі... Пасека недзе адна асталася...»

Ірка шкадуе лес і не любіць ні леспрамгасаўцаў з піламі, ні іхніх машын з прычэпамі і печамі, куды шафёры засыпаюць бярозавыя чуркі і перамешваюць іх жалезнымі качэргамі. Не было б іх — не рэзалі б гэтулькі лесу.

Ірка не хоча глядзець шліхты: пара́ дамоў, яе ж ніхто сюды не пускаў.

На дарозе пыл; па жвіры[2] і сасновых шышках колецца ў босыя ногі. Над пасекай смуга, як густы дым, — гэта бывае ад пагоды. Пачынае балець галава — мусіць, ад сонца. Ные пята — пракалола яе недзе на дуддзі[3], а мо і на шкле ля заставы.

Першага выбуху яна не пачула: пасека неяк застагнала сухім рэхам, загрымела і запыліла,

---

[1] *Шлі́хта* — штабель (бярвення).

[2] *Жвір* — буйназярністы жоўты пясок.

[3] *Дуддзё* — сухое, цвёрдае, звычайна пустое ўнутры сцябло якой-небудзь расліны.

схаваўшы з вачэй дарогу. Ірка ўся сціснулася, прыпала аж да зямлі і пабегла, нічога не бачачы.

Ёй раптам успомнілася, як яны ў блакаду з татам беглі так з вёскі ўзлессем па пасецы, дзе былі бульбяныя ямы, а ўсюды рваліся міны. Такі ж ад іх сухі трэск і выбухі, такі ж дым і пыл. Тады яны з татам ледзь праскочылі, тады ў таты на руках забіла маленькую Верачку, яе сястру.

Яна бегла і бегла цяпер па карчах і пяску, не чуючы пад сабою ног, закрываючы вочы, бо па твары секла нечым калючым, мусіць, жвірам, і ад дыму аж блажыла.

Выбухі сціхлі раптоўна, як і пачаліся. Стала зноў ціха-ціха, як заўсёды ў Бярэзаўцу.

Ірка тады апусцілася на халодны, свежы пясок ля неглыбокай ямкі і выцерла вочы. Яны калоліся, мусіць, ад пылу і поту. Суха было на языку.

«Здурнела... — Ірка пачала страсаць пясок з кофты. — Гэта ж леспрамгасаўцы. Карчы дзяруць».

— Адбой, Прахор! Перакурым... — пачула яна і баялася паказацца на вочы мужчынам, што ўдваіх, сагнуўшыся, падымалі з дарогі сякеры і торбачкі...

«Хаця б не сказалі тату... Заб'е».

Трава на пасецы была ўсыпана белым пяском. Валялася тоненькае карэнне ад маладых сасонак, бы яго хто надзёр на кошыкі.

Ірка ўгледзела толькі цяпер каля сябе ямы, як ад мін, і велізарныя, чырвоныя, пашчапаныя сасновыя карчы, што ляжалі на пасецы ля дарогі, як заморанывя ў плузе быкі.

Ірка ўскочыла з зямлі і пабегла саснячком да дарогі; калі і ўбачаць мужчыны — не пазнаюць.

Яна бегла не азіраючыся па разоры ля дарогі, бегла доўга і пачала задыхацца. Тады спыніла-

ся, каб перавесці дух, і ёй здалося, што за ёю нехта бяжыць. Яна пусцілася зноў і, азірнуўшыся ўжо аж на дарозе, ля лужка, дзе драбнеў лес і ад расцяробу пачынаўся бярэзнік, які вёў на балота ў Бярэзавец, убачыла, што ззаду бягуць алені. Бягуць з пасекі, аж чатыры.

Пярэдні быў з рагамі-абручамі, закінутымі на плечы, і ў плямах; заднія трое беглі за ім, збіўшыся ў кучку.

Ірка спынілася — сталі і яны. Дыхалі частачаста, бакі ў іх хадзілі хадуном.

«Пазналі...» — Ірка хацела выставіць руку, але пярэдні, у чорныя латы, адскочыў раптам назад, спалохаўшыся. Тады яна саступіла ім з дарогі, і яны, не зварочваючы, пабеглі ў Бярэзавец.

Больш Ірка не бачыла «сваіх» аленяў аж да зімы.

У Бярэзаўцу на балоце вымерзла вада, лёд пабялеў, патрэскаўся, асыпаўся, і яго выдзьмуў вецер. Чорная трава палегла на груду, высахла і шасцела пад нагамі, як сена.

Стала рака. Вада пад тонкім лёдам была чыстая, і праз яе свіцілася жоўтае глеістае дно. Лес стаяў заінелы, пусты і халодны, як парожняя пуня. Пабялеў, насупіўся, трашчаў — яго даймаў мароз. Каркалі ўдзень над ракой вароны, і стукалі без аддухі па дрэве дзятлы — грэліся. Мароз узяўся і пёк, не адпускаючы: зіма пачалася ранняя. Днём была пагода, ярка свяціла нізкае чырвонае сонца, і аднекуль з чыстага неба сыпаўся сіні іней; ночы стаялі месячныя, ядраныя — была поўня, зоркі дрыжалі і мітусіліся, падалі густа на лес, як іскры з коміна на страху, калі гарыць сажа. Ноччу вылі ваўкі, але далёка-далёка, на самым Палі-

ку; было чуваць, як у вёсцы рыпелі вароты і ляскаталі на грудах калёсы — там не спалі. У небе гулі самалёты; успаміналася тады, як некалі па начах партызаны палілі агні і пераймалі парашуты.

Зніклі з Бярэзаўца звяры — падаліся ў пушчу: там цяплей.

Аднойчы з ночы ўсхадзіўся вецер. Ірка чула, як ён стагнаў у коміне — яна спала на печы, — стукаў у вокны, шастаў па шыбах, як хто вадзіў калючай саломай.

Шумеў лес, трашчалі сосны: здавалася, нехта бегаў па гары. Ірка не спала.

Раніцай яе не хацелі пускаць у школу — мяцеліца. І двор, і дарога, і лес — усё было занесена белым снегам, ад яго балела ў вачах. Ірка дастала з гары самаробныя лыжы. Іх зрабіў у вёсцы тата; яна на іх бегала лепш за ўсіх. Школа ў вёсцы, недалёка; а хіба Ірка збаіцца мяцеліцы? У яе цёплая чорная матчына хустка, старая фуфайка; на нагах буркі, пашытыя з суконак, на бурках — бахілы, склееныя з гумы, і слізкія-слізкія. Кнігі Ірка носіць у пафарбаванай чорнай торбачцы; яе можна перакінуць цераз плячо, калі едзеш на лыжах.

Раніцай у школу трэба выязджаць зацемна, затое вечарам Ірка прыязджала дамоў, калі яшчэ відна. Урокі Ірка робіць хутка: пайшла ў трэці клас, а за вайну ж пасталела, магла б пайсці і ў чацвёрты, ды ў вёсцы чацвёртага няма, трэба ісці аж у Камена — гэта за пяць вёрст. Ірка магла б туды ездзіць на лыжах, але адну не пусціла мама, а налета з вёскі пойдуць яшчэ дзеці.

Пасля ўрокаў Ірка дома карміла парася, але яго на тым тыдні прадалі, нават буракоў усіх не скармілі, ляжаць кошыкі са тры ў парозе пад

ложкам: сабе варыць. Парасяці няма чым карміць. У саміх вунь колькі той бульбы з буракамі. Бацька за парася прывёз з базару жыта. Жыта сушылі, панясуць у вёску малоць у жорны[1]. На вячэру будуць варыць толькі зацірку. Тата гаворыць, што яму не пашанцавала. Думаў, што купяць цялушку на зіму, нават стажок сена назапасіў. Але ж да цялушкі і ўвосень і цяпер на базары было не падступіцца. Тата яшчэ думаў, што яму, можа, удасца забіць ваўка, за шкуру добра плацяць і даюць прэмію, але ж і ваўкі, як на ліха, сышлі з Бярэзаўца. Тата за восень падстрэліў толькі двух зайцоў. Мяса патроху клалі ў булён, які варылі на полудзень. Які з таты паляўнічы? У яго нават сабакі няма. Абы-якога тата не думаў карміць, а дзе дастанеш добрага? Хацеў прывезці раз з раёна, дык жа трэба было аддаць увесь стажок сена. Ліха з ім, з такім сабакам, а сена хай стаіць. Прадасца пад вясну, не прападзе.

Пасля ўрокаў Ірка цяпер хадзіла глядзець, ці цэлы стажок, бо бацька заўважыў раз, што стажок знізу аб’елі, відаць, алені, і абгарадзіў яго. Толькі алені ўсё адно даставалі сена. Ірка бачыла іх сляды...

Сёння Ірка не адразу пабегла на балота — падалася на пасеку. Там яна ставіла петлі на зайцоў. Колькі яна накруціла іх і навязала, і ўсё попусту. Ніводнага не злавіла.

— Дурныя зайцы... — Ірка злуе і цяпер іх ужо зусім не шкадуе. Яна з імі яшчэ справіцца. Вось толькі петлі апу́сціць ніжэй і зробіць боль-

---

[1] *Жо́рны* — ручны млын з двух гладка абчэсаных круглых камянёў, пры дапамозе якіх пераціраюць зерне на муку.

шыя. — Дурное зайчо! І сена яму ў пятлю паклала, а не зачапіла ж. Касое. Не бачыць зусім. Касое і дурное. — Ірка хукае ў пальцы, якія мерзнуць нават у рукавіцах. — Ну і мароз. Нос адкусіць. — Яна пачынае церці свой маленькі чырвоны ад холаду носік. І ў хаце надта не нагрэешся цяпер. Мама, як толькі выпаліць печ, адразу закладае юшку[1]. А ў хаце тады чадна, і ў Іркі баліць галава. Толькі ж маму ніяк не ўпросіш.

— Палілі-палілі цэлы дзень, а цяпер неба будзем грэць? Што? Агонь сіні ў пячурцы? Ліха з ім. Учадзець баішся? На двор пайшла, праветрыся. Зловіш сінюка[2] на нос — не гэта запяеш. Марш на двор!

Мама ніколі не слухала Іркі...

Пачынала цямнець, неба стала густое, чорнае. Нанач браўся мароз, і пад нагамі скрыпеў снег — прасіўся — аж рэха ішло па лесе.

Да стажка яна не хацела ісці. Чаго? Хто яго днём мог крануць? Каму трэба — прыйдзе ноччу. А ноччу ні Ірка, ні тата да стажка не пойдуць. Ночы цяпер звечара цёмныя, хоць вока выкалі, і цямнеецца хутка. Агонь ужо ў хаце запалілі, мігціць праз ельнік.

Яна спынілася, але ёй доўга здавалася, што снег усё скрыпіць пад нагамі. Тады яна ўслухалася: нехта далёка ў лесе стукаў сякерай і недзе рыпеў снег. Мусіць, тата хадзіў сам да стажка... Яна хацела крыкнуць, але перадумала: можа, усё ёй здаецца.

---

[1] *Ю́шка* — металічная накрыўка, якой закладваюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра.

[2] *Злаві́ць сінюка́* — пасінець; тут: адмарозіць нос.

Пасля адышлася далей на балота і пачула, што ля стажка шастае сена.

«Недзе з таго боку. Ад пушчы...»

Яна адышлася яшчэ далей на балота, і тады ўгледзела аленяў. Здалёку яны былі ўсе чорныя і маленькія. Яна пазнала іх і пабегла да стажка. Верхняя жэрдка была скінутая з віткі, а яны стаялі, уткнуўшыся галовамі ў стажок, як цяляты карове пад вымя. Пачуўшы яе, адскочылі, пасталі. Трое. Чацвёрты быў яшчэ ля стажка, стаяў, паклаўшы рогі на спіну. Ён быў увесь у чорныя латкі, іх яшчэ можна было разгледзець. Яны... Яе алені...

Ірка падышла да самага стажка. Рагаты тады павolі вылез з загарадкі і не ўцякаў. Стаялі і другія. Ірка падышла блізка-блізка да яго. Ён кратаў вушамі, выцягнуў да яе шыю і адставіў нагу. З храп у яго ішла пара, і яны былі белыя-белыя — заінелі.

«Холадна яму...» — Ірцы стала яго шкада, шкада і тых маленькіх, што стаялі, прытуліўшыся адзін да аднаго, воддаль.

Яна выцягнула руку. Рагаты панюхаў рукавіцу, лізнуў языком. Тады яна дастала з кішэні акрайчык купленага ў магазіне хлеба — яго сёння прынёс тата — і падала рагатаму. Ён панюхаў яшчэ раз руку, лізнуў цёплым языком за палец, а хлеба не зачапіў.

— Цяля-цяля... — паклікала тады Ірка. — Дурненькі... Гэта ж хлеб...

І другі раз хлеба ён не зачапіў.

Тады яна, выставіўшы руку, пайшла да тых, што былі воддаль. Але тыя крутнуліся і, падняўшы снег, панесліся па балоце. Рагаты дагнаў іх.

Ірка паправіла ў стозе сена і падняла на калкі жэрдку.

— Гэ-гэй!.. — крычаў тата. На ўвесь лес.

...Яна яму нічога не сказала.

Назаўтра алені зноў прыйшлі да стога. Ірка карміла рагатага буракамі, якія ўзяла з сабой з гаршчка з-пад прыпечка. Рагаты браў бурак з рукі вялікімі адтапыранымі губамі і жвакаў, не адкрываючы рот... Галава ў яго была зусім малая, вочы — сівыя, мутныя, поўсць блішчала, гладкая-гладкая, бы яе прычасаў хто. Грудзі ў яго ўсе аб'інелі, — відаць, дыхаў на іх.

Ірка аж здзівілася была: як гэта такія вялікія рогі могуць быць на малой галаве?

Рагаты ад яе ўжо зусім не ўцякаў... Яна гладзіла яго па гарбатым носе, па халодных рагах, нават па шыі — ён стаяў і слухаў.

Алені назаўтра ўпрыцемку зноў былі на балоце.

Аднойчы Ірку не пусцілі да стажка.

— Вучы ўрокі!.. — крыкнуў на яе тата. Ніколі з ім такога не было.

Ірка ўсё роўна вырвалася вечарам на балота, але аленяў не застала. Калі яна вярнулася ў хату, угледзела, як маці ў парозе ў вялікіх новых драўляных начоўках накрывала засланкай кішкі, закасаўшы аж за локці рукавы. Ірка здзівілася: як парася ўсё роўна закалолі... У печы ярка гарэлі смалякі, і на прыпечку стаяла патэльня. За сталом сядзелі яе тата і Язэп з вёскі — рыжы і злосны мужчына.

— Неблагія галавіны, Андрэй... — ківаў ён сваёй вялікай галавой. — Каб жа веданне, што ўдача,

прыхапілі б чаго прамачыць... У вёсцы ёсць. Нясі, баба, з прыпечка, тут астыне...

Угледзеўшы Ірку, ён змоўк, але тата махнуў рукой, і Язэп паклікаў Ірку да стала, даў відэльцы.

— Садзіся з намі і ты, маладая гаспадыня. У такім разе, я табе, Андрэй, скажу, — крануў ён тату за плячо, — усіх за стол...

Тата маўчаў, Ірка вунь як хацела есці: на стале была вараная бульба — яе пасыпалі на абрус — і ў патэльні мяса пахла на ўсю хату.

Ірка ніяк не магла даўмецца, пра што гаварылі: думала ўсё, чаму не прыйшлі сёння алені. І калі Язэп, панюхаўшы відэльцы, сказаў: «Лясное лесам і пахне», — яна спытала ціха, як сама ў сябе, але яе пачулі, бо ўсе раптам павярнулі галовы...

— Дзе ўзялі?

За сталом ніхто не крануўся, як застылі.

— Дзе ўзялі? Не буду есці! Не зачаплю... — Яна ўскочыла, адсунула лаўку і выбегла з-за стала.

Маці дагнала яе ля печы.

— Паскудніца. Яна не будзе! Дзеля яе дзень і ноч стараюцца, дзеля яе на ўсё... дзеля яе... а яна... Ану, марш на печ! Я з табой пагавару, пачакай, хай чужы чалавек з хаты пойдзе. Вырасла... Капрызы... Не ўгадзілі ёй, не з таго боку падышлі, скажы ты... Я з табой, шчаня...

— Не трэба, Верка... Крык тут лішні. Яна ж не ведае, што Язэп купіў нам бычка... За сена вытаргаваў. А яна чорт ведае што падумала. Расце нейкая далікатная. Тое ёй не так, тое не гэтак. І-ірка! Доўга цябе будзем клікаць? Не зважай, Язэп... Бывае...

Ірцы раптам стала балюча і чагосьці шкада; яна залезла на печ у куток і не стрымалася — заплакала.

— Кінь хныкаць, нябітая!.. — крычала на яе з-за стала мама, пасля Ірка суцішылася і задумалася: «Чаму не прыйшлі алені?»

— Супакоілася. Заснула. Нічога, пасля павячэрае, не зважай надта, сусед, — чула яна, як упрошваў Язэпа тата. Пасля яна пачула, як зашаптаў Язэп:

— А шкуру ты, Андрэй, — пад лёд. Пад лёд яе, сам ведаеш, усё бывае. А я ў вёсцы буду слухаць...

— Язэп, праз цябе, Язэп. І ты ведаеш, чым гэта пахне. Адзін бы я... ніколі ў свеце. Першы і апошні раз. Калі ж у хаце посніца[1]. І то, каб не ты, ніколі б я не зачапіў. Першы і апошні...

— Ну, запеў. Хто іх лічыў пасля вайны? Бегаюць па лесе, і ўсё. А шкуру... — Язэп зноў пачаў шаптаць.

Ірынка засынала. Яна чула, але не ведала, пра што гавораць.

І назаўтра яе алені не прыйшлі. Не прыйшлі яны і праз дзень. Ірка больш не магла чакаць...

Балота прысыпана снегам, на снезе — жоўтая карыца ад сасны, яе прынесла сюды з бору ветрам; дробнае жоўтае яловае шыллё, зялёны ў клубочак мох-паўзун — яго прыкаціла па шэрані. На курганні снег, пад ім старая, сухая і пруткая балотная мятліца і хвошч — яны вытыркаюцца, і па іх цяжка ісці на лыжах. Спатыкаешся, не памагаюць і кійкі.

Баляць ногі: Ірка прыбегла са школы і, не распранаючыся, нават добра не пад'еўшы, схапіла ў

[1] *По́сніца* — посная ежа, нішчымніца.

сенечках лыжы. Як добра, што дома нікога не было. Бацька ў пушчы, маці, мусіць, пайшла ў вёску.

Ірка прабегла на лыжах усю пасеку, але нічога не знайшла. Учора ноччу валіў снег, пазамятаў усё на свеце, добра, што сёння хоць перастаў. Але ж зноў узяўся мароз: там, дзе заходзіць сонца, — чырвонае неба і ўгары раз'ехаліся хмары. Яны цяжкія, густыя і цёмныя. І нізкія-нізкія, за сосны чапляюцца. Холадна ў пальцы: настыла дрэва, — Ірка часта бярэ кійкі пад паху і тады бяжыць па снезе, хукаючы ў рукі. Заінелі вейкі, не чуваць шчок, пякло, цяпер перастала; добра, што яна надзела бацькаву старую вушанку — хоць не холадна ў вушы.

Ірка часта спыняецца ля рэчкі, прыкладае да шчакі руку і крычыць на ўвесь лес:

— Цяля-а... Цяля-а... Цяляты мае, цяляты... «Я-я-а» — дражніцца з Паліка рэха, глухое, далёкае.

Ірка баіцца крычаць — яшчэ пачуе тата. Але ціха. Нехта ля вёскі стукае сякерай; каркае ля стажка на калку варона; дзяцел над галавой стукае ў гнілую сасну, як у сухую шчапу. Ага. Вунь ён, варочае галавой з боку на бок і дзяўбе, як усё адно цясляр высякае ў бервяне паз. На Высокім Беразе, бывае, гудзе трактар, калі адтуль зойдзе вецер, і зноў робіцца ціха.

— Цяля... Цяля-а... — Ірка ідзе ля ракі, яна пойдзе аж туды, дзе старыя чорныя вольхі, пад Ліпнікі; не страх, калі і сцямнее. Яна ведала, што алені ходзяць да вады, яна ўбачыць іх. Яна ведае яшчэ, што ў запаведніку іх няма, казаў тата, не мог жа іх хто злавіць і заперці ў загарадку. А мо-

жа, яны маразамі сышлі ў Аўгустоўскія лясы? Але ж няўжо ім тут было блага?..

Чым далей ад дому, тым меней гілёў са сваімі чырвонымі грудкамі, не пырхаюць з куста на куст. Затое пад зялёным пад'ялоўцам, дзе сухая трава-сівец, і ў лазовых кустах — сляды зайцоў. Адзін, з вялікімі лапамі, гайсаў па балоце і згрызаў галоўкі сухой травы, з якіх на снег высыпалася насенне...

Цямнелася. Ірцы хацелася плакаць, хацелася вярнуцца дамоў. Яна доўга стаяла, пачынаючы мерзнуць. Падгіналіся разамлелыя ногі, — тады хацелася сесці; марыў сон. І тады яна неяк знянацку ўбачыла аленяў. Глядзела на іх і не верыла.

— Мае алені... Цяля, цяля-а... — паклікала яна і хацела ўжо бегчы, але сумелася.

Алені выйшлі з расцяробу, што вёў з пасекі ад Высокага Берага, і падаліся ўзлессем пад Старыя Вольхі. Іх было толькі трое. За бязрогай маці, відаць, бегла двое малых. Дзе ж рагаты?

Ірка стаяла і доўга клікала яго, пасля пусцілася следам за імі. Яны ўбачылі яе і сталі ўцякаць. Яна тады зноў пачала іх клікаць. Яны выбеглі цяпер на балота і пусціліся берагам ля ракі. Часам Ірцы здавалася, што яны спыніліся і чакаюць яе; яна тады забывалася, што цяжка дыхаць бегучы, што баляць у каленях ногі, што трэба было адшпіліць ля шыі гузік — ён вунь як душыць, і бегла, бегла. Ля кустоў, трапіўся глыбокі снег, грузлі лыжы, правальваліся кійкі аж недзе на той свет — яна зноў узяла іх пад паху.

Алені беглі адзін за адным, як і кожны вечар. Яе алені. Але дзе ж рагаты? Ён зараз выскачыць

ім напярэймы, заверне і пагоніць назад, у самы кут Бярэзаўца, дзе стажок... Хутчэй бы ён выбег. Ірка не можа так спяшацца — задыхаецца.

Цямнелася хутка. У небе запаліліся зоркі, нейкія дрыготкія-дрыготкія і — зялёныя. Алені ўжо зліваліся ў адну цёмную пляму, стаялі на адным месцы, як куст, пасля разбягаліся і зноў беглі адзін за адным.

Тады Ірка зноў клікала. Яна баялася, каб не згубіць аленяў, бо згубіш — прапала. Яны збягуць. Збягуць у Аўгустоўскія лясы. А можа, рагаты збег ужо туды, кінуўшы сваіх? Не. Рагаты — добры, ён не збяжыць, ён вось зараз выскачыць ім напярэймы. Толькі чым Ірка тады пакорміць яго?

Ёй часам здавалася, што ён сам бяжыць наперадзе, уцякае ад яе. Яна тады спынялася і клікала яго — моцна, на ўсе грудзі. Не. Іх было толькі трое, і яны вунь як блізка ад яе. Яна дагоніць, ёй бы толькі дагнаць, а там яна заверне іх сама ў Бярэзавец. Але ж не слухаюць яны яе.

Ірка хрыпла і не магла больш крычаць. Горка стала ў роце. Чамусьці неба пачало рабіцца зялёным-зялёным. Гэта зоркі... «Вунь ужо Старыя Вольхі. Гэта ж далёка ад дому», — думае Ірка.

Ірка пачула, як яе нешта душыць, сціскаючы горла. Пракляты гузік, не адшпіліла. Ірка выпусціла кійкі і хацела зняць з галавы шапку, каб можна было адвязаць рагі ў хустцы. Але рукі не слухаліся... Падвярнула раптам пад грудзі і моцна-моцна стукнула ў галаву.

Па полі бегалі зялёныя алені.

Ірка, знямоглая, упала на снег...

Ноччу, калі ўжо ўзышоў вялізны месяц, Ірку знайшоў тата. Ён прыйшоў у Старыя Вольхі па

следзе, пазнаў лыжы. Ірка была жывая. Прынёсшы перад сабой дадому, ён доўга адціраў яе снегам.

Усю ноч Ірка кідалася спрасоння — гарачая, не падступіцца, — клікала сваіх аленяў.

Назаўтра раніцай Андрэй пабег у вёску, каб паехаць па доктара.

У Іркі было запаленне лёгкіх.



1. Калі адбываецца дзеянне ў творы? Што гэта быў за час?
2. Якой вы ўяўляеце дзяўчынку Ірку? Чым так вабіць яе прырода? Раскажыце пра свет яе захапленняў.
3. Прыгадайце эпізод сустрэчы з аленямі. За што палюбіла іх Ірка? Як дапамагала яна рагатаму і яго сям'і ратавацца ад голаду?
4. Якія душэўныя якасці дзяўчынкі праявіліся ў адносінах да аленяў?
5. Што здарылася з рагатым? Чаму так няёмка адчуваў сябе перад Іркай бацька? Ці ёсць апраўданне яго ўчынку?
6. Якімі паказаны адносіны Іркі з маці? Чаму, на вашу думку, жанчына не разумела сваю дачку?
7. Прасачыце, як паказвае пісьменнік перажыванні дзяўчынкі. Якімі сродкамі перадае яе стан у крытычнай сітуацыі?
8. Чаму з дзяўчынкай здарылася бяда і хто вінаваты ў гэтым?
9. Якое месца займаюць малюнкі прыроды ў характарыстыцы персанажаў? Прывядзіце прыклады з тэксту.

10. Хто з герояў твора вам не спадабаўся? Чаму?
11. Якую галоўную думку выказаў пісьменнік у сваім творы? Ці блізкая вам яго пазіцыя?
12. Падзяліце твор на часткі, дайце назву кожнай з іх. Падрыхтуйце сціслы план апавядання, выкарыстайце яго для вольнага пераказу (як запомнілася).
13. Разгледзьце на форзацы падручніка рэпрадукцыю карціны Галіны Шапялевіч «У пушчы». Якім паўстае свет прыроды на мастацкім палатне? Што сугучнае ва ўспрыманні жыцця пушчы мастаком і пісьменнікам? Якія радкі тэксту найбольш адпавядаюць сюжэту карціны Галіны Шапялевіч?

## ПРА КАМПАЗІЦЫЮ

Майстэрства пісьменніка праяўляецца не толькі ў выбары жыццёва значнай тэмы, але і ў расстаноўцы галоўных і другарадных персанажаў, у тым, у якой паслядоўнасці будзе расказана пра розныя падзеі, учынкі герояў, будуць апісаны іх разважанні і перажыванні. Вы ўжо ведаеце, што сюжэт — гэта ланцужок падзей у мастацкім творы. Сюжэт не ахоплівае ўвесь тэкст, таму што ў творы ёсць і пазасюжэтныя элементы: пейзажныя замалёўкі, аўтарскія (лірычныя) адступленні. Мастацкі твор — непадзельнае цэлае, усе яго часткі (апісанні, эпізоды, сцэны, дыялогі, маналогі) размешчаны ў пэўным парадку.

***Кампазіцыя*** — уся складаная будова твора, размяшчэнне і спалучэнне ўсіх яго частак, раздзелаў, эпізодаў, сцэн.

Гаворачы пра кампазіцыю, трэба мець на ўвазе наступныя моманты: у якой паслядоўнасці паказваецца дзеянне, як развіваецца сюжэт твора, як размяшчае аўтар вобразы герояў, якімі сродкамі карыстаецца пры абмалёўцы вобразаў, якія спосабы раскрыцця зместу (аўтарскі аповед, дыялог, апісанне) выкарыстоўвае і, галоўнае, як усё гэта служыць выяўленню ідэйнага зместу твора. Падзеі ў ім часта падаюцца ў такой паслядоўнасці, як яны маглі б адбывацца ў жыцці. Такую кампазіцыю вы назіралі ў апавяданнях Якуба Коласа «У старых дубах», Генрыха Далідовіча «Страта», Анатоля Кудраўца «Цітаўкі», Алены Васілевіч «Сябры» і многіх іншых творах. Але часам пісьменнік свядома «парушае» звыклы парадак падзей і пачынае твор, як кажуць, «з канца» або з самага напружанага моманту, а часам — з апісанняў ці так званых лірычных адступленняў.

Прыгадаем апавяданне Міхася Лынькова «Васількі». Міколка вяртаецца з лесу і з жахам заўважае ў двары каля хаты забітых немцамі маці і маленькую сястрычку. Ён вырашае адпомсціць ворагам за злачынства. Хлопчык бярэ ў схованцы гранату, ідзе ў мястэчка, куды паехалі ворагі. Там ён узрывае аўтобус, у якім ехалі забойцы. Але і сам гіне.

Надзвычай балючае, шчымлівае пачуццё тугі і роспачы па заўчасна абарваным жыцці хлопчыка доўга не пакідае чытачоў, бо сама па сабе тэма твора не можа не ўсхваляваць кожнага. Аднак дасягнуць такога надзвычай моцнага трагічнага эфекту дапамагае і будова апавядання. Калі б аўтар, напрыклад, пачаў твор з апісання прыезду ў вёску немцаў, то чытач быў бы ўжо пэўным чынам падрыхтаваны да ўспрымання трагічных па-

дзей: хіба можна чакаць ад фашыстаў дабрыні і спачування?! Пісьменнік жа пайшоў іншым шляхам. Уражанне ад расказаных падзей, само па сабе вельмі моцнае, яшчэ ўзмацняецца ад таго, што твор пачынаецца з апісання цудоўнага жнівеньскага дня. Аўтар паказаў бесклапотную чародку хлопцаў, што вярталіся з лесу, і сярод іх — шчаслівага Міколку з паўнюткім кошыкам баравікоў і букецікам цудоўных васількоў для маленькай сястрычкі. Міхась Лынькоў вырашыў пабудаваць твор на кантрасце настрою, душэўнага стану героя: спачатку радасць, бесклапотнасць, і раптам — бязмежнае, ні з чым не параўнальнае і непапраўнае гора.

Невыпадковы і фінал апавядання. Каб узмацніць пачуццё болю і роспачы ад трагічнай смерці дзіцяці, пісьменнік звяртае ўвагу на раструшчаны салдацкім ботам школьны пенал і выпаўшыя з-за пазухі Міколкі васількі, з якімі аўтар параўноўвае вочы забітага хлопчыка: *Сінімі васількамі адцвіталі і вочы хлопчыка*.

Кампазіцыя мастацкага твора залежыць ад задумы аўтара і абумоўлена жыццёвым матэрыялам — тым, пра што пісьменнік збіраецца расказаць, да якіх высноў падвесці чытача, якія думкі і пачуцці ў яго выклікаць.

Кампазіцыя таксама залежыць ад жанру (віду, формы) літаратурнага твора. Больш простую кампазіцыю маюць верш, апавяданне. Суадносіны паміж часткамі, эпізодамі, сцэнамі, элементамі больш складаныя ў аповесці, дзе шмат падзей, герояў, дзеянне расцягнутае ў часе, месца дзеяння неаднаразова змяняецца і сам твор мае значна больш аб'ём.

**?**

1. У чым, на вашу думку, праяўляецца майстэрства пісьменніка?
2. Што такое кампазіцыя літаратурнага твора?
3. Ад чаго залежыць будова твора?
4. Прыгадайце адзін з прачытаных твораў і прааналізуйце яго кампазіцыю.

## Алесь ЖУК

### СТАРЫ БАБЁР

*(Урывак з аповесці*
*«Паляванне на Апошняга Жураўля»)*

Стары бабёр выправіўся ў дарогу цёмначы. Толькі недзе далёка на ўсходзе крыху абазначылася светласць на небе, але была яшчэ ноч, кароткая, летняя. Над вадою слаўся туманок, рэдкі, празрысты, які знікне адразу, як толькі прагляне сонца. Стары бабёр ціха, не плюскануў, выйшаў з-пад вады недалёка ад свае хаты, доўга прыслухоўваўся, паволі падгрэбваючы да невялікага астраўка. Вылез на яго, сядзеў, прыслухоўваўся і прыглядаўся.

Недалёка сонна крыкнула вадзяная курка, зашалпаталася ў траве, ціха, як незадаволена, адазвалася на яе крык за трыснягом[1] крыжанка[2], і зноў усё супакоілася.

Стары бабёр яшчэ раз азірнуўся на хатку, сышоў з астраўка і паплыў, нячутна, толькі лёгка разыходзілася па вадзе хваля.

---

[1] *Трыснёг* — вадзяная ці балотная шматгадовая расліна сямейства злакаў з каленчатым цвёрдым сцяблом і раскідзістай мяцёлкай.

[2] *Крыжа́нка* — дзікая качка.

Плыў да самага берага, дзе пачыналася тупкае[1] і куды яны, бабры, не любілі выходзіць. У іхняй калоніі былі накапаны норы, было забалочана, і туды ніхто не мог дабрацца. Тут быў чысты бераг, палоска адкрытае вады.

Стары бабёр доўга стаяў на месцы, прыслухоўваўся, потым усё ж быццам пераступіў мяжу, вылез на бераг, прысеў.

Тут віўся маленькі ручаёк. Выцякаў ён з крыніц за кіламетры два адсюль, з-пад двух вялікіх, як горы, узгоркаў. На адным з іх стаяў стары панскі будынак. Цяпер яго было цяжка пазнаваць. Ён даўно перароблены пад школу. Некалі ў лагу ляжалі вялікія сажалкі[2]. Цяпер яны зараслі трыснягом, чаротам, але з іх выцякала вада, бегла ручаём, які пакрысе большаў і які заставілі плаціною невялічкага заводзіка, дзе рабілі газіраваную ваду. Нявычышчанае азерца густа зарасло трыснягом, толькі перад самаю плацінаю, на глыбейшым, быў плёс[3]. А далей, дзе ручаёк рабіў завоіны[4], у балотнай лагчыне, парослай алешнікам, яшчэ адну плаціну даўным-даўно паставілі бабры. Там, дзе яны забалоцілі сабе месца, і жыла іх невялікая калонія. З аднаго боку ад рэчачкі стаяў на ўзгорку бор, пад ім хат з пяць маленькае вёсачкі. І гэты заводзік. Тут мала хто хадзіў, мала хто ездзіў, і яны жылі спакойна, без клопату. Хапала на іх і лазы, і карэньчыкаў, і травы. Тут была іх маленькая радзіма.

---

[1] *Ту́пкае* — тут: цвёрдая, утаптаная зямля.

[2] *Са́жалка* — штучны вадаём.

[3] *Плёс* — шырокі ціхі ўчастак ракі.

[4] *Аво́іна* — невялікая затока.

Але стары бабёр ведаў, што сюды яны прыйшлі. Прыйшлі з вялікае, прасторнае рэчкі, не раўня гэтаму раўчуку, які праз пяць кіламетраў прападае ў чыстым полі.

Сюды паўз лес, па глыбокай лагчыне, якою ўвесну, як на рацэ, шумела расталая вада, была дарога да вялікае рэчкі, дзе жылі спрадвеку вольна і неабсяжна бабры. Стары бабёр памятаў і ведаў гэта. Цяпер ён сабраўся пайсці туды. Ён шукаў дарогу да свайго прасторнага спрадвечнага пасялення.

Ісці трэба было цяпер. Стары бабёр адчуваў, што трэба ісці не пазней, чым гэтым летам. Бо пазней невядома ці астанецца ў яго сілы, каб прывесці туды маладую сваю сям'ю, пабудавацца і пакінуць іх там, на спрадвечным месцы. А зрабіць гэта можа толькі ён адзін, бо ён памятае пра тое, што яму расказвалі старыя бабры, яго бацькі, і толькі ён адзін можа знайсці дарогу.

Дарогу гэту яму трэба цяпер пазнаць, пазнаць тое месца, пра якое яму расказвалі старыя бабры, дзе было гэтак прасторна і адкуль іх выгналі вялікія машыны, якія не пакінулі на рацэ ні прысадаў, ні травы, ні самой глыбокай ракі. Тады яны пакінулі сваю радзіму. І ўвесь час яны расказвалі пра яе. І стары бабёр памятаў іх расказы. Стары бабёр хацеў вярнуцца назад, туды, дзе было гэтак вольна і шчасліва. А там, дзе вольна, здавалася, што і сіла будзе другая, і другое будзе здароўе, і там ён будзе жыць вечна.

Стары бабёр ішоў павольна, сапраўды старэчаю хадою, бо хадзіць бабры не любяць і не ўмеюць.

Стары бабёр выйшаў нарэшце з поплаву, укуп'елага невысокімі купінамі, якія парастоптвалі ча-

роды кароў, што каторы год пасвіліся тут. За поплавам пачыналася ворная зямля. Поле. Пераступаючы палявую мяжу, стары бабёр азірнуўся — ён быццам пераступаў у новы свет, чужы, з якога невядома, ці можна будзе вярнуцца. За ўсё жыццё стары бабёр нікуды далёка не хадзіў, тым больш не выходзіў у чыстае поле, з аднаго боку якога стаяў пахмуры ранішні лес. Яго аднолькава палохаў і лес сваёй дрымучасцю і непрыступнасцю, невядомасцю таго, што хавалася там, у яго прыцемненых шатах. Палохала і поле — сваёй адкрытасцю, раўнатою, на якой нідзе няма вады, і таму схавацца яму, калі што, не будзе дзе.

Поле, на якое выйшаў стары бабёр, было засеяна лубінам. Густы, як дрот, калючы зялёнымі струкамі, ён як знарок заблытваў падарожніка, калоўся. І тое, што спачатку нырнуў у лубін, як у ваду, цяпер не цешыла бабра. Цяпер ён зразумеў, што ў яго не стане сілы прабівацца скрозь гэты зараснік. Трэба было выходзіць з лагчыны да лесу, на горку. Але ён ведаў, што выходзіць туды небяспечна. Трэба ісці логам. І ён ішоў, пакуль неспадзявана не спатыкнуўся ў вымыты дажджавою вадою раўчук. Вада некалі прайшла тут нахабна, злажыла па дарозе лубін, намыла на яго пяску і пакінула пасярод поля, па лагчыне, пакручастую дарогу-прамыіну, над якою сыходзілася зялёнае поле.

Стары бабёр з палёгкаю ўздыхнуў — след вады не абмане, прывядзе да вады. Даўным-даўно, мабыць, тут, дзе гэта лагчына, цякла вялікая рэчка... Але гэта так даўно было, што памятае пра той час, мабыць, адна толькі зямля, больш ніхто не памятае...

У зялёным лубянішчы бабру здалося, што ён плыве ў зялёнай вадзе тае, даўняе рэчкі і што яна прывядзе да вольнага спрадвечнага месца. Ён ішоў, упарта, цвёрда.

З-за цёмнага лесу пырснула першым праменем ранняе летняе сонца...

...Стары бабёр з палёгкаю нырнуў пад густыя шаты алешніку, адкуль чутна была вада, знаёмы пах вільгаці. Тут, у зарасніку травы, крапівы і на макрэйшых месцах сітнягу, пачыналі сачыцца крыніцы. Бабёр ішоў паволі: дарога была закідана ламаччам, гразкая, і па тым тоненькім ручайку, які пракладвалі сабе крыніцы, нельга было яшчэ плысці. Але адыходзіць ад вады ён не мог: стары бабёр чуў, што побач вёска.

Неўзабаве алешнік парадзеў, сталі пападацца на дарозе сухія алешыны, і стары бабёр разумеў, што тут часта стаіць высокая вада. І зусім нечакана, яшчэ ў алешніку, перад ім пачалася вузкая, метры на паўтары, палоска чыстае вады, над якой нахілялася асака.

Стары бабёр амаль подбегам кінуўся да вады, ад радасці забыўшыся пра асцярогу, нырнуў, быццам не верыў, што скончылася яго сухая дарога. Амаль з цэлую хвіліну ён плюхаўся, даваў нырца, нават фыркаў, так, што адплыліся далей ад канавы ў зараснік травы і вастралісту са сваім вывадкам качкі.

Толькі калі нацешыўся, стары бабёр спахапіўся і ціха, так, што нават не аставалася на вадзе следу, паплыў на агледзіны возера.

Яно было невялікае. Стары бабёр спачатку абплыў, агледзеў азерца — адзіны таемны выхад з яго быў толькі ў крыніцу, па той канаве, з якое ён

увайшоў у возера. Толькі адтуль і можна было сплавіць крыху дрэў.

Пасля агляду стары бабёр ужо ведаў, што ў возеры нямала жыве андатры.

* * *

Стары бабёр пакарміўся карэннем рагозу[1], травы, перачакаў, пакуль доўга — аж за абед перавaліла — купалася чародка хлапчукоў і купала прыведзенага з імі белага сабачку, які баяўся вады і адчайна, колькі ставала сілы, звінеў брэхам. Потым прыехаў на матацыкле чалавек і доўга хадзіў па грэблі, шлёгаў спінінгам па вадзе.

Гэты плёскат, шум, брэх, якія так моцна ішлі па вадзе, былі чутны з вёскі, турбавалі старога бабра, не давалі яму супакоіцца. Хаця і пакарміўся, выплаваўся ў вадзе, крыху адпачыў, ён адчуваў сябе тут усё ж няўтульна ў гэтым шумным суседстве.

Пасля абеду стары бабёр перайшоў грэблю і падаўся далей па крыніцы. Яна была яшчэ шырэйшая, пахла халодным, крынічным, жалезнаю рудою. Потым павузела, пацякла новаю вузкаватаю канаваю, над якой раслі роўныя і стройныя алешыны. Тут было далей ад вёскі, ціха, з аднаго боку ішло поле, з другога была пасеяна трава.

Стары бабёр спяшаўся ўслед за вадою. Яна нечакана вывела яго да лагчыны, парослай кустамі лазняку. У гэтай лагчыне і канчалася крыніца. За лагчынаю яна ручайком упадала ў роўна выкапа-

---

[1] *Рагóз (рагóзнік)* — шматгадовая травяністая балотная расліна.

ную, ужо старую, парослую па берагах лебядою і высокім, аж чырванаватым, драсёнам[1] канаву.

Над самаю вадою ў канаве густа сышлася трава. Стары бабёр пайшоў услед і за гэтаю вадою. Па дарозе ён спалохаў чародку курапатак, якія карміліся ў зарасніках лебяды, крапівы і драсёну.

Па гэтай канаве стары бабёр дайшоў да большай, з зарослымі травою берагамі. Канава была крышку шырэйшая, таму стары бабёр апусціўся ў ваду і паплыў насустрач халоднай плыні.

Выйшаў ён з канавы на бераг там, дзе агледзеў купчастыя зараснікі лазняку. Там ён знайшоў на запруджанай паводкаю канаве многа трыснягу, рагозніку і травы. Непадалёку дзічалі некалішнія кар'еры, у якіх капалі торф.

На гэтай канаве і пераначаваў стары бабёр. Назаўтра ён яшчэ раз абышоў і абгледзеў усё навокал, пасля гэтага сабраўся і тою ж самаю дарогаю пайшоў назад... Вярнуўся дадому і прывёў сюды маладых баброў.

?

**1.** Вы прачыталі твор, у якім галоўны персанаж — стары бабёр. Як паказвае аўтар гэтага героя? Якія якасці раскрывае праз яго паводзіны? Каго нагадаў вам бабёр?

**2.** Пісьменнік надзвычай ярка, вобразна, пераканальна абмаляваў характар клапатлівага гаспадара бабровага сямейства, яго трывогу, перажыванні і адказнасць за будучыню сям'і. Дакажыце на прыкладах з тэксту,

[1] *Драсён* — травяністая, звычайна аднагадовая расліна сямейства грэчкавых.

што пісьменнік — глыбокі знаўца жывой прыроды.

3. Якім паказвае пісьменнік жыццё бабрынай сям'і? Знайдзіце апісанне малой радзімы бабровай калоніі і выразна прачытайце ўголас гэты тэкст.
4. Чым не задавальняла баброў іх жытло? Якая небяспека ім пагражала? Што прымусіла старога бабра выправіцца ў далёкую і рызыкоўную вандроўку?
5. Якія даўнія ўспаміны цешылі бабра, рабілі небяспечную дарогу неабходнай і жаданай? Пракаменціруйце радкі: *Стары бабёр хацеў вярнуцца назад, туды, дзе было так вольна і шчасліва. А там, дзе вольна, здавалася, што і сіла будзе другая, і другое будзе здароўе, і там ён будзе жыць вечна.*
6. Хто вінаваты ў тым, што не стала ў жыцці баброў спакою? Як пра гэта гаворыцца ў творы?
7. Якое выйсце знайшоў стары бабёр для сваёй сям'і? Знайдзіце і зачытайце адпаведныя радкі.
8. Якія выяўленчыя сродкі мовы выкарыстаў аўтар, каб карціны прыроды атрымаліся жывымі, выразнымі, натуральнымі?
9. Перачытайце пейзажныя замалёўкі, якія вас найбольш уразілі, якія вам спадабаліся. Пастарайцеся ўзнавіць гэтыя карціны ў сваім уяўленні і намаляваць адну з іх.
10. Паспрабуйце вызначыць тэму і асноўную думку гэтага твора.

## Янка МАЎР

### БАГІРА

Вы, вядома, чулі гэтае імя. Пэўна, ведаеце чорную пантэру, прыяцельку Маўглі.

Але цяпер гутарка будзе ісці хоць і пра дальнюю сваячку, але ўсё ж такі не пра пантэру, а пра кошку. Звычайную кошку, толькі, вядома, чорную і, мусіць, не менш разумную, як тая Багіра.

Трапіла яна да нас самым незвычайным чынам. Раз у марозны веснавы вечар, досыць позна, вярталіся мы з дачкой дахаты. Жылі тады на ўскраіне горада. Людзей хадзіла мала. Свяціў месяц, хрумсталі падмерзлыя лужыны.

І вось тут прычапілася да нас чорная кошка, жаласна мяўкае, трэцца каля ног. А як толькі мы спынімся, яна, азіраючыся, ідзе назад. Пойдзем мы далей — яна зноў даганяе нас, крычыць, блытаецца між ног, забягае наперад, нібы не пускае ісці ў той бок. Справа ясная: яна хоча, каб мы пайшлі з ёю кудысьці назад. Нічога не зробіш: калі яна так выразна і настойліва патрабуе — трэба ісці.

Як толькі мы зрабілі пару крокаў назад, яна ўзрадавалася, шпарка паскакала ў той бок і знікла. Што яна: жартуе з намі? Мы сталі. Тады кошка зноў з'явілася і зноў пачала мяўкаць і церціся. Мы зноў пайшлі за ёю — і зноў яна пабегла наперад, мяўкаючы здалёк.

Тым часам на бліжэйшым двары забрахаў сабака і кінуўся ў наш бок. Але тут раздаўся такі сык, так люта накінулася на яго кошка, што бедны сабака з жаласным скавытаннем паляцеў як

мага далей. А кошка выбегла на тратуар і хуценька скруцілася на зямлі.

Калі мы падышлі бліжэй, то ўбачылі, што яна абкруцілася вакол кацяняці. Адкуль яно ўзялося? Мы толькі што ішлі па гэтым самым месцы — і нічога на тратуары не мелася. Значыцца, кацянё спачатку было недзе схаванае, мусіць, за плотам. Калі кошка ўбачыла нас, то парашыла звярнуцца па дапамогу, спыніла нас, прымусіла павярнуць назад, а сама тым часам вынесла на дарогу сваё дзіця ды яшчэ паспела прагнаць сабаку. Разам з тым яна не забывалася, што кацянятка толькі што нарадзілася і не павінна было мерзнуць на холадзе... І вось кошка нават на тую хвілінку, пакуль мы падыходзілі, абкруцілася вакол свайго дзіцяці і саграваля яго. Можна было б пажадаць і кожнаму добраму чалавеку столькі спрыту і энергіі.

— Ну што ж, — сказаў я, — нічога не зробіш, хадзем ужо да нас.

— Не хочацца толькі браць у рукі гэтае мокрае кацянё, — сказала дачка.

Але кошка і не збіралася прасіць нас аб гэтым. Яна сама ўзяла сваё дзіця зубамі за карак і пайшла побач з намі. Так мы прыстойнай сямейкай і прыйшлі ў сваю хату.

У кухні пліта была яшчэ цёплая, і тут жа быў чалеснік[1] рускай печкі. Кошка адразу знайшла сабе месца, дзе ёй будзе лепей за ўсё — у печцы, ля цёпленькай пліты.

— Ну і добра, — сказалі мы, — жыві сабе тут. Толькі, мусіць, павячэраць табе трэба даць.

---

[1] *Чале́снік* — адтуліна за прыпечкам.

Але не паспелі мы падрыхтаваць ёй вячэру, як яна выскачыла з печкі і пачала прасіцца за дзверы. Мы сталі ўгаворваць яе:

— Ды пачакай трохі. Куды ты?

Але яна і слухаць не хацела — усё крычала і драпала дзверы.

Тады мы сцямілі, што перашкаджаць ёй не трэба: яна, відаць, з прыстойнай сям'і, добра выхавана і хоча выйсці на двор на хвілінку.

Выпусцілі яе. Прайшло колькі хвілін, чуем — скрабецца яна ў дзверы. Адчынілі — і бачым: яна прынесла другое кацянё. І зараз жа з ім у печку.

Не скажу, каб мы былі надта ўжо рады, што сям'я наша так хутка павялічваецца, але кошку ўсё ж такі пахвалілі:

— Добрая маці. Маладзец, Багіра.

Тут мы ўсе заўважылі, што яна сапраўды нагадвае Багіру, і аднагалосна зацвердзілі гэтае імя.

Дачка зноў хацела даць ёй вячэраць — і зноў Багіра стала прасіцца за дзверы. Ці не хоча яна яшчэ прынесці нам дзіця? Дзякуем за ласку.

Але што з ёю рабіць? Не пускаць за дзверы, ці што? Прыйшлося зноў выпусціць. А праз некалькі мінут яна сапраўды прынесла трэцяе кацянё...

Такім чынам праз якія паўгадзіны сям'я наша адразу павялічылася на чатыры адзінкі. Сказаць, што мы былі рады, — ніяк нельга. Але да кошкі-маткі адчулі вялікую павагу. Якая яна была сур'ёзная, руплівая. Як ні павернецца, што ні зробіць — усё правільна, разумна, таксама як зрабіў бы кожны з нас. За гэты час яна ніводнай мінуты не патраціла дарэмна і не зрабіла нічога лішняга, не сунула свой нос, куды ёй не трэба, не цікавілася нічым, апрача сваёй справы.

Мы гаворым, што ў жывёл не розум, як мы яго разумеем, а інстынкт, гэта значыць, прывычныя, але несвядомыя рухі і дзеянні, патрэбныя ім для жыцця. Пчала робіць сваю ячэйку, зусім не думаючы, што, як і дзеля чаго яна робіць. Мурашка цягне ў свой бок галінку, а яе зямляк падбяжыць дапамагаць і пачне цягнуць у другі бок — і яны абодва так і будуць тузацца, не ведаючы, што яны робяць. Мы самі, калі дакранаемся рукой да агню, то зараз жа інстынктыўна торгаем руку назад, а потым ужо сваім розумам цямім, у чым тут справа. Усё гэта — праявы інстынкту. Няўжо ж і наша кошка затрымлівала на вуліцы людзей, прасіла іх вярнуцца і памагчы яе дзіцяняці, сачыла, каб дзіця не замерзла, памятала пра іншых сваіх дзяцей і прыносіла іх у хату, адным словам, развіла шырокую дзейнасць, зусім не разумеючы, што і дзеля чаго яна робіць? Не, хай сабе вучоныя людзі гавораць, што хочуць, а мы не згодны з гэтым. Наша кошка, відаць, зусім разумная асоба, і з ёю жыць можна будзе. Нездарма яна нагадвае Багіру, а тая, калі верыць Кіплінгу, магла разважаць лепш за якога-небудзь не надта разумнага чалавека.

Але на другі ж дзень выявілася, што наша Багіра, можа, наогул і вельмі разумная, у арыфметыцы ўсё ж крыху адстала. Дзеці, гуляючы на суседнім двары, знайшлі там мёртвае маленькае кацянё. Відаць, яно замерзла ў гэтую ноч. Не было ніякага сумнення, што гэтае кацянятка — родны брат трох нашых. Кошка, прынёсшы да нас першага, ведала, што там у яе яшчэ ёсць дзеці. Ведала яна гэта і пасля другога. А пасля трэцяга ўжо не ведала. Выходзіць, што яна ўмела лічыць

толькі да трох. Але няхай сабе і так. Усё роўна не ў кожным доме знойдзеш кошку, якая ўмее табе лічыць да трох.

Такім чынам зажылі мы ўсе разам дружнай сям'ёй. Наша Багіра карміла і песціла сваіх дзяцей, як лепей і быць не можа. І ў якой чысціні яна іх трымала! Лізала іх безупынна і ўсюды, не спыняючыся ні перад якім брудам. Затое ж і блішчалі яны ў яе, як цацкі. Ды яны для нас і сапраўды былі цацкамі.

Хто не ведае, якімі мілымі і пацешнымі бываюць малыя кацяняты! Асабліва калі разгуляюцца. Колькі смеху было нам, калі аднаго разу двое з іх пацалаваліся як мае быць: абнялі лапкамі адзін аднаго за шыю і тыцнуліся насамі. Не было такога чалавека, які мог бы прайсці міма іх, калі яны дурэюць. Затое іх маці трымала сябе аж занадта сур'ёзна: ні разу не скокнула, не пажартавала, нават ні разу не ўсміхнулася. Вельмі важная і разумная была Багіра. Як жа было яе не шанаваць!

А праз некаторы час яна паказала яшчэ, што мае і высакароднае сэрца. На наш двор аднекуль прыблудзіла чужое чорнае кацянё. Узросту яно было прыблізна такога, як і нашы, толькі надта брыдкае і няшчаснае: худое, аблезлае, пузатае, з хворымі вачыма і абарваным вухам. Дзеці яго гналі, штурхалі, а яно ледзь рухалася. Ішла раз міма яго Багіра: кацянё пасунулася было да яе, але кошка грэбліва ўхілілася ад яго. А праз дзень бачым — вядзе яго да нас у хату, корміць, ліжа.

Гэтага толькі не хапала. Поўная хата катоў, а тут яшчэ нейкага бруднага прымай. Але як было нам, добрым і разумным людзям, праганяць няшчаснае кацянё, калі нават жывёліна пашкадава-

ла яго? Няўжо мы будзем горшымі за жывёлу? Тады нам сорамна будзе глянуць у вочы паважанай Багіры. Тады і яна і суседскія куры засмяюць нас. Ды і не мы будзем яго гадаваць. Хай сама Багіра і ставіць яго на ногі. Так яна і зрабіла.

Калі кацяняткі падраслі, мы сталі аддаваць іх у людзі. Цэлая чарга стварылася з нашых суседзяў па доме. Калі аддалі першую шэранькую кошачку ў кватэру сёмую, Багіра нібы не заўважыла яе адсутнасці. А вось калі аддалі другое кацянё, у кватэру чацвёртую, і ў нас засталося ўсяго два, тады маці адразу заўважыла, бо лічыць жа да трох умела. Крычыць, шукае па ўсіх кутках, не дае есці тым, што засталіся з ёю, імкнецца за дзверы. Так, галосячы, і з хаты пайшла.

Вярнулася спакойная. Глянула гаспадарскім вокам у адзін куток, у другі, пакарміла дзяцей, памыла іх — і зноў пайшла. Ніякага гора, ніякага крыку. Мала таго — нават начаваць не прыйшла дадому. Што гэта з ёю? Можа, так пакрыўдзілася, што зусім пакіне нас?

Але на другі дзень яна прыйшла. І нават мышку прынесла. Пагасцявала трохі, дагледзела дзяцей — і зноў пайшла гуляць. Вось табе і паважаная Багіра. Трымае сябе, як немаведама хто... А калі праз колькі дзён мы аддалі яшчэ адно кацянё, у кватэру шостую, і ў нас засталося ўсяго адно, то наша Багіра аднеслася да гэтага так, нібы такая справа яе зусім не датычылася. Толькі яшчэ радзей стала наведваць нас. Што такое з ёю здарылася? Але трэба сказаць праўду: дзіця яе ад гэтага ані трохі не цярпела. Усё ж такі некалькі разоў на дзень маці прыйдзе, накорміць, памые, нават паляжыць трохі з ім, — а потым зноў пойдзе.

Глядзім мы раз праз акно — нясе Багіра мышку сваму дзіцяці. Мы пайшлі адчыняць ёй дзверы, але яна... прайшла міма нас і панесла мышку ў кватэру шостую...

Дык вось у чым справа. Вось чаму наша Багіра не гаравала. Вось чаму яна дома не сядзела.

Яна даглядала сваіх дзяцей ва ўсіх кватэрах разам...

У кожнай кватэры лічылі, што кошка толькі і ведае, што іхняе кацянё: прыходзіць, корміць, мые, прыносіць мышэй, гуляе з дзіцем — нібы ў яе іншага клопату няма. А яна гэткім чынам працавала аж на чатыры кватэры. Вось чаму яна была такая заклапочаная, не траціла дарэмна часу, доўга не бавілася ў нашай хаце.

Цікава было яшчэ тое, што мышэй і пацукоў яна насіла па чарзе ва ўсе кватэры, нікога не крыўдзіла. Аднаго разу было так: скрабецца яна ў нашы дзверы, просіцца; яе сынок пачуў і падбег ужо да дзвярэй. Адчынілі мы, глядзім: прынесла Багіра мышку, якую наш каток зараз жа і схапіў. Маці тады завярнулася і пайшла сабе назад: прынесла, аддала — навошта ёй і ў хату ісці? І без таго работы многа: і ў чацвёртай кватэры чакаюць, і ў сёмай, і ў шостай — хоць ты разарвіся.

Можа, хто захоча спытацца: якім чынам Багіра магла абслугоўваць чатыры кватэры, калі сама ўмела лічыць толькі да трох? Нялёгка, вядома, адказаць на такое запытанне замест Багіры, але думаем, што яна сваю хату не лічыла — вось тады і застанецца тры.

Як бы там ні было на самай справе, а мы лішні раз пераканаліся, што наша Багіра — найлепшая кошка ў свеце. Мы нават гатовы былі прасіць

у яе прабачэння за тое, што падумалі, нібы яна сапсавалася і загуляла.

Нарэшце прыйшоў час, калі Багіра зусім пакінула ўсіх сваіх дзяцей і забылася на іх. Мы ахвотна аддалі людзям і апошняга катка, каб жыць толькі з адной іхняй маткай. Ды і хто не хацеў бы жыць з такой разумнай асобай!

Але хутка ў нас з ёю пачаліся непаразуменні. Калі яна пазбавілася клопату аб дзецях і ёй больш не было чаго рабіць, яна пачала ўмешвацца ў нашы гаспадарчыя справы, ды так нахабна, што ніякай рады нельга было даць. Калі хоць трохі адвернешся, недагледзіш — яна зараз жа нашкодзіць. Нічога ад яе не схаваеш — усюды дабярэцца. Калі збан малака накрыты сподкам — яна сподак скіне, калі завязаны — яна перакуліць. Калі буфет зачынены не зусім шчыльна — яна сама яго адчыніць. А раз ухітрылася выцягнуць з закрытай каструлі мяса — і каструля засталася закрытай. А ноччу часам адбываліся такія выбухі ад скінутых рэчаў, што, здавалася, самалёты робяць бамбёжку.

Ужо ж як мы яе ўгаворвалі, сарамілі, выхоўвалі, дрэсіравалі — нічога не выйшла, ніяк не маглі з ёю дагаварыцца. Нічога яна не магла ці не хацела зразумець, хоць і ўмела лічыць да трох.

І цяпер мы шкадуем, што так яе расхвалілі на ўвесь свет.

?

**1.** Якое ўражанне зрабіла на вас апавяданне?

**2.** Што незвычайнае было ў паводзінах кошкі на вуліцы, калі яна заўважыла прахожых? Як яна прымусіла людзей выканаць яе просьбу-патрабаванне?

3. Як трапіла кошка ў гарадскую кватэру? Чым яна надзвычай здзівіла сваіх гаспадароў, як пачувалася на новым «месцы жыхарства»?
4. Якім стала жыццё сям'і пасля з'яўлення кошкі з кацянятамі? За што гаспадары *да кошкі-маткі адчулі вялікую павагу*?
5. Што гаворыць аўтар пра ролю інстынкту ў паводзінах людзей і жывёл? Як Багіра сваімі дзеяннямі абвергла навуковыя высновы?
6. Які жыццёвы ўрок дала кошка людзям, прытуліўшы чужое хворае кацянятка?
7. Прыгадайце, як прымусіла Багіра сваіх гаспадароў і іх суседзяў лічыцца з яе мацярынскімі правамі і абавязкамі, калі кацяняты трапілі ў іншыя сем'і.
8. Якія перамены адбыліся ў паводзінах кошкі, калі яе дзеткі падраслі? Як пра гэта расказвае пісьменнік?
9. Аўтар заканчвае сваё апавяданне пра Багіру словамі: *I цяпер мы шкадуем, што так расхвалілі яе на ўвесь свет*. Як вы думаеце, ці можна пагадзіцца з такім сцвярджэннем? Выкажыце свае меркаванні.
10. Падрыхтуйце вольны пераказ апавядання.

## Пімен ПАНЧАНКА

* * *

Вясёлай маланкаю ластаўка бліскае,
І просіць засмяглая кнігаўка піць.
З драздом і удодам, заранкай і пліскаю
Святлей, чалавечней нам жыць і любіць.

А як салаўі працінаюць наскрозь нас,
А як перапёлкі у жыце крычаць.
А птушкі пяюць то пяшчотна, то грозна,
І ў роздуме добра тады памаўчаць.

Хто птушку пакрыўдзіць —
Той сам сабе здрадзіць.
Жыццём і бацькамі завешчана нам:
Адкласці ўсе справы вясною, а зладзіць
Шпакоўні шпакам, а буслянкі буслам.

Патрэбна штодзённая людзям руплівасць
І песні, каб лашчыла сонца і слых.
Каб дзеці вяліся, каб лад быў шчаслівы,
А гэта прыносяць у хаты буслы.



1. З якімі пачуццямі гаворыць паэт пра птушак? Якімі якасцямі і рысамі надзяляе іх?
2. Якія словы найбольш выразна і поўна выяўляюць пазіцыю аўтара? Зачытайце іх.
3. Як вы разумееце сэнс паэтычных радкоў: *Хто птушку пакрыўдзіць — // Той сам сабе здрадзіць*?
4. Якімі, на думку аўтара, павінны быць жыццё і паводзіны чалавека на зямлі? Да чаго заклікае нас паэт?
5. Падрыхтуйце вуснае выказванне на тэму «Чалавек за ўсё адказны на зямлі». Выкарыстайце пры гэтым радкі з вершаў Пімена Панчанкі «Сармацкае кадзіла», «Вясёлай маланкаю ластаўка бліскае...» або іншых твораў, прачытаных вамі.



# І ДОСЦІП, І МУДРАСЦЬ

## Якуб КОЛАС

### КОНЬ І САБАКА

Свабодны конь гуляў на волі,
І хвост, і грыву распусціў,
Іржаннем ён сваім будзіў
І лес стары, і чыста поле.

Убок прахожы стараніўся,
Яму дарогу уступаў.
Ад страху Рудзька прытуліўся
І толькі ціхенька брахаў.

Каня злавілі, прывязалі,
На вобруць, беднага, ўзялі,
Аборкай[1] ногі абвілі
І борзды бег яго стрымалі.

З-за вугла вылазіць Рудзька:
— Гаў-гаў-гаў! — давай брахаць.
За хвост каня кусае цюцька —
Не адцягнуць, не адагнаць!

---

[1] *Або́рка* — невялікая вяроўка.

Малыя дзеці, што гулялі,
Дзівіліся многа і казалі
(Па дурнаце не разбіралі —
Дзіця малое, як ягня):
— А Рудзька дужшы за каня!

?

1. Дайце кароткую характарыстыку персанажам байкі.
2. Чаму сабака Рудзька баяўся каня на волі?
3. Як паводзіў сябе сабака, калі каня прывязалі, надзелі яму на галаву аброць, ногі абвілі вяроўкай і такім чынам пазбавілі яго свабоды?
4. Ці правільна ацанілі паводзіны Рудзькі малыя дзеці? Прачытайце з захаваннем адпаведнай інтанацыі заключныя словы байкі: *А Рудзька дужшы за каня!* Чаму гэтая ацэнка ўспрымаецца недарэчнай?

**Алесь ЗВОНАК**

## ГАРБУЗ

Здараецца ж такое: на гародзе
Пад сонцам вырас велікан-гарбуз!
Прыгожы, круглы, важкі — дзіва, й годзе! —
Нібыта не гарбуз, а важны туз!

Глядзеў звысоку ён пры ўсім народзе
На землякоў, нібы на чарвякоў:
— Вы — драбяза, ды пры такой пародзе
Вас не адрозніш нават ад гуркоў!

Так выхваляўся ён, так надзімаўся —
Чуваць было, бадай, за тры вярсты!

Ды вось бяда — нябога не ўтрымаўся
І лопнуў, нібы выстрал халасты.

Выснова гэткая: калі зазнаўся —
То сам, як той гарбуз, нутром пусты!



1. Чым вылучаўся гарбуз сярод іншых насельнікаў агарода? Як ён сябе паводзіў?
2. Чым закончыліся для гарбуза яго пахвальба і ганарыстасць? Ці выпадкова напаткала яго такая доля?
3. Як вы думаеце, чалавека з якімі якасцямі паказаў аўтар байкі ў вобразе гарбуза? Як паэт ставіцца да гэтага персанажа?
4. У якіх радках заключаны галоўны сэнс байкі?
5. Пра якога чалавека можна сказаць, што ён *нутром пусты*?
6. Знайдзіце ў творы параўнанні. Як гэтыя параўнанні дапамагаюць ахарактарызаваць героя байкі і яго паводзіны?
7. Вывучыце твор на памяць. Пры чытанні байкі перадайце аўтарскую інтанацыю, яе адценні, характар паводзін персанажа.

## ПРА БАЙКУ

***Байка*** — невялікі, часцей вершаваны твор сатырычнага зместу з алегарычным сюжэтам і павучальнай канцоўкай (мараллю).

Героі байкі — жывёлы, расліны, рэчы, якія нагадваюць людзей, іх паводзіны і норавы. Мэта байкі — высмейванне чалавечых заган і недахопаў, а таксама ўсяго дрэннага ў навакольным жыцці, але не ў прамой, а ў іншасказальнай (алегарычнай) форме.

Ацэнку паводзін і ўчынкаў персанажаў, якую выказвае ў творы аўтар, называюць мараллю байкі. Вывад (мараль) звычайна падаецца ў канцы байкі, часам — у пачатку твора.

Байка мае даўнюю і багатую гісторыю. Узнік гэты жанр у Старажытнай Грэцыі. Першы славуты байкапісец — Эзоп. Жыў ён прыкладна ў VI—V стагоддзях да нашай эры. Напісаныя ім байкі былі празаічныя. Эзопавы творы карысталіся вялікай папулярнасцю, бо захаплялі людзей сваім праўдалюбствам, мудрасцю і досціпам.

У розных краінах і за іх межамі вядомы таленавітыя стваральнікі баек. Праслаўленым байкапісцам Францыі з'яўляецца Лафантэн, у рускай літаратуры — Іван Андрэевіч Крылоў.

Першыя беларускія байкі напісалі Францішак Багушэвіч і Альгерд Абуховіч. Да гэтага жанру звярталіся класікі нашай літаратуры — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Самы славуты беларускі байкапісец *Кандрат Крапіва*. Гэты аўтар не шкадаваў калючага і з'едлівага смеху, калі паказваў адмоўнае ў чалавечым жыцці.

Аматарам беларускай байкі таксама добра вядомыя творы Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Корбана, Эдуарда Валасевіча і іншых пісьменнікаў. Байка — адзін з самых любімых у народзе жанраў мастацкай творчасці.

Ад іншых камічных твораў байка адрозніваецца тым, што ў ёй прысутнічае *сатыра* — з'едлівы, выкрывальны смех. У гумарыстычных творах (анекдотах, гумарэсках) смех, як правіла, нязлосны, добразычлівы, пацяшальны. Чалавек або нейкая з'ява паказваюцца ў камічным, дабрадушна-смешным выглядзе. З дапамогай гумару асобныя, ня-

значныя недахопы ў паводзінах ці характары персанажа, нейкія жыццёвыя з’явы выклікаюць у чытача ўсмешку, ствараюць вясёлы настрой. У байцы ж смех шматаблічны: пацяшальны, крытычны, выкрывальны.



1. Што такое байка?
2. Калі і дзе ўзнікла байка?
3. Чым байка адрозніваецца ад іншых камічных (гумарыстычных) твораў?
4. Якіх беларускіх байкапісцаў вы ведаеце?

**Уладзімір КОРБАН**

## МАЛПІН ЖАРТ

Пасля начной адказнае работы
Трызор і Мурза спалі каля плоту.
Тым часам Малпа не драмала,
Убачыўшы сабак, цішком
Падкралася да іх і матузком
Хвасты звязала.
Сама ж схавалася за вугал і глядзіць,
Каменьчыкамі кідзь ды кідзь, —
Стараецца іх пабудзіць.
Што тут было, калі прачнуліся абое!
Трызора Мурза рве, а Мурзу рве Трызор!
Умомант гырканне ўзнялі такое, —
Ажно гудзе ўвесь двор.
А Малпа ледзьве не кладзецца —
І скача, і крыўляецца, й смяецца,
Так па душы прыйшоўся ёй
Сабачы бой.
А з тых ляціць шматкамі поўсць.

———

І між людзьмі такія ёсць:
Звядуць дваіх, наладзяць склоку[1],
А потым збоку
На цяганіну пазіраюць
І рукі паціраюць.



1. Які жарт учыніла Малпа? Як вы ставіцеся да яе ўчынку?
2. Чаму галоўным героем байкі аўтар выбраў менавіта Малпу? Як тая адчувала сябе, калі сабакі распачалі сварку і бойку?
3. Выкажыце свае адносіны да Мурзы і Трызора. Якое пачуццё выклікаюць у вас гэтыя героі байкі: шкадаванне, спагаду, здзіўленне, асуджэнне ці якое-небудзь іншае?
4. Падумайце, для чаго байкапісец распавёў гэтую гісторыю. Якую важную думку ён імкнецца данесці да чытачоў?
5. Вусна або пісьмова падрыхтуйце невялікае выказванне на тэму «Чаму сябры не павінны сварыцца». Паразважайце, як трэба паводзіць сябе сябрам, калі нейкі нядобразычлівец хоча іх пасварыць.

## Міхась СКРЫПКА

### СВІННЯ І БАРАН

Свіння, задраўшы лыч угору,
Да Барана зайшла ў кантору,
Зарохкала наконт пасады.
Куды б вы думалі? — У грады!
Баран, абклаўшыся паперамі па вушы,
Зірнуў: асоба ў капялюшы!

[1] *Скло́ка* — сварка, непрыязныя адносіны.

І, бэкнуўшы ў нядобрую пару:
— Бяру! —
Накіраваў Свінню у агарод.
А тая лыч пусціла ў ход:
Спаласавала ўсё ушчэнт,
Пасля яшчэ,
Зрабіўшы разварот,
Перакуліла плот!
Калі прынеслі акт аб шкодзе
Ў агародзе
Барану,
Той прачытаў
І забляяў:
— Ну й ну!..
Дык як жа так? Чаму ж?
А капялюш?..

---

Як ты свінню ні апранай
І як ні кліч —
Не забывай
Пра лыч.

?

1. Як здарылася, што Свіння атрымала пасаду *ў градах*?
2. Чаму паводзіны Свінні ў агародзе выклікаюць смех?
3. Якую характарыстыку мы можам даць Свінні? Чым яна, нягледзячы на капялюш, выклікае недавер?
4. У чым была памылка Барана?
5. Перачытайце мараль байкі. Пра што папярэджвае, ад чаго засцерагае аўтар твора?
6. Правядзіце конкурс на лепшых чытальнікаў або на лепшую інсцэніроўку байкі (твор на выбар).



# СВЯТЛО ДАЛЁКАЙ ЗОРКІ

## ПРА ФАНТАСТЫКУ

***Фантастыка*** — гэта вобразы, падзеі ці абставіны, абмаляваныя ў мастацкіх творах, але немагчымыя ў жыцці.

Фантастыка праяўляецца ў асаблівых жанрах: казках, легендах, у навукова-фантастычных творах.

Пісьменнікі ствараюць неверагодныя карціны і сітуацыі дзякуючы свайму ўяўленню, фантазіі, гэта значыць яны нерэальныя, неверагодныя, прыдуманыя. Аўтарская фантазія можа перамясціць нас, чытачоў, у мінулае ці ў будучыню. З фантастычных гісторый перад намі паўстаюць невядомыя і загадкавыя краіны, разгортваюцца падзеі на далёкіх планетах. Аўтары апісваюць выдуманыя, звышнатуральныя з’явы, паказваюць розныя цуды на Зямлі, людзей, якія трапляюць у вельмі дзіўныя жыццёвыя абставіны, і асабліва часта запрашаюць на пошукі дзівоснага ў космас. У літаратурнай фантастыцы нас захапляюць выдуманыя героі — робаты, іншапланецяне, незвычайныя жывёлы і чалавекападобныя істоты.

Пры стварэнні якой-небудзь незвычайнай гісторыі пісьменнікі-фантасты часта звяртаюцца да чарадзейных казак, міфаў, легендаў і чэрпаюць адтуль вобразы, уражанні, займальны матэрыял для пабудовы сюжэта твора. Гэтак, як і ў казцы, чытач робіцца саўдзельнікам цікавых вандровак, таямнічых здарэнняў, нечаканых пераўтварэнняў.

У фантастычных творах уздымаюцца важныя для нас пытанні і праблемы.

Нярэдка пісьменнікі апавядаюць пра грандыёзныя навуковыя адкрыцці або навуковыя ідэі, увасабленне якіх мяняе (ці здольнае перайначыць) жыццё, рэчаіснасць, лёс чалавецтва. Творы такога зместу называюць *навуковай фантастыкай*.

Вы маеце магчымасць пазнаёміцца з выбранымі старонкамі кнігі беларускай пісьменніцы Раісы Баравіковай «Казкі астранаўта» і апавяданнем латышскага пісьменніка Дзінтры Шулцэ «Роберцік». У гэтых творах галоўную ролю адыгрывае свабода, раскаванасць аўтарскай фантазіі. Аўтары малююць незвычайных персанажаў, апавядаюць пра дзівосныя планеты і жыццё на іх. Кожны з аўтараў надае сюжэту твора займальнасць, прыгодніцкі характар. Пісьменнікі даносяць да нас думку пра неабходнасць прыгожага, мудрага ўладкавання жыцця на планеце Зямля і ў Сусвеце, пра тое, як важна цаніць і берагчы ўсё непаўторнае, цудоўнае, унікальнае, не забываць пра дабрыню, чуласць і спагаду да іншых.

Разам з героямі Раісы Баравіковай мы апынаемся на далёкіх планетах, сустракаем там невядомых істот, робімся сведкамі незвычайных падзей і цудаў. Пісьменніца спалучае свет чужых планет і свет роднай Беларусі. Менавіта адсюль, з касмад-

рома пад Раўбічамі, і пачынаюцца вандроўкі доктара Савіча і іншых астранаўтаў на невядомыя і загадкавыя зоркі і планеты. Аўтар надае сюжэтам твораў займальнасць, прыгодніцкі характар, яны чытаюцца з цікавасцю і захапленнем. Гэта казачная фантастыка.



1. Як вы разумееце слова *фантастыка*?
2. Якія сюжэты найбольш распаўсюджаны ў фантастычных творах?
3. Адкуль вельмі часта пісьменнікі запазычваюць фантастычныя вобразы?
4. Прыгадайце адзін з фантастычных твораў, які вам найбольш спадабаўся, і раскажыце пра яго.

## Раіса БАРАВІКОВА

### ГАЛЬШТУЧНІК

*(Урывак з «Аповесці чатырох падарожжаў»)*

Люблю назіраць за кнігаўкамі... Недалёка ад іх кружыць невялічкая птушка гальштучнік, — таксама з сямейства куліковых. Але варта прымружыць вочы, як уяўляецца сядзіба доктара Савіча і тая дзіўная істота, што спрытна падхапіла з зямлі капялюш...

*З нататніка астранаўта*

Калі мы вярталіся на Зямлю з планеты Антарыс-5, якая знаходзіцца ў сузор'і Скарпіёна, то ўвесь наш экіпаж быў расчараваны. Справа ў тым, што гэтая планета мае чырвоны колер, чым нагадвае Марс. Але, як мы высветлілі, з Марсам нічога

агульнага ў яе няма. Паўсюдна — горы і горы. Мы ледзь знайшлі больш-менш роўную пляцоўку, каб пасадзіць наш карабель. Затрымлівацца на планеце, якая ўяўляе сабою каменную глыбу, не мела сэнсу. І мы рушылі да бліжэйшай планетнай сістэмы, куды ўжо даволі часта адпраўляліся экспедыцыі з Зямлі, дзе можна было нейкі тыдзень адпачыць у гатэлі.

Вось тады і з’явілася на нашых экранах тая маленечкая зялёная планета, якая нагадвала невялікі шарык з ранняй сакаўной травы. Нідзе, ні на якіх зоркавых картах яна не значылася, таму цалкам верагодна, што мы маглі быць першымі, хто натрапіў на яе ў касмічнай бясконцасці. Не цяжка здагадацца, што мы вырашылі зазірнуць на тую планету. Што і зрабілі.

Першае ўражанне было такое, нібыта мы трапілі ў Белавежскую пушчу ці Бярэзінскі запаведнік. Альбо і ўвогуле ў нейкі агромністы здзічэлы сад дзе-небудзь пад Нароўляю ці пад Слуцкам.

Але такім было толькі першае ўражанне. Пад кронамі магутных дрэў была не такая ўжо і дзікая паверхня, — месцамі відавочна расчышчаная, месцамі выпаленая: хтосьці раскладваў вогнішча.

— Магу паспрачацца, тут мы сустрэнем гуманоідаў, — сказаў нехта з членаў экіпажа.

— Магчыма, — пагадзіўся камандзір і тут жа запытаўся: — Мне загадаць ці ёсць ахвотнікі спусціцца на паверхню?

Ахвотнік знайшоўся. Гэта быў наш доктар Савіч. Камандзір паглядзеў на мяне:

— Ну, а што наш батанік? Тут ёсць што даследаваць.

І я не пярэчыў, хаця ведаў: тое, што здавалася на паверхні планеты дрэвамі, травою, кустамі, магло быць нечым іншым. Так здаралася не аднойчы. Але на гэты раз камандзір не памыляўся. Як толькі мы з доктарам Савічам ступілі на цвёрды грунт, зразумелі, што раслiннасць наўкол самая што ні на ёсць сапраўдная. Праўда, на Зямлі я такой не сустракаў, і вельмі здзіўляла, што паўсюль быў адзін толькі зялёны колер: зялёная кара дрэў, зялёнае лісце, зялёныя пялёсткі кветак.

А тым часам мы ўжо выйшлі на вялікую паляну, і я, было, падышоў да адной з такіх кветак, якая нагадвала зямную лілею, каб насуперак усім інструкцыям дакрануцца да зялёных пялёсткаў, але не паспеў... Адусюль — з-за кожнага дрэва, з-за кожнага куста (о, дайце веры!) — выбягалі людзі, праўдзівей было б сказаць — дзікуны, і, наколькі гэта можна было зразумець, твары іх свяціліся радасцю. Даўгія валасы, у многіх — бароды, шчокі, зарослыя шчэццю... Толькі на шыі ў кожнага з гэтых людзей чарнела палосачка, а хутчэй, гальштук-бабачка, так часта называюць падобныя гальштукі на Зямлі, якія надаюць святочнаму гарнітуру яшчэ большую ўрачыстасць. Тут, на гэтай Зялёнай планеце, як я яе назваў у думках, гэты гальштук нікому нічога не дадаваў. Адно, — глядзеўся на шыі недарэчна і смешна. Праўда, нам з доктарам Савічам было не да смеху, невядома, як павядуць сябе дзікуны? Але яны выказвалі выключную прыязнасць. А адзін з іх выйшаў наперад і пачаў нешта хутка-хутка гаварыць...

Як жа я быў уражаны, калі доктар Савіч адазваўся ў адказ. Паміж ім і натоўпам завязалася ажыўленая гаворка. Аказалася, што жыхары Зя-

лёнай планеты размаўлялі на лацінскай мове, якая на Зямлі ўжо даўно выкарыстоўвалася толькі ў медыцыне і якою, зразумела, добра валодаў доктар Савіч.

— Што яны табе кажуць? — запытаўся я ў яго.

Доктар пацiснуў плячыма:

— Ніяк не ўцямлю, дзікасць нейкая. Самая сапраўдная дзікасць. Яны шкадуюць, што мы не можам бачыць тых цудоўных кварталаў, плошчаў, вуліц, якія бачаць яны. Маўляў, тут паўсюль вакол нас — навуковыя цэнтры, зоны адпачынку, офісы і спальныя раёны...

— Офісы, навуковыя цэнтры вакол нас? Ды яны — вар'яты! — засмяяўся я і раптам задумаўся. — А зрэшты... Адкуль у іх гэтыя веды? Што ім вядома пра офісы, зоны адпачынку? Хто яны, нарэшце? Перасяленцы з іншых планет? Ці, можа, зямляне? Нашчадкі тых цывілізацый, што існавалі на Зямлі яшчэ да Вялікага патопу? Вось толькі ў іхнім абліччы нічога не засталося ад цывілізаванага свету. Племя дзікуноў! Першая прыступка развіцця чалавецтва.

Гэтымі сваімі думкамі я хацеў падзяліцца з доктарам Савічам, але ён з вялікай цікавасцю размаўляў з гуманоідам, якраз з тым, хто самы першы ўступіў з намі ў кантакт. Іх гаворка цягнулася доўга. Я нават пачаў тое-сёе даследаваць з навакольнага расліннага свету. Але вось доктар падышоў да мяне, і тое, што ён сказаў, адразу прымусіла згадаць пра наш карабель, падумаць пра небяспеку. А ці не час нам вяртацца?

— Бачыш таго, бялявага, — паказваў доктар Савіч на высокага хударлявага бландзіна. — Яго ўнук вынайдзе тут праз паўстагоддзя камп'ютар.

А вунь той... нізенькі, што размаўляе з самым кудлатым з іх. Ён — мастак. Геній! Толькі пра гэта сам яшчэ не здагадваецца. Але праз дваццаць гадоў яго карціны будуць самымі каштоўнымі не толькі на гэтай планеце. Глядзі, бачыш, той, што залез на дрэва... Ён праз дзесяціґоддзе будзе тут самым славутым архітэктарам. Пачне з каменных пірамід і закончыць праектамі з жалезабетону. О-о, а гэты, што бліжэй за ўсіх стаіць да нас, як ні цяжка ў гэта паверыць, але ён стане вынаходцам рухавікоў, і першыя аўтамабілі тут будуць называцца яго імем.

Мне стала млосна. Розум адмаўляўся што-небудзь разумець.

— Нам ужо трэба вяртацца на карабель. Там, напэўна, хвалююцца нашы, — сказаў я доктару Савічу. — Развітвайся з гуманоідамі, і пойдзем адсюль.

Але перш чым развітацца, доктар прыняў падарунак ад жыхароў гэтай нязвыкла зялёнай планеты. Яны завязалі яму на шыю гальштук, такі ж самы, што насілі самі, — чорны гальштук-бабачку.

З гэтага моманту і пачалася трагедыя доктара Савіча. Гэтак я назваў для сябе ўсе далейшыя падзеі. А разгортвалася ўсё наступным чынам.

Зялёную планету мы пакінулі хутка. Можна сказаць, пасля вяртання на карабель неўзабаве і стартавалі. Прыйшоў загад з Зямлі тэрмінова вяртацца. Вось тут доктар Савіч і павёў сябе выключна невытлумачальна. Маўляў, які можа быць загад з Зямлі, якое вяртанне, калі мы можам ляцець да сузор'я Дзевы, дзе на адной з планет, трошкі ўбок ад самай яркай зоркі гэтага сузор'я — Спікі, жывуць браты па розуме, бо тая планета не

што іншае, як копія нашай Зямлі. А потым наш шлях можа пралегчы да сузор'я Шаляў. І там на адной з планет у сістэме тых зорак, якія складаюць сузор'е, ужо даўно вынайшлі машыну часу, якую, калі хто-небудзь з нас пажадае, можа выпрабаваць.

Спачатку да ўсіх гэтых разважанняў доктара мы ставіліся несур'ёзна, чаго не здараецца ад эмацыянальных перагрузак! Але ён пачаў паводзіць сябе агрэсіўна. Спрабаваў прарвацца ў адсек кіравання палётам, каб змяніць курс. І тады мы задумаліся, што ж адбываецца з нашым доктарам? Адказ напрошваўся сам сабою: у доктара ўсе прыкметы лёгкага псіхічнага расстройства, якое з'явілася пасля таго, як ён пачаў насіць на шыі падораны яму гальштук-бабачку. Як толькі мы прыйшлі да такой высновы, адразу ж прапанавалі доктару зняць яго. Гэтая наша прапанова рассмяшыла доктара.

— Ды вам усім і не снілася, што гэты гальштук уяўляе сабою, — сказаў ён. — Гэта — Праграма, завезеная на Зялёную планету прадстаўнікамі адной з самых высокаразвітых сусветных цывілізацый. Усё выключна проста. Таму, хто носіць гэты гальштук, спачатку выдаецца міраж, мара жыцця. Адсюль і тыя дзівосныя гарады, навуковыя цэнтры, зоны адпачынку, якія бачылі наўкол сябе жыхары Зялёнай планеты. Ты ж чуў, батанік. Я табе перакладаў, — звярнуўся ён да мяне і працягваў: — Але ўсялякую мару трэба ўвасобіць у жыццё, зрабіць явай. І гэта прадугледжана Праграмай. Яна выдае ўстаноўкі, падрабязнае тлумачэнне, як і што трэба рабіць, каб гэтую мару здзейсніць. Ну, скажам, нехта хоча стаць вялікім кампазітарам і яму даецца магчымасць уявіць ся-

бе ім. А потым пачынаецца шлях да гэтай вяршыні, па якім і вядзе Праграма.

Доктар Савіч блытаўся, але яго словы гучалі пераканаўча, хаця хтосьці з нас і запытаўся з недаверам:

— Ну, а цябе асабіста куды выводзіць яна?

— Я ж вам усё растлумачыў! У сузор'е Дзевы, дзе мы сустрэнемся з братамі па розуме і па эвалюцыйным развіцці. Трэба памяняць курс, і мы вернемся на Зямлю з грандыёзнай сенсацыяй.

— Гэты твой гальштук сам па сабе ўжо і ёсць сенсацыя, — сказаў я і тут жа папрасіў: — Дай панасіць яго, хаця б на некалькі гадзін.

— Разагнаўся!.. Гэтага ні ў якім разе рабіць нельга, — і далей доктар Савіч засцярог: — Можа здарыцца бяда. Праграма дзейнічае ў станоўчым накірунку толькі тады, калі гэты гальштук дорыцца. Яго трэба атрымаць у падарунак. Інакш спрацоўвае адмоўная энергія, і дзеянні Праграмы робяцца непрадказальнымі.

— Ды глупства ўсё гэта, — сказаў наш бортмеханік. — Казачкі для ідыётаў. Хоць ты, Савіч, і сам доктар, але табе, відавочна, патрэбна медыцынская дапамога.

І гэтыя яго словы сталі апошнімі ў той нашай размове з доктарам Савічам. А калі вярнуліся на Зямлю, хутка дачуліся, што ў Міжнароднай асацыяцыі зоркавых палётаў нашага доктара звольнілі. Для яго пачалося зямное жыццё. Ну, а мы, усе астатнія члены экіпажа, неўзабаве адправіліся ў новае міжпланетнае падарожжа.

Міналіся гады, і, напэўна, ужо праз некалькі дзесяцігоддзяў я вырашыў месяц-другі адпачыць на Зямлі. Космас стамляе. Тады і ўспомніўся мне доктар Савіч. Дзе ён, што з ім? Звярнуўся ў даве-

дачнае бюро Асацыяцыі, дзе адразу ж атрымаў інфармацыю: доктар Савіч жыве недалёка ад Мінска. Мае сваю сядзібу і даўно ўжо адышоў ад лекарскай справы. Мне хацелася пабачыцца з ім, што я і зрабіў неадкладна.

Помню, быў сонечны дзень. Я пакінуў машыну далёка ад доктаравай сядзібы. Вырашыў прайсціся пешшу, сабрацца з думкамі. Згадвалася наша апошняе падарожжа з ім. І, вядома ж, з’яўлялася пытанне, ці захаваў доктар той свой гальштук-бабачку, які атрымаў у падарунак ад жыхароў Зялёнай планеты. Па ім, тым чорным гальштуку на загарэлай шыі, я і пазнаў доктара. Ён у вялікім саламяным капелюшы і ў адных толькі шортах штосьці перасаджваў у гародзе недалёка ад двухпавярховай драўлянай будыніны, якая глядзелася ледзь не палацам. Праходзяць дзесяцігоддзі, а на Зямлі мала што змяняецца.

— Доктар Савіч! Доктар Савіч! — гукнуў я.

І хапіла толькі некалькіх імгненняў, каб доктар пазнаў мяне і кінуўся насустрач. Яго перапаўняла такое радаснае хваляванне, што, здавалася, ён вось-вось задыхнецца. Яму відавочна не хапала дыхання, і, каб было лягчэй бегчы, ён спачатку сцягнуў з галавы капялюш, кінуў на сцежку, а пасля (ці можна было паверыць вачам) сарваў з шыі і гальштук-бабачку, які таксама шпурнуў у траву. А я ж помніў, як тады, на караблі, ён упарціўся, нізавошта не хацеў яго здымаць.

Мы абняліся як добрыя сябры. На вочы набягалі слёзы, такою раднасай была наша сустрэча. І тут я заўважыў, што з будыніны выбегла нейкая дзіўная істота, хутчэй за ўсё, малпачка. Спрытна падняла з зямлі капялюш, а потым і гальштук, і хуценька скіравала да дома, куды неўзабаве падаліся і мы.

— Ты тут жывеш не адзін? — запытаўся я ў доктара і дадаў: — Я паспеў заўважыць нейкае калматае стварэнне. Няўжо гэтак змяніўся клімат на Зямлі, што ў Беларусі пачалі жыць малпы?

— Гэта не зусім малпа, — адказаў доктар Савіч. — Я тады яшчэ не лётаў з вамі. Мяне пасылалі ў блізкія падарожжы. І вось падчас аднаго з тых маршрутаў на Месяцы мы натрапілі на невядомы міжпланетны карабель, які пацярпеў катастрофу. Як ні аглядалі, ніякіх жывых істот не знайшлі. Але ў адным з адсекаў адшукалі прабіркі, у якіх былі зародкі. Ты здагадваешся, што адну з тых прабірак я прывёз на Зямлю. З зародка, што быў у ёй, і з'явілася на свет істота, якую ты назваў малпаю. Але паўтараю, гэта, далібог, не малпа, таму што вельмі хутка яна засвоіла ўсе зямныя мовы. А галоўнае тое, што больш надзейнага, вернага стварэння я не сустракаў. Зараз пазнаёмішся з гэтым маім адданым сябрам.

Мы ўвайшлі ў будыніну, адчынілі дзверы ў адзін з пакояў, і тое, што пабачылі, нас уразіла неймаверна. У шыбіну стукалася, білася крыламі невялікая птушка з чорнай палосачкай-гальштукам на валляку...

— Гальштук! Мой гальштук! — закрычаў доктар Савіч у вялікай роспачы. — Як жа я мог сарваць яго!.. Ты разумееш, што адбылося?! Ён, напэўна, падняў гальштук, начапіў сабе на шыю, і вось здарылася бяда. Ты ж помніш, Праграма, што хавалася ў ім, станоўча спрацоўвала толькі тады, калі гальштук хтосьці атрымліваў у падарунак. Ва ўсіх іншых выпадках, гэта — адмоўная энергія. Мой добры сябар стаў птушкаю! — і доктар Савіч адчыніў фортку...

Птушку мы назвалі гальштучнікам. Яе і цяпер можна сустрэць у Беларусі на вялікіх спустошаных лугах-пашах, куды выганяюць пастухі свае статкі. Толькі гальштучнік не заўважае гэтай спустошанасці. Яму, напэўна, бачацца наўкол зялёныя гаі ды парослыя сакаўною травою паляны. Але справа ўжо не ў гальштучніку...

— Дык тое, пра што ты нам тады расказваў, усё ж было праўдаю? — запытаўся я ў доктара пасля таго, як птушка вылецела ў фортку.

— А ты што, сумняваўся?

— Мы ўсе сумняваліся, — сказаў я. — Думалі, ты страціў розум. Таму цябе і звольнілі.

Тым жа днём я расказаў доктару, што Міжнародная асацыяцыя зоркавых палётаў рыхтуе вялікую экспедыцыю з адной толькі мэтай — расшукаць у касмічных глыбінях братоў па розуме, хто прайшоў падобную да зямной эвалюцыю ў сваім развіцці.

— Трэба ляцець да сузор'я Дзевы, — сказаў доктар і праз невялікую паўзу запытаўся: — Як ты думаеш, мне не адмовяць, калі я папрашуся ў гэтае падарожжа?

Ён сапраўды папрасіўся праз нейкі час. І яму не адмовілі. Мы зноў былі членамі аднаго экіпажа і неўзабаве ляцелі ў сузор'е Дзевы на планету, якая ўяўляе сабою копію Зямлі. Ва ўсялякім выпадку, мы гэтак думалі.



**1.** Якая яна, Зялёная планета, куды трапілі астранаўты?

**2.** Раскажыце пра сустрэчу экіпажа касмічнага карабля з жыхарамі незнаёмай планеты. Як выглядалі гуманоіды? Як яны ўспрынялі гасцей-землян?

3. Які незвычайны падарунак атрымаў доктар Савіч ад гуманоідаў? Як і чаму гэты падарунак паўплываў на яго паводзіны?
4. Якая таямніца звязана з гальштукам? У чым заключаецца яе сэнс? Знайдзіце адказы ў тэксце і зачытайце іх.
5. Як склалася жыццё Савіча пасля касмічнай вандроўкі на Зялёную планету?
6. Што неверагоднае, чароўнае адбылося на сядзібе доктара Савіча?
7. Як выглядаў гальштучнік? Намалюйце птушку і выкарыстайце ілюстрацыю пры пераказе.
8. Перакажыце заключны эпізод твора.
9. Падзяліце ўмоўна тэкст твора на часткі. Падбярыце да кожнай з іх загаловак.
10. Чаму твор Раісы Баравіковай лічыцца фантастычным?
11. Каб падрабязней даведацца пра далейшы лёс доктара Савіча і калі вас зацікавілі касмічныя падарожжы беларусаў, прачытайце кнігу Раісы Баравіковай «Казкі астранаўта» ў час летніх канікул.

## Дзінтра ШУЛЦЭ

### РОБЕРЦІК

Фаіс была проста дзівосная планета. Яе аранжавыя даліны, змрочныя цясніны[1] і беласнежныя вяршыні гор то цямнелі, то святлелі, таму што планета была зусім невялічкая і час на ёй імчаў

[1] *Цясні́на* — тут: вузкі праход паміж гарамі, скаламі.

вельмі хутка. Нязвыклыя зямлянам суткі на Фаіс здаваліся вельмі кароткімі.

На Фаіс не было ні палёў, ні садоў, і калі на ёй высадзіліся людзі з Зямлі, яны прывезлі з сабою ўсё патрэбнае для жыцця. На аранжавых раўнінах пабудавалі касмадромы, на высокіх гарах паставілі антэны, а цяністыя цясніны пакрылі люстэркавым рэчывам, каб выкарыстаць адлюстраваную энергію белага сонца Фаіс.

Чым больш людзі абжывалі Фаіс, тым часцей іх караблі выкарыстоўвалі яе як прамежкавую станцыю ў космасе, тым больш планета беззваротна траціла сваю яркую прыгажосць.

Аранжавыя даліны зніклі пад пластыкам, з цяснін павылазілі і распаўзліся ў розныя бакі тоўстыя і тонкія кабелі, а горныя вяршыні больш нельга было ўбачыць за густымі кратамі лакацыйных антэн.

Шасцёра астранаўтаў, якія жылі на Фаіс, пакрысе асвойталіся на планеце, ранкам з асалодай любаваліся ўзыходам сонца, а ў тыя ночы, калі не ўдавалася заснуць, садзіліся ў свой старэнькі ўсюдыход і кіраваліся на другое паўшар'е — пазагараць у адной з яшчэ не цывілізаваных далін.

Акрамя людзей, на Фаіс жыў робат. Называлі яго Роберцік. Ён не толькі забаўляў людзей — ён правяраў яшчэ лініі напружання, што цягнуліся ад назапашвальнікаў энергіі. Роберцік рабіў гэта дзіўным чынам: ішоў уздоўж лініі, не выпускаючы правадоў з жалезных пальцаў, і пасвістваў; і чым вышэйшае было напружанне на лініі, тым весялей гучала яго песенька.

Ва ўсім астатнім Роберцік быў проста маленькі дураслівец, які пацяшаў астранаўтаў сваёй балбат-

нёй, часам нечым памагаў, але часцей замінаў. Начамі, калі людзі засыналі, Роберцік, якому не патрэбен быў адпачынак, блукаў па маленькай планеце, забаўляючыся тым, што прымушаў правады іскрыцца, перасоўваў з месца на месца ракеты, ездзіў на старым усюдыходзе, а з набліжэннем раніцы старанна гатаваў сняданак.

Будзіць людзей і гатаваць ім раніцаю каву прыносіла Роберціку велізарнае задавальненне. Ён, усміхаючыся, сядзеў у канцы стала і ўважліва сачыў за людзьмі.

Роберт адрозніваўся ад тых серыйных робатаў, якія калісьці выкарыстоўваліся экспедыцыямі пры асваенні планет. Ён насіў кароткія штонікі. Праўда, спачатку ён патрабаваў надзець яму такі самы касцюм, які насілі ўсе астранаўты. Аднак такі касцюм закрыў бы мноства індыкатараў[1] і кнопак кіравання ў розных месцах яго корпуса, якія павінны былі заўсёды быць на вачах. Так што давялося яму згадзіцца на спецыяльна яму пашытыя кароткія штонікі.

З усіх астранаўтаў, якія працавалі на Фаіс, Роберцік больш за ўсё пасябраваў з Увальдам, якога тады называлі проста Увіс. Ён быў самы малады ў экіпажы, і маленькая планета стала першым месцам работы ў яго жыцці.

Увіс добраахвотна ўзяў на сябе ўвесь клопат пра Роберціка. Чысціў, змазваў, правяраў рэжымы і ніколі не пакідаў па-за ўвагай ніводнай Роберцікавай скаргі на кантакты, што пачыналі іскрыцца,

---

[1] *Індыка́тар* — прыбор для вымярэння фізічных велічынь, адлюстравання ходу працэсаў або стану аб'екта назірання.

на суставы, якія парыпвалі, ці на зменлівае напружанне. Псаваўся Роберцік рэдка, у яго былі трывалая канструкцыя, мозг сярэдняга аб'ёму і павялічаны блок запісу інфармацыі. Увісу часам здавалася, што Роберцік запамінае мноства ўсялякай лухты замест таго, каб запаўняць блокі памяці якімі-небудзь карыснымі звесткамі.

У кароткія і бясконца цудоўныя на Фаіс світальныя часіны Увіс з Роберцікам нярэдка любаваліся ўзыходам сонца з-за найбліжэйшага пагорка. Аднак Роберцік і тады больш глядзеў не на сонца, а на Увіса, таму што відовішча ўсходу, аднойчы зафіксаванае ў памяці робата, больш не цікавіла яго. А Увіс кожны раз адметна выказваў сваю радасць і захапленне.

Калі яны вярталіся ў лагер, Увіс звычайна задаваў Роберціку пытанні; яму было цікава, як робат уяўляе сабе розныя жыццёвыя з'явы.

— Роберцік, што такое кветкі?

— Рэдкі ў Сусвеце працэс, калі неарганічныя[1] злучэнні ператвараюцца ў арганічныя[2].

— А дождж?

— Кругазварот вадароду і кіслароду, — адразу ж адказваў Роберцік.

Тут Увіс пачынаў расказваць пра Зямлю. Роберцік слухаў яго ўважліва: у такія хвіліны ён уяўляў сябе амаль чалавекам і адчуваў, што ў яго жалезным целе адбываюцца нейкія незапраграмаваныя працэсы і змены; яму хацелася кудысьці

---

[1] *Неарганíчны* — якія не належыць да расліннага або жывёльнага свету; нежывы.

[2] *Арганíчны* — тут: жывы, які мае адносіны да арганізмаў, належыць да жывёльнага або расліннага свету.

ляцець, чамусьці спяшацца, яго хваляваў ветрык, што дзьмуў на Фаіс і звычайна адзначаўся толькі барометрам. Роберціку здавалася, што ён улоўлівае водар кветак, які далятае з сенажацяў Зямлі, што высока ў небе павольна лунаюць птушкі (а птушак на Фаіс ніколі не было) і што голыя схілы гор акрываюцца зялёным дыванам.

Дзень мінаў за днём, і вось надышоў час чарговага палёту на Зямлю, каб папоўніць запасы харчавання, вады і тэхнічных матэрыялаў. Палёт лічыўся нескладаным, і звычайна яго выконваў адзін чалавек. Зразумела, кожнаму астранаўту карцела пабываць дома, таму лятали ўсе па чарзе.

На гэты раз павінен быў ляцець Увіс. Ён папрасіў дазволу ўзяць з сабою Роберціка. Яму дазволілі, бо пэўны час можна было абысціся і без робата.

Так Роберцік убачыў Зямлю, сапраўдную жывую планету. Дагэтуль ён ведаў толькі Фаіс. Але што такое Фаіс у параўнанні з Зямлёй! Яркая паверхня Фаіс нагадвала ўбранне, пашытае з мноства лапікаў аднаго колеру, Зямля ж была шматфарбная, гарманічная і, галоўнае, жывая.

Вярнуліся яны ў дакладны час. Увіс, поўны новых уражанняў, з падвойнай сілай узяўся за работу, не перастаючы паўтараць, як добра і спакойна дома.

Гледзячы на яго, астранаўты прыгадвалі свае першыя палёты і першыя вяртанні і толькі ўсміхаліся. Аднак даволі хутка іх увага пераключылася з Увіса на Роберціка. Бо з робатам відавочна рабілася нешта незразумелае.

Пачалося гэта адразу пасля палёту.

Калі карабель толькі сеў на Фаіс, Роберцік адмовіўся пакінуць яго. Дарэчы, пра гэта ведаў тады

толькі Увіс. Замест таго каб выйсці, Роберцік спыніўся каля адчыненага люка, і Увісу нават здалося, што ў звычайна абыякавым робатавым позірку на гэты раз прамільгнуў страх.

— Што здарылася, Роберцік? — папытаўся Увіс.

— Нічога, — адказаў Робат. — Проста я не хачу на Фаіс.

Увіс устрывожыўся. Робат не павінен гаварыць «не хачу». Роберцік мог бы сказаць: «не магу», «не ўмею», «не маю права» альбо «не ведаю».

— Чаму? — запытаўся Увіс, зусім як у чалавека.

Роберцік не адказаў. У тое імгненне ён быў падобны да маленькага капрызнага хлапчука ў кароткіх штоніках. Так што Увіс проста ўзяў яго за руку і вывеў з карабля.

Але з таго выпадку ўсё і пачалося.

Вясёлы і жыццярадасны Роберцік зрабіўся маўклівы і сумны. Ён часта доўга сядзеў адзін на пагорку, нешта ціхенька спяваючы, і адзінае, што ён яшчэ рабіў з задавальненнем, быў кантроль электрычных ліній.

Штовечар Увіс дбайна правяраў тэхнічны стан Роберціка. Але ніякіх адхіленняў у ім не было, усе вузлы, блокі і ячэйкі працавалі нармальна.

Раніцамі Роберцік больш не гатаваў.

— На кухні занадта горача, — тлумачыў ён Увісу, седзячы на касмадроме ў цяньку вежы кіравання. Увіс тым жа вечарам праверыў тэрмастаты[1]. Не, усё было спраўнае.

Усходы яны, як і раней, сустракалі ўдвух, але Увіс больш не задаваў пытанняў, баючыся пачуць

[1] *Тэрмаста́т* — прыбор для падтрымання пастаяннай тэмпературы.

у адказ што-небудзь зусім незвычайнае. Увіс разумеў, што пагражае робату, калі і іншыя заўважаць яго дзівацтвы. Пакуль яшчэ ўдавалася выкруціцца, спасылаючыся то на сапсаваны блок, то на разраджаныя акумулятары альбо разрэгуляваны рэжым, але, калі так будзе прадаўжацца, бясконцыя няспраўнасці могуць здацца падазронымі.

Увіс пачаў усё часцей браць Роберціка з сабою ў далёкія выезды, часцей даручаў правяраць лінію, стараючыся не пакідаць робата без працы.

Але хутка перастала дапамагаць і гэта. Роберцікавы капрызы станавіліся ўсё больш відавочныя. То ён адмаўляўся прабыць ноч на свежым паветры, заяўляючы, што ночы на Фаіс занадта халодныя, то патрабаваў узмацніць яго ахоўныя схемы, каб паменшыць напругу, якая праходзіла праз яго пры праверцы ліній... Падчас прагулак Увіс пачаў сур'ёзна гаварыць з Роберцікам, тлумачачы яму, што ў людзей і робатаў — розныя правілы жыцця, што робатаў, калі яны не выконваюць загадаў, можна караць, аддаваць у рамонт, замяняць альбо наогул разбіраць на часткі.

— Ну і няхай, — адказваў Роберцік, нават не гледзячы на Увіса.

І настаў дзень, калі Роберцік зусім адмовіўся працаваць. Ток высокага напружання, па яго словах, быў яму небяспечны, а на лініі можна абысціся і без робата — можна ўключыць у ланцуг звычайныя індыкатары, а таксама аўтатрансфарматары[1], якія дарэмна пакрываюцца пылам дзесьці ў далёкім кутку склада.

---

[1] *Аўтатрансфармáтар* — апарат для павышэння або паніжэння напружання электрычнага току.

Не дапамагалі ні ўгаворы, ні пагрозы. Спакойны і абыякавы, Роберцік стаяў перад шасцю астранаўтамі.

— Дык ты будзеш працаваць?

— Не.

— Цябе адправяць у разборку.

— Няхай.

— Можа, ты скажаш — чаму?

— Я не хачу заставацца на Фаіс.

— Ды чаму ж?

— Фаіс — нежывая планета.

Ён казаў праўду.

Сход вырашыў паведаміць пра няспраўнасць робата на базу. У хуткім часе ім адказалі, што новы робат высланы, а Роберціка трэба разабраць на часткі.

Выканаць гэта, аднак, аказалася вельмі цяжка. Усе згаджаліся трываць Роберцікавы капрызы, рамантаваць яго, наладжваць і ўгаворваць, але разабраць?.. Гэта было амаль тое самае, што забіць.

Насуперак усім інструкцыям людзі вырашылі даць Роберціку поўную свабоду дзеянняў. Ён жа не рабіў нічога дрэннага. Трэба было хіба што больш пільна сачыць за ім, але меры прымаць толькі ў выпадку крайняй патрэбы.

Вестку пра тое, што хутка на Фаіс з'явіцца яшчэ адзін робат, Роберцік сустрэў зусім спакойна. Некалькі сутак ён нерухома сядзеў у цеснай аранжарэі, дзе клімат нагадваў зямны і дзе астранаўты ў вольны час саджалі, палівалі і палолі прывезеныя імі расліны.

— Не сядзі тут, — папярэдзіў Увіс. — Вельмі сыра, і шмат азоту ў паветры, табе гэта шкодзіць.

— Ведаю, — адказаў Роберцік. — Але я павінен быць тут.

Дарэмна спрабаваў Увіс забавіць Роберціка якой-небудзь работай. Роберцік нікуды не выходзіў. А ў тую раніцу, калі Увіс першы раз сустрэў усход сонца адзін, астатнія астранаўты рыхтаваліся прыняць карабель з новым робатам.

— Роберцік, цяпер у цябе будзе сябра, — сказаў Увіс, зазірнуўшы ўвечары ў аранжарэю.

— Мне ўсё роўна.

Увіс хацеў, як заўсёды, праверыць і змазаць робата, але той адмовіўся:

— Не трэба. Табе цяпер хопіць работы з новым. Раскажы лепш яшчэ пра Зямлю. Я паспеў там убачыць так мала... Там шмат такіх вялікіх дрэў, як тыя, што растуць каля касмадрома? Помніш, як я ішоў па сцежцы і ўвесь час спатыкаўся аб карані? Памятаеш? А чаму ты не спатыкаўся і не падаў? Я ўвесь час думаў пра гэта і вось нарэшце зразумеў. Гэта таму, што ты нарадзіўся на Зямлі і ўсё ведаеш загадзя...

Увіс разгубіўся. Каб такое сказаў чалавек — яшчэ зразумела, але робат...

— Праўда, — сказаў ён. — На Зямлі шмат лясоў.

— Чаму ты не жывеш там?

— На Фаіс у мяне работа.

— Хіба на Зямлі яе няма?

— Знайшлася б...

— Тады чаму ты тут?

— Я люблю лётаць, падарожнічаць, бачыць новыя планеты...

— Нават непрыгожыя? Нежывыя?

— Усялякія.

— Не разумею, — сказаў Роберцік і адвярнуўся.

Увіс пайшоў. Калі назаўтра раніцай ён убачыў робата, той сядзеў нерухома. Агеньчыкі, што асвятлялі яго твар, патухлі, стрэлкі прыбораў стаялі на нулі, хоць акумулятары былі зараджаныя. Правая Роберцікава рука была выцягнутая да абагравальніка. Увіс нагнуўся і ў жалезнай далоні ўбачыў маленечкі зялёны парастак, малюпасенькую елачку са светлымі, аксамітнымі іголкамі. У жмені быў пясок, і парастак трымаўся ў ім, чапляючыся ледзь бачнымі карэньчыкамі.

* * *

Самым дарагім талісманам, што прывёз на Зямлю доктар трох касмічных навук Увальд, быў невялічкі крышталёвы блок.

Усе дваццаць гадоў, якія прабыў вучоны на розных планетах, станцыях, касмадромах, а потым і ў навуковай групе Цэнтра, Увальд бярог і ўсюды вазіў з сабою гэтую цацку.

Вярнуўшыся на Зямлю, ён пасяліўся ў сваёй лясной хатцы і часта цэлымі днямі блукаў сярод маладых елачак, а вечары бавіў каля каміна. Зрэдку, у нейкія яму аднаму вядомыя дні, Увальд уключаў тэлевізійны запіс.

Крыніцай запісу быў маленькі крышталёвы блок.

Мала хто бачыў гэты запіс.

Сярод астранаўтаў хадзілі чуткі, што ён паказвае нейкую аранжавую планету, вельмі прыгожую і маленькую.

Яе акрывалі зялёныя лясы і квітнеючыя сады.

Птушкі, звяры і насякомыя на гэтай планеце вельмі нагадвалі зямных.

Рэкі і азёры былі таксама як зямныя.

І ўсяго гэтага там было шмат.

Але больш за ўсё на планеце расло елак.

Увальд нічога не расказваў пра паходжанне гэтага запісу. Аднак яго былыя калегі запэўнівалі, што крышталь — гэта ўсё, што засталося ад блока памяці нейкага разабранага калісьці робата.

Праўда, спецыялісты лічаць, што такой планеты няма і быць не можа. Але іншыя пярэчаць, што ў блоку памяці не можа фіксавацца тое, чаго не існуе ў рэчаіснасці, бо робаты не здольныя ні фантазіраваць, ні марыць.

Нядаўна Увальд завяршыў даследаванне пра здольнасць электроннага мозгу да творчай дзейнасці. Аднак яго высновы пакуль прыняты толькі як гіпотэзы[1], бо кожны ведае, што ў робатаў няма ўяўлення.



1. Як выглядала планета Фаіс? Чаму з цягам часу людзі сталі выкарыстоўваць яе як прамежкавую станцыю ў космасе? Чаму планета паступова *беззваротна траціла сваю яркую прыгажосць*?
2. Хто такі Роберцік? Якім вы яго ўяўляеце?
3. Чым адрозніваўся ён ад іншых робатаў? Чым займаўся, як ладзіў з людзьмі?
4. Раскажыце пра адносіны Роберціка з Увісам. Як яны бавілі час, пра што гутарылі?
5. Прыгадайце, як Роберцік трапіў на Зямлю. Што надзвычай уразіла яго там?

---

[1] *Гіпо́тэза* — навуковае меркаванне, якое патрабуе праверкі на вопыце, перш чым стаць навуковай тэорыяй.

6. Як змяніўся робат пасля вяртання на планету Фаіс? Чым вы гэта растлумачыце?
7. Як ставіліся да дзівацтваў Роберціка Увіс і іншыя астранаўты?
8. Чаму, на вашу думку, Роберцік адмовіўся працаваць? Як успрынялі яго рашэнне людзі?
9. Што сталася з Роберцікам? Перачытайце радкі тэксту, у якіх аўтар пра гэта гаворыць. Выкажыце свае меркаванні і ўражанні.
10. Чаму крышталёвы блок быў для Увіса самым дарагім талісманам?
11. Як вы думаеце, чаму Увіса зацікавіла праблема здольнасці электроннага мозгу да творчай дзейнасці? Паразважайце, да якіх высноў вучоны мог прыйсці.
12. Разгледзьце рэпрадукцыю карціны на касмічную тэму «Пейзаж на Сатурне», створаную мастаком Язэпам Драздовічам у 30-я гады мінулага стагоддзя. (Гл. уклейку.) Якім уяўляўся мастаку Сатурн? Апішыце свае ўражанні ад карціны.
13. Што збліжае вобразы далёкіх планет, створаныя Язэпам Драздовічам і Дзінтрам Шулцэ?
14. Якімі вы ўяўляеце іншыя планеты? Намалюйце іх краявіды, незямных істот або тое, што падкажа ваша фантазія.

# КАРОТКІ СЛОЎНІК ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫХ ТЭРМІНАЎ

**Алего́рыя** — іншасказанне; карціна або вобраз, якія маюць пераносны, прыхаваны сэнс. Алегорыя абапіраецца на абагульненні розных жыццёвых з'яў: *воўк — злосць, нелюдзімасць, прагнасць і жорсткасць; дуб — моц, сіла, трываласць; ліса — хітрасць* і г. д.

**Апавяда́льнік** — асоба, ад імя якой вядзецца аповед.

**Апавяда́нне** — невялікі празаічны твор, у якім расказваецца пра асобную падзею, выпадак або здарэнне ў жыцці героя. У апавяданні няшмат персанажаў, дзеянне адбываецца на працягу невялікага адрэзка часу.

**Апіса́нне** — спосаб паказу жыцця, мастацкая характарыстыка абставін, месца дзеяння, абмалёўка знешняга выгляду героя, карцін прыроды.

**Апо́вед** — паведамленне, расказ пра падзеі, паводзіны, учынкі герояў і іх узаемаадносіны; рух і развіццё дзеяння ў творы.

**Апо́весць** — мастацкі твор, пераважна празаічны, у якім расказваецца пра шэраг падзей, што адбываюцца на працягу значнага перыяду жыцця галоўнага героя, паказваюцца яго ўзаемаадносіны з іншымі персанажамі.

**Ба́йка** — невялікі, часцей вершаваны твор сатырычнага зместу з алегарычным сюжэтам і павучальнай канцоўкай (мараллю).

**Батле́йка** — перасоўны лялечны тэатр, вядомы ў Беларусі з XVI стагоддзя.

**Во́браз маста́цкі** — карціна жыцця, створаная пры дапамозе творчага ўяўлення пісьменніка, якая адлюстроўвае яго думкі, пачуцці і эмацыянальна ўздзейнічае на чытача. Мастацкім вобразам можа быць герой твора — чалавек, жывёла, нават прадмет, а можа быць пейзаж, мастацкае апісанне нейкай рэчы, з'явы прыроды.

**Геро́й літарату́рны** — мастацкі вобраз чалавека, які паказаны ў творы. Ужываюцца таксама паняцці: персанаж, дзейная асоба, літаратурны характар.

**Гіпе́рбала** — моцнае перавелічэнне ўласцівасцей, якасцей прадмета або з'явы з мэтай мастацкай выразнасці: *Узмахне крылом — быццам бор шуміць, // Узмахне другім — што мяцель гудзіць* (Максім Багдановіч).

**Гу́мар** — паказ чаго-небудзь у камічнай, дабрадушна-смешнай форме.

**Дэта́ль** — рыса, выразная падрабязнасць у паказе паводзін, апісанні знешнасці героя, абстаноўкі. Надае карціне, эпізоду эмацыянальную афарбоўку.

**Ідэ́я** — абагульненая думка, асноўны сэнс мастацкага твора, тое галоўнае, што хацеў сказаць аўтар.

**Іро́нія** — мастацкі прыём, спосаб камічнага паказу, у аснове якога ляжыць стоеная насмешка: сцвярджаецца супрацьлеглае таму, што думаюць пра асобу ці прадмет.

**Кампазі́цыя** — уся складаная будова літаратурнага твора, размяшчэнне і спалучэнне ўсіх яго частак, раздзелаў, эпізодаў, сцэн.

**Мета́фара** — перанясенне ўласцівасцей адной з'явы на другую, чым-небудзь падобную на яе: *А дзень* ***гарыць****, а дзень* ***палае*** (Якуб Колас).

**Міф** — старажытны народны аповед пра паходжанне свету, жыццё прыроды і чалавека.

**Паралелізм** — кампазіцыйны прыём, пры якім два вобразы, чым-небудзь падобныя або процілеглыя, раскрываюцца ў супастаўленні, паралельна, у выглядзе разгорнутага *параўнання*. Сустракаецца так званы *адмоўны паралелізм*.

**Параўна́нне** — мастацкі прыём, характарыстыка аднаго прадмета, з'явы пры дапамозе супастаўлення яго з іншым на аснове іх падабенства: *Весні дзень, **як лядзень,** // Сходзіць **звонкай слязой...*** (Сцяпан Гаўрусёў).

**Пейза́ж** — малюнак прыроды ў літаратурным творы, які дае магчымасць уявіць месца дзеяння, характарызуе душэўны стан героя, яго паводзіны.

**Пе́сня** — вершаваны і музычны твор для выканання голасам (спявання).

**Пе́сня літарату́рная** — песня, створаная на словы паэта.

**Пры́тча (пры́павесць)** — невялікі твор павучальнага характару, алегарычны па форме.

**Рытм** — раўнамернае паўтарэнне, чаргаванне вершаваных радкоў, а ўнутры радкоў — націскных і ненаціскных складоў.

**Ры́фма** — сугучнасць канчаткаў радкоў у вершаваным творы.

**Саты́ра** — вострае, з'едлівае выкрыццё адмоўных з'яў жыцця і недахопаў чалавечага характару.

**Сі́мвал** — умоўнае абазначэнне думкі, ідэі, перажывання, з'явы праз мастацкі вобраз, які нечым нагадвае іх. Напрыклад: *жыта — сімвал жыцця, мірнай працы, шчасця; крыж — сімвал веры*.

**Страфа́** — частка вершаванага тэксту, якая змястоўна аб’ядноўвае некалькі радкоў.

**Сюжэ́т** — паслядоўнае разгортванне падзей, у якіх выяўляюцца характары і ўзаемаадносіны герояў. Выдзяляюць этапы сюжэта: экспазіцыя, завязка, развіццё дзеяння, кульмінацыя, развязка.

**Тро́п** — ужыванне слова ў пераносным значэнні (эпітэт, параўнанне, метафара, сімвал, гіпербала, алегорыя і інш.). Тропы дапамагаюць пісьменніку вобразна, маляўніча перадаць жыццёвыя з’явы.

**Тэ́ма** — жыццёвая з’ява або кола з’яў, пра якія ідзе размова ў творы.

**Увасабле́нне** — мастацкі прыём, калі нежывым, неадушаўлёным прадметам і з’явам надаюцца ўласцівасці чалавека або жывых істот: *Дажджы за морамі* ***паснулі*** (Міхась Стральцоў).

**Фанта́стыка** — гэта вобразы, падзеі ці абставіны, абмаляваныя ў мастацкім творы, але немагчымыя ў жыцці.

**Эпі́тэт** — мастацкае азначэнне, якое вобразна характарызуе з’яву, прадмет, чалавека: *Зямля мая то* ***мяккая****, то* ***мулкая****, // Ад навальніц* ***прасторная і гулкая*** *— // Такая непаўторная заўсёды. //* ***Ад спёкі разамлелая, спакойная,*** *//* ***Бярозавая, бэзавая, хвойная*** *— // Яна найпрыгажэйшая заўсёды* (Пімен Панчанка).

## ЗМЕСТ

## Сэрцам народжаны спеў (67)



## Біблія — вечная і дзівосная кніга (87)



## Каляндар роднай прыроды (110)

**Чалавек — гэта цэлы свет** (132)



**Покліч мінулых стагоддзяў** (196)



**Вайна — боль і памяць народа** (212)

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Бельскі** Алесь Іванавіч
**Цітова** Людміла Канстанцінаўна

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА**

Вучэбны дапаможнік
для 6 класа агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастак *С. Л. Рыжыкава*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *І. У. Шутко*
Карэктар *Ю. А. Якаўчэнка*

Падпісана ў друк 14.07.2010. Фармат 60×90 $^1/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 20.
Ул.-выд. арк. 11,44 + 0,36 форз. Тыраж 112 500 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка
каляровага друку». ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск